ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

22 красавіка 1994 г. № 16 (3738) Кошт 150 руб.

## ШЛЯХ ДА АДЗІНСТВА — ПРАЗ АДРАДЖЭННЕ

***Васіль ЗУЁНАК: «Ніяк не згодзен з тым і з тымі, хто гаворыць, што Саюз пісьменнікаў як арганізацыя даўно ўжо ўстарэў. Саюз пісьменнікаў ва ўсякім разе патрэбен нам да таго часу, пакуль стаіць на парадку дня наша самая галоўная задача — нацыянальнае Адраджэнне».***

3

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ НЕ МАЕ ПРАВА МАЎЧАЦЬ

***Васіль СОКАЛ: «Кіраўнікі нацыянальна-дэмакратычных партый, якія стаяць на пазіцыях вызвольнага руху і пазітыўнага нейтралітэту, павінны адрынуць эгаістычныя амбіцыі на лідэрства ў дэмакратычным руху і зніто́ўваць усе дэмакратычныя плыні ў адзіны паток, стварыць з іх маналіт і выступіць адзіным фронтам на маючых адбыцца выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Каб перашкодзіць рэакцыйным сілам паставіць на чале нашай дзяржавы чалавека са світы, які дашчэнту зруйнуе нашу незалежнасць».***

5

## НА ЧОРНЫХ ЛЯДАХ ГІСТОРЫІ

***Дзмітрый БУГАЁЎ: «У апошнія гады мы сталі прызвычайвацца да таго, як Быкаў піша пра самыя складаныя павароты даваеннага жыцця, у прыватнасці, пра трагічныя аспекты гвалтоўнай калектывізацыі. А цяпер пісьменнік зрабіў яшчэ адзін крок у глыбіню нашай трагічнай гісторыі».***

6—7

## ПАХАВАЛЬНАЯ ВЁСЦЫ?..

Яшчэ не наступіў 1986-ты, яшчэ не было Чарнобыля...

У невялікай вёсцы Лясань, што за Чэрыкавам, жыў цікавы чалавек. А цікавы ён быў тым, што іграў адразу на дзвюх дудках.

Унікальны дзед. На здымку не бачна, але дудкі між сабою звязаны. Ці то каб не губляліся, ці не блыталіся левая з праваю... У гэтай звязцы яны былі ўжо больш за паўсотню год.

— Дудкі я купляў у Вепрыне ў майстра за пяць рублёў.

Гэта было да вайны. Герасім Мазікаў вярнуўся з акопаў інвалідам. Але пакуль праліваў кроў, жонка Парасся хавала інструменты і берагла. Герасім быў шорнікам, цесляром. А за некалькі год перад Чарнобылем сам змайстраваў сабе скрыпку...

Летась на беларускай зямлі не стала вёскі Лясань. Нібы чалавека, яе пахавалі. Быццам не было на Чэрыкаўшчыне і Дубраўкі, Зябені, Князёўкі, Лысаўкі, Міхайлаўкі, Астравоў, Халменкі, Пілёнкі, Чудзян, Малінаўкі, Асінаўкі, Халмоў, Каменкі, Кліноў, Калсапіна, Асаўца. Толькі дрэвы і могілкі яшчэ нагадваюць, што ў гэтых мясцінах калісьці сяліліся людзі. Але Чарнобыль пазбавіў іх самага дарагога — бацькоўскага куточка.

Колькі ж яшчэ на нашай зямлі сясцёр Лясані? І колькі яшчэ не пахаваных, але ўжо памерлых, здзічэлых... Восьмы год мы не можам ачуняць ад гора. А на здымку Герасім Мазікаў яшчэ з ахвотаю дэманструе сябе і сваё ўмельства. Роўна за паўгода да катастрофы.

**Анатоль КЛЯШЧУК**

*Фота аўтара*





Напярэдадні падзеі

# ШЛЯХ ДА АДЗІНСТВА — ПРАЗ АДРАДЖЭННЕ

***Як мы паведамлялі ўжо, 27—28 красавіка ў Мінску, у Доме літаратара, адбудзецца чарговы, XI з'езд пісьменнікаў Беларусі. Дэлегатамі яго з'яўляюцца ўсе члены творчага саюза. Будзе магчымасць пагаварыць аб набалелым, падзяліцца клопатамі, якія хвалююць літаратараў, задумацца над праблемамі, без вырашэння якіх не абысціся ў наш складаны, тлумны, а ў многім і супярэчлівы час.***

***Міжволі прыгадваецца, як праходзілі падобныя творчыя форумы раней. Не абыходзілася без разгорнутых справаздачных дакладаў, у якіх, як правіла, асноўнае месца займаў пералік дасягненняў. Называліся прозвішчы, канкрэтныя творы. І толькі як бы мімаходзь згадвалася пра сякія-такія недахопы. І ў заключэнне — высновы ў рэчышчы таго часу: абавязаць, павялічыць адказнасць, павярнуцца тварам, умацаваць сувязі... А як пройдзе гэты з'езд? Ход яго, безумоўна, вызначаць самі дэлегаты. І ўсё ж творчы штаб — а ім з'яўляецца кіраўніцтва СП Беларусі — не сядзіць цяпер, як кажуць, склаўшы рукі. Падрыхтоўка з'езда, як і любога мерапрыемства, патрабуе пэўных высілкаў. Хапае клопатаў і ў старшыні Саюза пісьменнікаў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі В. ЗУЁНКА. І, як высветлілася, не толькі творчых, а і...***

***Слова — Васілю Васільевічу:***

— Я толькі што ад старшыні Мінскага гарвыканкама Аляксандра Міхайлавіча Герасіменкі. Кіраўніцтва саюза паўгода, а то і больш імкнецца даказаць уладам, што на сённяшні дзень пісьменнікі па сваім матэрыяльным становішчы апынуліся недзе ўнізе сацыяльнай лесвіцы. Увесь гэты час «штурмуем» і Саўмін Беларусі. Прымаем захады, каб нам выдзялялі з дзяржаўных сродкаў хоць бы дзвятры кватэры ў год. Пісьменнікам сёння проста няма за што будаваць жыллё. Для прыкладу: так званы сярэдні паэт за кнігу сваіх твораў атрымлівае недзе два мільёны рублёў. Але ж на цяперашні час гэта па сутнасці кошт аднаго квадратнага метра жылля. А кніга ж, у лепшым выпадку, выходзіць за тры гады. Атрымліваецца, што пісьменнік тры гады працуе на адзін... квадратны метр жылля. Дык колькі ж трэба пісаць, колькі кніг выдаць, каб зарабіць хоць на нейкую двухпакаёвую кватэру?! Дамовіліся з Аляксандрам Міхайлавічам Герасіменкам, што напішам сумесны ліст у Саўмін. Звярнуліся таксама да Сяргея Сцяпанавіча Лінга, намесніка Старшыні Савета Міністраў, новага міністра эканомікі.

Для каго, можа, гэта і будзённая справа. Магчыма, трэба было б сядзець за пісьмовым сталом і шліфаваць, як кажуць, высокі «штыль» даклада. Але ж, відаць, такія «пабягушкі» па ўстановах у нечым больш важныя і галоўныя. Трэба ж абараняць не толькі творчыя інтарэсы пісьменнікаў, але і бытавыя, сацыяльныя. У сувязі з гэтым хацелася б крыху паразважаць наконт пытання: дзяржава—улада—пісьменнік. Дарэчы, над гэтымі суадносінамі задумваюцца яшчэ з часоў Пушкіна. Здавалася б, паколькі ў нас суверэнная дзяржава, яна мусіць выступаць у абарону нацыянальных інтарэсаў, а таксама тых, хто абараняе гэтыя інтарэсы, змагаецца за іх сваім словам. А пісьменнікі акурат і належаць да такіх людзей. Праўда, часам чыноўнікі рознага рангу, калі звяртаешся да іх па дапамогу, гавораць: Саюз пісьменнікаў — арганізацыя грамадская, а дзяржава грамадскія арганізацыі не фінансуе. Але ж Саюз пісьменнікаў — як і саюзы кампазітараў, мастакоў і г.д. — найперш арганізацыі творчыя, а за гэтымі творчымі арганізацыямі стаяць творчыя людзі, на якіх трымаецца нацыянальная культура, літаратура, музыка, выяўленчае мастацтва, тэатр... І калі кіраўнікі дзяржавы, так сказаць, нацыянальна зарыентаваны, яны не могуць гэтага не ўлічваць. А што ў нас атрымліваецца? На самым высокім узроўні даюцца лёгкія абяцанні, абнадзейванні. Даходзіць да «нізу» і з'яўляецца рэзалюцыя прыкладна такога зместу: старшыні Саюза пісьменнікаў, ці проста Саюзу пісьменнікаў: «Просим решить этот вопрос и проинформировать Совет Министров»! Мы пісалі, мы, атрымліваецца, і павінны самі прымаць рашэнне.

**— Але ж, Васіль Васільевіч, ёсць меркаванні, як ні дзіўна, і сярод саміх літаратараў, што Саюз пісьменнікаў — гэта ледзь ці не перажытак мінулага. Маўляў, ён, як арганізацыя, даўно ўстарэў, ды і стварыўся ў свой час толькі для таго, каб партыя магла кіраваць літаратурай...**

— Я ўжо пра гэта гаварыў неаднойчы, гатоў паўтарыць яшчэ раз. Ніяк не згодзен з тым і з тымі, хто гаворыць, што Саюз пісьменнікаў як арганізацыя даўно ўжо ўстарэў. Саюз пісьменнікаў ва ўсякім разе патрэбен нам да таго часу, пакуль стаіць на парадку дня наша самая галоўная задача — нацыянальнае Адраджэнне. Магчыма, каму-небудзь і хочацца «разбурыць» творчы саюз. Але ж тым самым будзе разбурана і арганізацыя, якая, як, бадай, ні адна іншая, і жыве ідэямі нацыянальнага Адраджэння, змагаецца за іх, праводзіць іх у жыццё. Узнімае голас, каб народ прачынаўся ад сну нацыянальнага нігілізму, праяўляў сваю нацыянальную свядомасць. Саюз пісьменнікаў, нягледзячы на асобныя нашы рознагалоссі, у цэлым, не сумняваюся, — адзіны. І шлях да адзінства пралягае праз само Адраджэнне. А будзе яно адбывацца паспяхова, створацца спрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай літаратуры, яе далейшага росквіту. Калі і адамрэ Саюз пісьменнікаў, дык толькі тады, як вырашацца галоўныя, найбольш важныя, як кажуць, лёсавызначальныя задачы нашай нацыі, народа. Тады, магчыма, можна будзе асобнаму творцу забрацца ў сваю «вежу» і тварыць там нешта вечнае. На сённяшні ж дзень збіваць літаратараў з тропу, выбіваць з-пад іх ног «арганізацыйны грунт» — небяспечна. І будзе добра, калі на з'ездзе мы яшчэ раз падкрэслім сваю кансалідацыю, агульнасць поглядаў па найбольш важных праблемах.

**— І ўсё ж, Васіль Васільевіч, ці не здаецца вам, што сама структура Саюза пісьменнікаў у такім выглядзе, у якім яна існуе не адзін дзесятак гадоў, выглядае ў нечым закансерваванай, устарэлай. Напрыклад, адно, калі ў даваенны час у літаратуру ішла моладзь, якая часта і належнай адукацыі не мела, і зусім другое сёння, калі за пяро бяруцца ў асноўным ці студэнты, ці выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў. А тут — кансультанты...**

— Калі гаварыць пра нейкую перабудову творчай арганізацыі, дык, на маю думку, гэта ў першую чаргу тычыцца работы Дома літаратара. Ён павінен стаць сапраўдным цэнтрам адраджэнскага руху. Адна справа, калі збіраюцца разам пісьменнікі, гавораць пра нейкія свае праблемы, абмяркоўваюць у нечым вузкацэхавыя пытанні, і зусім іншая, калі да нашых творчых пытанняў будуць падключаны прадстаўнікі шырокай грамадскасці. У нас жа вельмі шмат людзей, якія цікавяцца літаратурай, мастацтвам, любяць іх. Саюз пісьменнікаў праз Дом літаратара і павінен аказаць ім усебаковую падтрымку, бо яны — наша апора ў Адраджэнні. Сапраўды, інстытут кансультантаў аджыў сваё. Ва ўсякім разе паступова аджывае. Кансультанты павінны ўліцца ў структуры Дома літаратара і праводзіць работу з моладдзю, прыхільнікамі беларускай літаратуры, шырэй весці прапаганду мастацкага слова, а яшчэ — наладжваць сустрэчы з прадстаўнікамі іншых творчых прафесій, тымі ж кампазітарамі, што з поспехам ужо і практыкуецца. Кантакты кампазітараў з паэтамі далі жаданы плён. Загучала беларуская эстрадная песня... Яшчэ як загучала! Дом літаратара мусіць стаць творчым клубам з шырокім, вялікім рэзанансам. Неабходна вырашыць і пытанне з Літаратурным фондам, які сёння сядзіць на водмелі. Ён, як вядома, быў аддзелены ад Саюза пісьменнікаў. Я, праўда, заўсёды з'яўляўся праціўнікам гэтага аддзялення, супраць яго агітаваў на пісьменніцкіх сходах, але так атрымалася... З год фонд пахадзіў у сваім «мундзіры», са сваімі «эпалетамі». Цяпер, як быццам, зноў згодзен аб'яднацца з Саюзам пісьменнікаў. Я прыхільнік аб'яднання. Але фонд павінен быць фондам. Літаратурны фонд павінен зарабляць грошы, а не сядзець без казны, як кажуць, з пустой торбай... Як знайсці сродкі — шмат шляхоў. І нейкія спонсарскія паступленні, і, магчыма, акцыі. Можа, хто з пісьменнікаў разбагацее і ў яго з'явіцца жаданне падтрымаць свой Літаратурны фонд.

**— Колькі слоў пра парадак работы з'езда...**

— Пытанні работы з'езда мы ўжо разглядалі. Магчыма, сякія-такія ўдакладненні будуць унесены, калі перад самым з'ездам яшчэ раз склічам раду. А пакуль вырашана, што будуць заслуханы тры асноўныя справаздачныя даклады. Я раскажу аб сённяшнім стане пісьменніцкай арганізацыі і яе перспектывах, пра жыццё творчага саюза і надзеі, звязаныя з ім. Намеснік старшыні Уладзімір Паўлаў зробіць даклад па творчых пытаннях: літаратура, часопісы, сённяшні падыход да з'яў і праблем, разуменне маральных каштоўнасцей, магчыма, некаторая пераацэнка іх. А намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Алесь Пісьмянкоў распавядзе аб працы Дома літаратара на ніве нацыянальнага Адраджэння. Мяркуем, што кожны даклад менш за ўсё будзе нагадваць справаздачу аб зробленым. Найперш гаворка пра тое, што трэба зрабіць, як зарыентавацца ў складанай, няпростай сітуацыі. І, безумоўна, выступіць са справаздачным дакладам старшыня Рэвізійнай камісіі Вячаслаў Рагойша. Будзе справаздача выконваючага абавязкі старшыні праўлення Літфонду Яўгена Каршукова і старшыні Рэвізійнай камісіі Літфонду Генадзя Пашкова. А далей пойдзе гаворка па ўзнятых пытаннях. Думаецца, трэба ўнесці некаторыя ўдакладненні ў статут СП Беларусі. Ён жа прымаўся тады, калі існаваў яшчэ агульны Саюз пісьменнікаў СССР. А пасля выбары...

**Інтэрв'ю ўзяў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

ўладу, як усё скончылася трагедыяй для ашуканых...

Хочацца спадзявацца, што Беларусі і яе людзям сёння хопіць розуму, каб не апынуцца ў такой жа сітуацыі, пазбавіцца ілюзіі, што добрая цётка-Расея задарма напоіць нас і накорміць, ды яшчэ і ў чыстую пасцельку спаць пакладзе. Супраць такога ўяўлення актыўна паўстае і бунтуе пачуццё і розум свабоднага чалавека, дбайнага працаўніка і гаспадара на ўласнай зямлі, шчырага беларуса, дый усіх іншых, што дбаюць і мараць пра шчаслівую будучыню роднага краю і яго народа.

І не дзіўна, што прэзентацыя кнігі Язэпа Юхо і Уладзіміра Емяльянчыка «Я нарадзіўся ліцьвінам...», прысвечаная падзеям двухсотгадовай даўніны, міжволі скіроўвалася ў нашы дні. Бо вельмі ж яны цяпер трывожныя і няпэўныя, і гэтая перадвызначальнічная атмасфера адчувалася і прадчувалася 13 красавіка. Што чакае нас наперадзе, якой гранню (мірнай ці збройнай) паўстане для Беларусі ў недалёкай будучыні цень Касцюшкі — гэтыя няпростыя пытанні так ці іначай узнікалі ў прамовах выступоўцаў.

Ідэя вечарыны ўзнікла досыць нечакана, падчас прыезду ў Мінск сакратара культурна-грамадскага асяродка «Беларусь» у Казахстане Яўгена Майсейчыка, ураджэнца той самай Марачоўшчыны, якая ўскалыхала і ўзгадавала і Андрэя-Тадэвуша Касцюшку. Яшчэ раней, чатыры гады назад, трапілася Яўгену ў рукі кніга Язэпа Юхо «За вольнасць нашу і вашу» — пачытаў, завёз суродзічам у Казахстан, тым таксама кніжка спадабалася, а таму звярнуліся ў беларускі кнігагандаль, каб набыць яе і распаўсюдзіць сярод сваіх браткоў-беларусаў. Кнігі ў продажы ўжо не было, нічым не здолеў дапамагчы і аўтар. Але знаёмства з ім было карысным: узнікла ідэя перавыдання ў дапрацаваным і значна пашыраным варыянце. Дзеля гэтага да працы быў падключаны малады, перспектыўны гісторык новай кагорты Уладзімір Емяльянчык. Выдаткі за выданне кнігі браў на сябе беларускі культурна-грамадскі асяродак у Казахстане, што, дарэчы, таксама паказальна, бо ў самой Беларусі, бачыце, не знайшлося магчымасцей на выданне невялікай кніжачкі... Як бы яно ні было, але кніга з'явілася. І мы пачалі з Майсейчыкам меркаваць, як зрабіць, каб яна хутчэй знайшла дарогу да чытача, набыла грамадскі рэзананс. Вырашылі арганізаваць прэзентацыю. Але рабіць гэта трэба было вельмі хутка, бо Яўгена чакалі свае клопаты і абавязкі ў Казахстане.

Тэлефаную свайму земляку-навагрудцу, загадчыку кафедры гісторыі і тэорыі беларускай культуры, прафесару Дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта Аляксею Рагулю. Той сходу пагаджаецца, мы распрацоўваем механізм арганізацыі мерапрыемства.

Народу сабралася паўнюткая зала. Найбольш моладзі, студэнтаў і аспірантаў — нашай надзеі і будучыні Беларусі.

Адкрываючы вечарыну, Рагуля як заўжды гаварыў дынамічна, эмацыянальна, скандэнсавана і канцэптуальна. Сэнс выступлення заключаўся ў тым, што паўстанне 1794 года не было выпадковасцю, а заканамерным выбухам народнага гневу супраць няволі і прымусу, гвалтоўнага скасавання дзяржаўнасці.

І хоць паўстанне было патоплена ў крыві, ідэя вызвалення, свабоды працягвала жыць, бо толькі поўная незалежнасць можа быць засцярогай ад міжнацыянальных пажараў і закалотаў.

З цікавасцю выслухалі прысутныя выступленні аўтараў кнігі: доктара юрыдычных навук, буйнейшага спецыяліста па Статутах Вялікага княства Літоўскага, палітычнай і дзяржаўна-прававой гісторыі сярэднявечнай беларускай дзяржавы Я. Юхо і кандыдата гістарычных — У. Емяльянчыка, які імкліва набірае навуковую грунтоўнасць, з'яўляецца адной з самых прыкметных постацей маладой кагорты беларускіх навукоўцаў. У. Емяльянчык аргументавана і на фактах паказаў шчыльную родавую і патрыятычную прывязанасць Тадэвуша Касцюшкі да Беларусі, свайго народа. Трапіўшы пасля паражэння паўстання ў далёкую Амерыку, Касцюшка, як і другі наш не менш славуты зямляк, навагрудзец Адам Міцкевіч у Парыжы, трызніў краінай малечых і юначых гадоў. Выдыхнутыя з глыбіні душы радкі Міцкевіча «О Літва, мая Айчына», якімі пачынаецца сусветна вядомы твор «Пан Тадэвуш», арганічна перагукаюцца з такімі ж па эмацыянальнай танальнасці словамі адозваў і запавету, напісаных Касцюшкам.

Пісьменнік Яраслаў Пархута нарадзіўся непадалёку ад Марачоўшчыны і да вайны меў магчымасць неаднойчы бываць на сядзібе Касцюшкі, спаленай у вайну партызанамі таксама суседняй вёскі Скураты. Чаму, навошта, у імя чаго — можна толькі здзіўляцца з вандалізму герастратаў XX стагоддзя. Пра тое ж, што ў гісторыі не павінна быць белых плямаў, што народ павінен ведаць і сваіх герояў, і сваіх здзірцаў — гаварыў студэнт першага курса педуніверсітэта Юрка Рудак.

Усхваляваным і адначасова лагічна вывераным быў выступ Я. Майсейчыка, які ад паўстання і лёсу выгнанцаў перайшоў расказваць пра становішча беларусаў у сённяшнім Казахстане. Пераважная большасць з іх апынуліся ўдалечыні не па сваёй волі, найчасцей па ўсесаюзным размеркаванні і разнарадцы, але цяпер пра іх па сутнасці ніхто і не дбае, і яны не могуць вярнуцца на Бацькаўшчыну. Асабліва балюча ўспрымаць гэта, калі бачыш, як іншыя краіны, той жа Казахстан, робяць усё належнае, каб сцягнуць у сваю краіну са свету духоўны і фінансава-эканамічны патэнцыял. А ў нас нейкая незразумелая абыякавасць, вельмі ж падобная на тое, як калісь генералу Касцюшку адмовілі ў праве заняць годнае становішча на Беларусі і ён вымушаны быў падацца ў Польшчу...

Вечарыну хораша аздобілі мастацкія выступы: «Паланез» Міхала Агінскага сыграла на скрыпцы навучэнка медычнага вучылішча N 2 Тацяна Сулімчык, а потым з цікавай, арганічна беларускай праграмай дэбютаваў фальклорна-этнаграфічны гурт кафедры гісторыі і тэорыі беларускай культуры.

На гэтым можна было б і кропку паставіць. Ды нельга абмінуць той факт, што якраз у той дзень прыйшла вестка аб падпісанні таго самага пагаднення аб уваходжанні Беларусі ў агульную з Расіяй «зону». Тое, што трывожыла і прадчувалася, стала небяспечнай рэальнасцю. Кожны беларус, патрыёт сваёй Бацькаўшчыны, не можа не перажываць з гэтай нагоды. Пра тое, як успрынялася гэтая падзея беларусамі далёкага замежжа, можа сведчыць рэакцыя аўстралійскіх беларусаў, якая выявілася ў адрасаваных мне словах актыўнага дзеяча эміграцыі Алега Шнэка: «Дарагі браток Яўген! Першую старонку факса я напісаў учора, а сёння дапісваю гэтую. Сёння раніцай па навінах з Масквы пачулі гэтую самую дрэнную вестку. Рускія рублі замест нашых, бяспошлінны праезд, вайсковыя базы на Беларусі і г. д. Ні адна дзяржава ў свеце не дазволіла б гэтакую абразу. Сёння да мяне не сціхае тэлефон, усе гэтак расчараваныя, проста жалоба. Здавалася, так блізка было да незалежнасці і ўсё рухнула. Напішы, які настрой у вас там. Яшчэ адно: ці можаш дастаць і выслаць нам новую Канстытуцыю РБ (гэтак званай)... Усяго найлепшага! Алег. P. S. Нават баюся пісаць «Жыве Беларусь!»

**Яўген ЛЕЦКА**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ С. САХАРАВА




**40 гадоў назад, 22 красавіка 1954 года, у Рызе пайшоў з жыцця Сяргей Пятровіч Сахараў — беларускі фалькларыст, этнограф, педагог-асветнік. З блаславення Я.Райніса ён многа зрабіў для вяртання нацыянальнай самасвядомасці карэннага беларускага насельніцтва Латвіі (у 1920 г. некалькі паветаў Віцебскай губерні Ленін перадаў Латвійскай дзяржаве), а таксама для ўсталявання латышска-беларускага ўзаемаразумення. Звялі яго ў магілу жыццёвыя нягоды. Замучаны ён быў страшэнным пераследам адразу пасля вайны ўсіх тых, хто ўдзельнічаў у беларускім (нацыяналістычным!) культурна-асветным руху. Адпаведныя савецкія карныя органы нават тых, хто вучыўся ў беларускіх школках ці гімназіях, адпраўлялі на 10-гадовае канцлагернае зняволенне. Хвораму, састарэламу С.Сахараву нават пасля казахстанскай высылкі (1945—1950) не дазволілі жыць у Рызе, у сваёй сям'і. І яшчэ сёння чакае публікацый яго фальклорна-этнаграфічная, літаратурна-публіцыстычная спадчына. Многае ў асэнсаванні яго жыццёвага і асветніцкага подзвігу зроблена Марынай і Арсенем Лісамі, асобныя запісы змешчаны ў шматтомным выданні «Беларуская народная творчасць»... І вось — радасная неспадзеўка: таварыства беларускай культуры «Світанак» ладзіць у Рызе 22—24 красавіка ў гонар светлай памяці С.Сахарава навукова-практычную канферэнцыю. Паходні папярэднікаў — К.Езавітава, С.Сахарава — вызначаюць сёння шляхі культурна-асветніцкага адраджэння беларусаў Латвіі, якіх налічваецца каля 116 тысяч.**

**І запаляць свечкі на Іванаўскіх могілках у Рызе ўдзячныя нашчадкі, у тым ліку і госці з Мінска. І засвецяцца на мармуры літары, якія сведчаць, што тут знайшоў вечны спачын ураджэнец Полацка, «беларускі настаўнік і этнограф», незабыўны Сяргей Пятровіч Сахараў.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*На здымку: С.Сахараў на магіле дачкі Галіны (1913—40) у Люцыне.*

## «ЛІЦЬВІНЫ» ЁСЦЬ «ЛІЦЬВІНЫ»

**Вядомы гурт аўтэнтычнага фальклору «Ліцьвіны» пад кіраўніцтвам У. Берберава падрыхтаваў чарговую праграму, якая называецца «Неба і зямля». Склалі яе абрадавыя і каляндарныя песні, запісаныя ў розных раёнах Бацькаўшчыны самімі «ліцьвінамі». Прэзентацыя гэтай праграмы, запісанай ужо на аўдыёкасету, прайшла ў Доме літаратара. Гучалі і творы, другое жыццё якім даў калектыў раней. Вялі вечар музычны аглядальнік газеты «Чырвоная змена» В. Мартыненка і артыстка Г. Дзягілева.**

## МАЛАЙЦЫ, «ХАРАШУХІ»!

**Такімі словамі суправаджаюць звычайна прысутныя выступленні ансамбля народнай песні Маладзечанскай дзіцячай музычнай школы, які і мае назву «Харашухі». У зладжанасці, майстэрстве ансамбля вялікая заслуга яго кіраўніка Вольгі Іванаўны Бялько.**

**М. КАПЫЛОВІЧ**

Фестывалі

# ПАМІЖ ХВАЛЯМІ «ВЯСНЫ»

***Сваю ідэю арганізатары «Мінскай вясны–94» занатавалі ў фестывальнай эмблеме. Традыцыйную стылізаваную ліру паўкружжам атуляюць словы: «Велікоднае музычнае прынашэнне». Вялічка — шчодры светлы дзень — святкуецца на Беларусі двойчы. Таму й дзве фестывальныя хвалі сёлета: з нагоды свята каталіцкага ды праваслаўнага. Вядома, філарманічныя залы не адпачываюць ад музыкі й сёння, а вось у раскладзе ўласна фестывальных канцэртаў — паўза да 2 мая. Часу хопіць, каб разгледзець першы велікодны дарунак.***

Дарунак, аднак жа, ёсць дарунак, а не прадмет для крытычнага разбору, хаця ўедлівы крытык заўсёды мае пры сабе кілішак дзёгцю і не ўпускае шанц выплюхнуць гэтае змесціва, ну, напрыклад, у чыйсьці салодкі келіх задавальнення і поспеху...

Канечне, першая хваля «Велікоднага прынашэння» была не настолькі крутая, каб сходу-злёту асляпляць сваім дыяментавым бляскам. Дык што? Хіба прэстыж імпрэзы вызначаецца колькасцю «зорак» з сусветнага музычнага небасхілу, святло якіх люструюць фестывальныя хвалі?

Канечне, паўза паміж фестывальнымі хвалямі можа выбухнуць недалікатным пытаннем: а ці «хвалі» гэта, ці хваляванне? Калі сталічны абывацель сунецца паўз рэкламныя шчыты і сэрца ягонае б'ецца па-будзённаму, і ў душы не выспявае мелодыя, і ў думках — ні згадкі, ні здагадкі, што горад жыве, аказваецца, міжнародным музычным святам! Быццам гэта проста канцэртныя афішы аздобіла традыцыйная форменная (фірменная? фармальная?) вясновая «шапка»...

Ах, як цяжка вытрымаць выпрабаванне будзёншчынай, як цяжка знаходзіць занятак для душы (не «па душы», а «для», каб працавала), вастрыць унутраны зрок, вучыцца бачыць тое, што не ўбачыць вока! І калі «фестываль» азначае стадыённы размах, дарагую рэкламу, колькасць дэцыбелаў у залах ды «іншамарак» ля пад'ездаў, дык чыннікам філарманічнага мастацтва, бадай, і сапраўды варта выкінуць гэтае слова са свайго ўжытку. Бо які ж гэта фестываль, калі на ўліку літаральна кожная кветачка для салістаў, а спонсары прынародна не тусуюцца ў чарзе, каб зрабіць дабрачынны ўзнос у скарбонку нацыянальнага акадэмічнага калектыву, ці фінансаваць запіс канцэртнай праграмы, ці засыпаць падарункамі маладога лаўрэата, ці запрасіць на вячэру знаных гастралёраў...

Ой, як далёка нам яшчэ да гэтага, нават калі ў той бок ідзём. А калі — не ў той?!

Зрэшты, «Мінская вясна» жыве, і дзякуй Богу. Чакаючы Вялікдзень, не будзем успамінаць агрэхі, без якіх — на жаль, на жаль! — не абышліся выступленні нашых выканаўчых калектываў. Давайце паўзу ў вясновым фестывалі запоўнім згадкамі й сапраўды святочнымі.

Успомнім такія розныя дырыжорскія постаці. Казаха Ц. Мынбаева, які камертонам трымаў высокае гучанне вердзіеўскага «Рэквіема». Італьянца А. Мартэлі, які адкрыў нам чароўныя рамантычныя старонкі партытуры А. Франкеці «Чорны лес». Германца І. Э. Райля, маладога мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі, — з якім віртуозным, відовішчным артыстызмам правёў ён «Missa Cellensis» (імшу «Пасланнік нябесны») І. Гайдна. Беларускага маэстра В. Роўду, якога публіка літаральна вымушала паўтарыць велікодную сціхіру — прыгожую, са звонкай сілай металічных бомаў, што працінала-мацавала піраміду харавых галасоў...

Успомнім хрысціянскую мудрасць бахаўскіх кантат, прадстаўленых у супольнай праграме расійскіх гасцей (вакальны ансамбль П. Шаромава, дырыжор Д. Зубаў) ды беларускіх музыкантаў. Успомнім трыо «Artis» — тандэм кранальных маладых артыстаў: арганісткі А. Бязухавай з Яраслаўля, габаіста П. Фядзькова з Масквы ды ягонага калегі з Мінска, міжнароднага лаўрэата Ю. Лікіна, чый інструмент быў, між іншым, сапраўдным героем балявання ў Каралеўскім канцэрце Ф. Куперэна для габоя і аргана. Успомнім таксама, што «зорка» віяланчэльнага мастацтва К. Родзін зрабіў сваёй ігрой сапраўдны велікодны дарунак слухачам...

Успомнім, нарэшце, што наперадзе яшчэ некалькі фестывальных праграм і настроімся на светлы майскі лад. Прэм'еры ў камерным хоры пад кіраўніцтвам І. Мацюхова, незвычайнае амплуа Акадэмічнага народнага пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага... Якое б ні было надвор'е, а хваля велікодных музычных уражанняў абяцае цяпло ўсім, хто здатны яго адчуць і прыняць.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*




*Выступае «Калегіум музікум»*



*Дырыжыруе Ц. Мынбаеў*

# ВІВАТ, ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ!

Нягледзячы на тое, што выжыць ва ўмовах нашага дзікага рынку вельмі і вельмі цяжка, выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі жыве і працуе, выдае кнігу за кнігай. Ды якія кнігі! Зусім нядаўна аматары беларускасці з задавальненнем пазнаёміліся з першым томам «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (сёлета, дарэчы, павінен выйсці і другі том), а сёння, калі ласка, яшчэ адна, не менш прыемная навінка — аднатомная энцыклапедыя «Археалогія і нумізматыка Беларусі».

Гэтае выданне, як сказана ў слове «Ад рэдакцыйнай калегіі», «мае на мэце пазнаёміць чытача з найбагацейшымі археалагічна-нумізматычнымі скарбамі і адкрыццямі вучоных у гэтай галіне за апошнія 250 гадоў. Фактычна ў гэтым выданні паказваецца той асноўны трывалы падмурак, на якім базіруецца і ў значнай ступені развіваецца ўся 1000-гадовая гісторыя беларускага народа».

У аднатомнік увайшло каля 2,5 тысячы артыкулаў, з іх больш за 400 — па нумізматыцы. Ён адкрываецца двума ўступнымі артыкуламі, адпаведна прысвечанымі археалогіі і нумізматыцы. Выданне цікавае і тым, што ў ім упершыню вельмі падрабязна падаюцца звесткі пра манетныя сістэмы, а таксама асобныя манеты, што ў розны час мелі хаджэнне на тэрыторыі Беларусі.

А якая энцыклапедыя без персаналій? Змешчаны біяграфічныя артыкулы пра вучоных-археолагаў і знакамітых нумізматаў, чыя дзейнасць звязана з Беларуссю. І, вядома ж, у энцыклапедыі шмат ілюстрацый — як каляровых, так і чорна-белых, ёсць карты, планы, схемы.

* * *

Калі энцыклапедыя «Археалогія і нумізматыка Беларусі» — выданне калектыўнае, дык «Гісторыя Беларусі», якая таксама толькі што выйшла ў тым жа выдавецтве, напісана адным з пачынальнікаў беларускай гістарычнай навукі Мітрафанам Доўнарам-Запольскім. Гэтая фундаментальная праца была падрыхтавана аўтарам да друку яшчэ ў сярэдзіне дваццатых гадоў, але так і не пабачыла свету, а сам М. Доўнар-Запольскі пакінуў Беларусь. На шчасце, рукапіс ягонай «Гісторыі Беларусі» захаваўся. І вось — вяртанне вельмі каштоўнай, арыгінальнай кнігі з небыцця. Няма сумнення, што «Гісторыя Беларусі» М. Доўнар-Запольскага прыйдзецца даспадобы вельмі многім.

* * *

Выхад кнігі — свята не толькі для чытачоў, але і для выдаўцоў. Асабліва, калі гэта унікальныя выданні. Таму «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі наладзіла ў Доме літаратара адначасова прэзентацыю першага тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі» і «Гісторыі Беларусі» М. Доўнар-Запольскага.

Вёў вечар намеснік галоўнага рэдактара «БелЭН» І. Хаўратовіч. Перад прысутнымі выступілі галоўны рэдактар выдавецтва Б. Сачанка, дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі М. Касцюк, старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Г. Сурмач, гісторыкі Г. Штыхаў, Г. Лыч, С. Тарасаў, П. Лойка. Шчыра віталі прысутныя госцю з Англіі, добра вядомую на Беларусі Веру Рыч.

Афіцыйная частка была дапоўнена выступленнем групы «Валачобнікі».

* * *

Тэматычны план «БелЭН» на 1994 год з'явіўся ў кнігарнях са спазненнем. Таму нагадаем чытачам асноўныя кнігі, якія энцыклапедычнае выдавецтва плануе выпусціць сёлета.

Пабачаць свет чарговыя тамы біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Факсімільна будзе ўзноўлена «Малая падарожная кніжка» Ф. Скарыны, выпушчаная ў 1522 годзе ў Вільні і пракаменціраваная нашым першадрукаром.

Мяркуецца выпусціць другі выпуск факсімільнага выдання «Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года», архіўны даведнік «Помнікі беларускай гісторыі і культуры ў Санкт-Пецярбурзе», «Блакітную кнігу Беларусі», энцыклапедыю «Беларуская мова», кнігі «Самабытнае слова. Беларуская безэквівалентная лексіка ў рускамоўным дачыненні» І. Шкрабы, «Міфы бацькаўшчыны» У. Васілевіча, зборнік публіцыстыкі М. Ткачова «Паходня» і іншыя.

Меркаванне

***Чаму ж так здарылася, што старажытны, самабытны народ, на мове якога пісаліся юрыдычныя законы, які, дарэчы, адным з першых сярод усходніх славян заснаваў у асобе Скарыны сваю друкарскую справу; народ, на мове якога гаварылі беларускія і літоўскія магнаты, — страціў сваю гістарычную значнасць і ледзь не растварыўся ў народзе суседняй дзяржавы, якая заснавала сваю дзяржаўнасць значна пазней?.. Адказы на гэтыя і сходныя пытанні даць досыць складана, бо яшчэ шмат што да канца не высветлена гісторыкамі, у гэтым напрамку зроблены толькі першыя крокі. Не сказалі свайго важкага слова і псіхолагі, якія вывучаюць самаактуалізацыю народаў, нацый, і сацыяльную перцэпцыю...***

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ НЕ МАЕ ПРАВА МАЎЧАЦЬ!

Адносна стаўлення, развіцця, росквіту і заняпаду народаў ёсць шмат канцэпцый і тэорый. Сярод іх заслугоўвае ўвагі канцэпцыя французскага філосафа Рэнана Жазефа Эрнэста (1823—1892), згодна якой вызначаюцца ўмовы існавання любога народа як гістарычнай індывідуальнасці ў геапалітычнай прасторы чалавечай супольнасці: «Народ — гэта вялікая салідарнасць, вынік святога пачуцця адносна да мінулых і будучых ахвяр. Супольная слава ў мінуўшчыне, супольная воля ў сучаснасці, што вядзе да вялікіх дзеянняў, — вось істотныя варункі нацыянальнага існавання». Да гэтай высновы, пэўна, трэба дадаць і асаблівае развіццё культуры народа, якая вытварае ў сабе асаблівыя ўласцівасці, што передаюцца з пакалення ў пакаленне як спадчына, якая гартуецца і ўмацоўваецца, развіваючыся і разрастаючыся ў нацыянальную культуру і нацыянальную свядомасць, знітоўвае і цэментуе нацыю...

На працягу стагоддзяў русіфікатары і паланізатары імкнуліся разбурыць салідарнасць беларускага народа, вытруціць нацыянальную свядомасць, сцерці з памяці народнай гераічныя старонкі нашай мінуўшчыны. Асабліва шчыравалі фальсіфікатары ад гістарычнай навукі ў савецкі перыяд, калі бессаромна ганьбілі сапраўдных нашых нацыянальных герояў, і ў той жа час, калі сказаць словамі Дастаеўскага, «надевали лавровые венки на вшивые головы» тых, хто тварыў генацыд над беларускім народам: ставілі ім помнікі, стваралі музеі ў гонар іх «славы», адзначалі юбілеі, выкарыстоўваючы ідалаў для ваенна-патрыятычнага выхавання... Усё гэта спараджала нацыянальны нігілізм, садзейнічала параджэнню «паўзучай гнюсі» — дэнацыяналаў, манкуртаў, паслухмяных аўтаматаў, лёкаяў, людзей бесхарактарных, якіх выкарыстоўвалі і выкарыстоўваюць бальшавіцкія ідэолагі. Ролю біялагічных аўтаматаў, іх генетычны код і ўзаемаадносіны з дэспатамі вельмі ўдала раскрыў Гельвецый у філасофскім творы «Аб чалавеку»: «Дэспатызм можа панаваць толькі над аўтаматамі. Характарам людзі валодаюць толькі ў свабодных краінах. У жыхароў Усходу яго няма: страх і рабалепства заглушылі яго ў іх».

Вядома, расейскія цары-самадзержцы запазычылі дэспатызм ад усходніх тыранаў і ў дадатак г. зв. сервільны комплекс, гэта значыць, прынцып «пагалоўнага рабства» з хамствам у адносінах да тых, хто стаіць ніжэй, і халуйствам да тых, хто стаіць вышэй. Крамлёўскія ўладары ўдасканалілі сервільны комплекс, а адміністратыўная сістэма стварыла ідэальныя ўмовы для кіравання рабамі...

Але сярод люду паспалітага, які стварае пэўную грамадскую лучнасць — народ, вылучаецца пэўная праслойка, якую звычайна называюць інтэлігенцыяй. У гэтую праслойку ўваходзяць людзі разумовай працы, якія, займаючыся зборам, падагульненнем і развіццём чалавечага вопыту, садзейнічаюць грамадскаму прагрэсу. Зараз сярод інтэлігенцыі можна вылучыць тры асноўныя групы: тэхнічную, аграрную і гуманітарную. Часам адрозніваюць яшчэ паняцці інтэлектуал і інтэлігент. Калі інтэлектуал — гэта чалавек з высокаразвітым інтэлектам, то інтэлігент — чалавек, у якога, апрача ўдасканаленага інтэлекту, высокі ўзровень засваення культурных каштоўнасцей, якія праяўляюцца ў ягоных паводзінах і ўчынках сярод вакольнага люду.




*Мал. У.СКРЫГАНАВА*

Інтэлігенцыя ніколі не была аднароднай па сваім светаўспрыманні, ідэйных поглядах, у ацэнцы гістарычных падзей на скрыжаванні эпох. Яскравым прыкладам могуць паслужыць паводзіны расійскай інтэлігенцыі пасля кастрычніцкага перавароту: частка ўспрыняла ажыццяўленне бальшавіцкай змовы станоўча, а большасць — адмоўна. Нават і тыя, хто ўспрыняў пераварот станоўча, хто раней, хто пазней, зразумелі сваю памылку... Можна было б прывесці шмат прыкладаў, калі былыя «попутчики» рэвалюцыі выракліся фальшывых ідэалаў-святош, якім паверылі некалі.

Па сваёй ідэйнай накіраванасці сярод сучаснай беларускай інтэлігенцыі можна вылучыць дзве асноўныя супрацьлеглыя групы: прагрэсіўную і кансерватыўную. Па сваёй ідэйнай і палітычнай накіраванасці беларуская інтэлігенцыя вельмі стракатая. Да прагрэсіўнай інтэлігенцыі належыць частка пісьменніцкай супольнасці, на чале са змагаром за суверэнную, прававую, дэмакратычную Беларусь Васілём Быкавым. У атрад прагрэсіўнай інтэлігенцыі ўваходзяць і прафесійныя журналісты, якія стаяць на пазіцыях нацыянальнага адраджэння і сваімі палымянымі артыкуламі руйнуюць глебу нацыянальнага нігілізму і сеюць зярняты нацыянальнай свядомасці ў беларускім народзе. У атрад прагрэсіўнай інтэлігенцыі ўваходзяць і кіраўнікі нацыянальна-дэмакратычных партый, грамадскіх арганізацый, якія змагаюцца за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, парламенцкая апазіцыя, якая дае рашучы адпор ліквідатарам беларускай незалежнасці, вялікадзяржаўным шавіністам з мандатамі нардэпаў. Дарэчы, калі зайшла гаворка пра нашых парламентарыяў, то варта зрабіць невялікі экскурс у гісторыю парламенцкай дзейнасці беларускіх паслоў і сенатараў у польскім Сейме. Нягледзячы на розныя ідэйныя погляды — ад клерыкальнага ксяндза Адама Станкевіча да пракамуністычнага радыкалізму Браніслава Тарашкевіча — усе яны былі згодныя ў адносінах да матчынай мовы і выступалі ў польскім парламенце толькі на беларускай мове, патрабавалі адкрыцця школ і ВНУ ў Заходняй Беларусі з беларускай мовай навучання і ўвядзення беларускай мовы ва ўрадавых установах. Яны не скарыліся перад вяльможнымі панамі, іх не запалохалі пагрозы пазбавіць мандатаў за тое, што яны ў Сейме не выступаюць «в ензыку польскім». Пераважная большасць парламентарыяў у польскім Сейме, якая паверыла была крывадушным абяцанкам бальшавіцкіх камісараў і пераехала ў БССР, была фізічна знішчана сталінскімі катамі.

Не будзем даваць ацэнку інтэлігентнасці парламенцкай большасці ў ВС РБ. Гэта зробяць будучыя гісторыкі вольнай, дэмакратычнай, суверэннай Беларусі, пазбаўленыя саўковай закамплексаванасці; яны і намалююць групавы партрэт фракцыі «Беларусь», магчыма, зробяць індывідуальныя замалёўкі духоўнага вобліку некаторых герояў-лёкаяў з пасведчаннямі нардэпаў. Слухаючы «изречения» некаторых парламентарыяў-інтэлігентаў, нават з прэтэнзіямі на «главу государства», у якіх выяўляецца пагардлівасць да беларускай мовы і захапленне «единым могучим», міжволі ўспамінаеш словы руска-савецкага пісьменніка Канстанціна Паустоўскага: «Па адносінах чалавека да роднай мовы можна меркаваць не толькі аб яго культурным узроўні, але і аб ягонай грамадзянскай вартасці»...

Сярод кансерватыўнай плыні інтэлігенцыі можна вылучыць некалькі груп. У першую чаргу трэба назваць памяркоўных кансерватараў, якія часам надзяваюць маску прагрэсістаў, не супраць пагаварыць пра незалежнасць, але пры аказіі пруцца ў канфедэрацыю. Як ні дзіўна, але сярод канфедэратаў ёсць знаёмыя прозвішчы «народных» і «заслужаных». Цікава было б ведаць, якому народу яны служаць? Ці таму, што карміў іх і корміць, ці таму, які ўжо складае эпітафіі па беларускай мове і беларускай нацыі?..

Пэўную групу складаюць г.зв. кан'юнктуршчыкі, якія сочаць за флюгерам палітычных перамен. У іх няма выразна акрэсленых ідэй, іх «супер-эго» мяняецца пастаянна. Такіх інтэлігентаў інакш называюць прыстасаванцамі.

Ёсць група пасіўных інтэлігентаў: яны быццам бы і не супраць перамен, але ўдзельнічаць у гэтых пераменах не жадаюць, маўляў, мая хата з краю.

Сярод кансерватыўнай інтэлігенцыі вылучаюцца сваёй палахлівасцю індывіды, якія нагадваюць чэхаўскі персанаж — «чалавека ў футарале». Яны не выказваюць публічна сваіх поглядаў на тыя ці іншыя палітычныя падзеі з боязі «кабычавонявышла».

Асобная група, што таксама называе сябе інтэлігентамі і прэтэндуе на падмосткі палітычнай сцэны, — абруселыя нацыяналы і манкурты, людзі без роду і племені, якіх выкарыстоўваюць у сваіх мэтах рэакцыйныя сілы вялікадзяржаўнікаў — інтэрнацыяналісты, бальшавікі і неабальшавікі, якія не страцілі яшчэ мары аб аднаўленні расейскай імперыі пад сімваламі пяціканцовай зоркі або двухгаловага арла. Яны нават і не хаваюць свае задумы і ўжо надта натужваюць усе свае сілы для інкарпарацыі Рэспублікі Беларусь у Расейскую імперыю...

Асобна трэба сказаць пра значную групу беларускай інтэлігенцыі, у якую ўваходзяць настаўнікі. У свой час заснавальнік савецкай дзяржавы паабяцаў узняць народнага настаўніка на такую вышыню, на якой той «не стаяў, не стаіць і не можа стаяць у любым буржуазным грамадстве». Але абяцанкі так і засталіся нерэалізаванымі. Эпігоны генія рэвалюцыі апусцілі савецкага настаўніка на прыступку ніжэй нулявой, з якой ён і дасюль не можа падняцца. Асаблівыя ўмовы прыніжэння створаны вясковым настаўнікам, дзе (на вёсцы) тыя ператвораны ў васалаў калгаснай і саўгаснай агракратыі, якая бессаромна прыніжае чалавечую годнасць настаўніцтва. Настаўнік на вёсцы ў адносінах да бытавых умоў цалкам залежыць ад калгаснай і саўгаснай адміністрацыі, якая на настаўніка «смотрит свысока». Тут мы бачым яўны парадокс. Пераважная большасць сённяшніх «чырвоных памешчыкаў» — выхадцы з вёскі, і тыя ж вясковыя настаўнікі іх вучылі і далі калісьці, як кажуць, пуцёўку ў жыццё, але часам эгаізм, падчас эгатызм бяруць верх над дабрадзейнасцю, дабрачыннасцю і альтруізмам...

На жаль, апатыя і апалітычнасць сярод настаўніцтва пашыраны значна больш, чым сярод астатняй гуманітарнай інтэлігенцыі. Аднак было б няправільна нівеляваць усё настаўніцтва. І сярод настаўніцтва ёсць «пасіянары» ў пэўным сэнсе слова, змагары за нацыянальнае адраджэнне, шчырыя патрыёты Бацькаўшчыны, якія сваімі ўчынкамі, сваім палымяным словам абуджаюць нацыянальную свядомасць народа. Шэрагі барацьбітоў за нацыянальнае адраджэнне сярод настаўніцтва растуць, і гэта радуе.

Сёння, калі кіраўнікі Расейскай Федэрацыі скінулі маску парытэту паміж вялікімі і малымі дзяржавамі ў мірным суіснаванні і не хаваюць сваіх вялікадзяржаўных амбіцый, сваіх прэтэнзій на верхавенства ў геапалітычнай прасторы; калі ў былых савецкіх рэспубліках яны бачаць свае «жыццёва важныя інтарэсы» і хочуць дыктаваць суверэнным дзяржавам сваю волю; калі чароды лёкаяў-вялікадзяржаўнікаў злавесна вяшчаюць на прасторах нашай Бацькаўшчыны; калі рэнегаты і здраднікі нацыянальных інтарэсаў рыхтуюць рабства нашым нашчадкам, — інтэлігенцыя, калі яна лічыць сябе сапраўды нацыянальнай, беларускай, — не мае права маўчаць! Кіраўнікі нацыянальна-дэмакратычных партый, якія стаяць на пазіцыях вызвольнага руху і пазітыўнага нейтралітэту, павінны адрынуць эгаістычныя амбіцыі на лідэрства ў дэмакратычным руху і знітоўваць усе дэмакратычныя плыні ў адзіны паток, ствараць з іх маналіт і выступіць адзіным фронтам на маючых адбыцца выбарах прэзідэнта РБ. Каб перашкодзіць рэакцыйным сілам паставіць на чале нашай дзяржавы чалавека са світы, які дашчэнту зруйнуе нашу незалежнасць. Час не чакае!

**Васіль СОКАЛ**

*Ляхавіцкі раён*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# І НАДСАН ЗРАБІЎ КОПІЮ...

ORATIO
secundum diarium
Joannis de Cronstadt
«MEA VITA IN CHRISTO»

DISSERTATIO
quam ad Doctoris gradum obtinendum
in Summo Pontificio Instituto Orientali
conscripsit Stanislaus Hlak.



VILNAE 1937.

**Перад вамі — тытульны аркуш унікальнага выдання, знойдзенага кампазітарам Я. Паплаўскім у Поразаве, на ягонай радзіме, у сямейнай кніжнай спадчыне. Нагадаем, што Я. Паплаўскі — унучаты пляменнік вядомага з гісторыі беларускага ксяндза Станіслава Глякоўскага. Знойдзенае выданне — доктарская дысертацыя Глякоўскага, абароненая ў Ватыкане і надрукаваная ў Вільні ў 1937 годзе. Прысвечана яна працы Іаана Кранштацкага «Маё жыццё ў Хрысце». Цікава, што аб'ектам даследавання каталіцкага святара зрабілася праца праваслаўнага багаслова. І яшчэ цікава, што імя аўтара дысертацыі пададзена як «Станіслаус Гляк» — ці не ёсць гэта праўдзівае, «неспаланізаванае» прозвішча ксяндза Глякоўскага? Выдадзеная па латыні, праца чакае перакладу на беларускую: гэта, безумоўна, матэрыял, варты публікацыі ў часопісе «Хрысціянская думка». Пакуль жа, даведаўшыся пра знаходку ў Поразаве, дысертацыяй кс. Глякоўскага зацікавіўся айцец Аляксандр Надсан, зрабіў яе ксеракопію і павёз у Лондан. Дагэтуль было наадварот: выданні ды рукапісы з архіва Лонданскай бібліятэкі імя Ф. Скарыны вярталіся ў выглядзе ксеракопій на Беларусь...**

**С. Б.**

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ «ДНЯПРОЎСКІХ ХВАЛЯЎ»

**«Дняпроўскія хвалі» — калектыўны мастацка-літаратурны зборнік, выдадзены нядаўна ў Магілёве абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў. У сярэдняй школе N 35 г. Магілёва прайшла яго прэзентацыя.**

**Уступным словам адкрыла і вяла гэтае літаратурнае свята настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ N 35 Г. Шчэрба. Па кожным з раздзелаў кнігі былі дакладчыкі з ліку вучняў. Дэкламаваліся змешчаныя ў зборніку вершы, гучалі песні, была пастаўлена інсцэніроўка па адным з гумарыстычных твораў мясцовага аўтара. Прагучалі і вершы паэта-земляка А. Пысіна ў яго чытанні.**

**Укладальнік «Дняпроўскіх хваляў» сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў І. Аношкін расказаў, як рыхтаваўся гэты зборнік-альманах (дарэчы, гэта ўжо другая па апошнім часе кніжка мясцовых аўтараў, першая «Галасы Прыдняпроўя» — была выдадзена ў Мінску ў канцы 1991 года), спыніўся на перспектывах выхаду кніжкі.**

**Адзін з аўтараў зборніка паэт В. Карпечанка прачытаў вершы. Пісьменнікі пакінулі аўтографы ў набытых вучнямі і настаўнікамі кнігах.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

# ПАМЯЦІ ГЕНАДЗЯ КАХАНОЎСКАГА

**Маладзечанскі гарвыканкам вырашыў увекавечыць памяць слыннага сына сваёй зямлі, доктара гістарычных навук, пісьменніка Г. Каханоўскага. Яго імя будзе насіць адна з вуліц горада і Мінскі абласны краязнаўчы музей, дзе ён шмат гадоў быў дырэктарам. На доме, у якім жыў Генадзь Аляксандравіч, будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка, а на яго магіле — помнік.**

**М. КАПЫЛОВІЧ**

# НА ЧОРНЫХ ЛЯДАХ ГІСТОРЫІ

## НОВЫЯ АПАВЯДАННІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

У першым нумары «Полымя» за 1994 год надрукаваны быкаўскія апавяданні «На Чорных лядах», «Перад канцом» і «Бедныя людзі». Яны выклікаюць вялікую цікавасць па цэлым шэрагу прычын. Па-першае, таму, што пісьменнікі, якія здабылі трывалае прызнанне як аўтары аповесцяў або раманаў, увогуле нячаста звяртаюцца да апавядання, жанру, па агульнапрынятых уяўленнях, не самага прэстыжнага. Па-другое, Васіль Быкаў ужо даўно не выступаў як апавядальнік, аддаючы яўную перавагу добра абжытаму ім жанру аповесці. Нарэшце, і гэта самае істотнае, быкаўскія апавяданні з палымянскай нізкі пераконваюць, што гэты няўрымслівы мастак, застаючыся ў галоўнай сутнасці самім сабою, з вялікім поспехам асвойвае новыя сферы рэчаіснасці.

Мы ўжо звykліся з ягонымі творамі пра народны подзвіг у Айчынную вайну. У апошнія гады сталі прызвычайвацца і да таго, як Быкаў піша пра самыя складаныя павароты даваеннага жыцця, у прыватнасці, пра трагічныя аспекты гвалтоўнай калектывізацыі. А цяпер пісьменнік зрабіў яшчэ адзін крок у глыбіню нашай трагічнай гісторыі. У апавяданнях «На Чорных лядах» і «Перад канцом» ён звярнуўся да часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

Васіль Быкаў узяў для мастакоўскага даследавання тое з гэтага перыяду, што наша мастацкая літаратура, прынамсі літаратура савецкая, не магла раней не толькі даследаваць, але і проста ўпамінаць. Гутарка ў прыватнасці ідзе пра Слуцкае паўстанне 1920 года, разгромленае бальшавікамі, бо ягоныя ўдзельнікі змагаліся за незалежную Беларусь. А гэтага бальшавікі, хоць іх правадыры гучна абвяшчалі правы нацый на самавызначэнне, дазволіць беларусам ніяк не маглі. Натуральна, што слуцкіх паўстанцаў напаткаў вельмі горкі, пакутніцкі лёс, выдатна адлюстраваны ў апавяданні «На Чорных лядах».

Як і звычайна ў быкаўскіх творах, перад намі абмежаваная колькасць герояў — усяго восем чалавек, узятых у самай крытычнай для іх сітуацыі. Дашчэнту знясіленыя, без ежы і амаль без патронаў, яны рашаюцца на самагубства, клапоцячыся цяпер адно пра тое, каб і імёны іхнія засталіся невядомымі, бо ў адваротным выпадку расправа чакае бацькоў, жонак, дзяцей, увогуле ўсю радню. Вось і капаюць людзі самі сабе магілу, а потым адзін за другім кладуцца ў яе. Васіль Быкаў піша пра гэта традыцыйным для сябе рэалістычна-дакладным і строга ўзважаным у кожным слове стылем, з той знешняй стрыманасцю, у якой спрасавана вялікая выбуховая сіла пісьменніцкага болю і гневу. Бо гінуць жа, абкладзеныя, як ваўкі, не злосныя і жорсткія паны-прыгнятальнікі або праклятыя буржуі-эксплуататары, як звычайна сцвярджала наша хлуслівая прапаганда наконт любых бальшавіцкіх праціўнікаў, а бедалагі-працаўнікі, шчырыя, сумленныя людзі, якія хацелі дабра сабе і сваёй краіне.

Ну вось той, што памірае першым, — селянін, празваны Аўстрыякам, бо быў у аўстрыйскім палоне. Ён згаладаўся па звыклай сялянскай працы на зямлі. Дзеля гэтага, вярнуўшыся на радзіму, пайшоў у прымы да вельмі непрывабнай удавы Аўдохі з чатырма малымі дзецьмі. Толькі дачакаўся першага ўраджаю, як наляцелі прадармейцы і ўсё забралі, зусім не турбуючыся, што чалавеку трэба карміць не толькі сябе, але і тых жа малых дзяцей. Жыццёвая неўладкаванасць прывяла да слуцкіх паўстанцаў і Кажухара, які таксама «некалі марыў набыць зямлю, каб зажыць на сваёй гаспадарцы, і нібы вол ад зары да зары шыў кажухі, збіраў грошы». А яны ўрэшце аказаліся пустымі паперкамі. «Спрадвечная сялянская галота» душыла і Дзеда, «не давала па-людску жыць», прымушала яго да вялікай ашчаднасці ва ўсім, хоць ён і не быў самым бяднейшым у сваёй вёсцы. «Патомны парабак слуцкіх фальваркаў» Казак пайшоў да паўстанцаў найперш таму, што пайшлі да іх іншыя парабкі. А яшчэ ён думаў, што ў выпадку перамогі і яго «надзеляць зямлёй», ды і ўвогуле меркаваў, што «ваяваць за Беларусь мо будзе не трудней, чым штодня ішачыць у панскім маёнтку».

«Мажны, хоць і малады яшчэ чалавек са святлява абраслымі шчэццю пашчэнкамі» Мяцельскі, старшы унтэр-афіцэр па вайсковым званні і эсэр па перакананнях, зведаў катаванні ў «чразвычайцы» за тое, што назваў Мяснікова «крывавым мясніком». Ад расстрэлу ён выратаваўся толькі выпадкова. І таму ясна ўсведамляе, што з бальшавікамі яму «не жыць. Не дадуць». «Нядаўні гімназіст» Ігар Забела, перамогшы ў сабе «боязь, страх і трывогу», «у свае няпоўныя дзевятнаццаць» звязаўся з паўстанцамі з патрыятычных меркаванняў, каб на справе бараніць беларускую незалежнасць. Глыбокае патрыятычнае пачуццё вызначыла паўстанцкі лёс і безыменнага камандзіра гэтай асуджанай на смерць групы, колішняга настаўніка, які ў вайну стаў прапаршчыкам. Гэта вельмі разумны і па-свойму разважлівы чалавек, які добра бачыць трагедыю паўстання. «Як заўжды, масы засталіся ўбаку, не падтрымала іх Беларусь», — з горыччу, скрухай і болем душэўным думае камандзір, аналізуючы галоўныя прычыны паражэння. І ў гэтых лаканічных, але вельмі ёмістых словах выяўлена самая горкая, самая балючая наша праўда, як нельга больш надзённая і цяпер, бо і сёння наша славутая беларуская цярплівасць і на тысячы ладоў хваленая талерантнасць на паверку вельмі часта аказваюцца абыякавасцю тых самых мас не толькі да покліку лепшых сыноў нацыі, але і да свайго ўласнага лёсу.

Такім чынам, за трагедыяй герояў твора выразна праглядвае трагедыя самой Беларусі, наша вялікая нацыянальная трагедыя. Сама назва апавядання, якая ў прамым сэнсе абазначае месца апошняга прытулку паўстанцаў, успрымаецца абагулена-сімвалічна, як знак чорнай часіны ў шматпакутнай беларускай гісторыі.

І ўсё ж нейкі промень надзеі, яе цень Васіль Быкаў пакідае. Ён, гэты промень, напаўняе высокім сэнсам роздум камандзіра наконт таго, што «без іхняй галаваломнае адвагі, ахвяр і крыві ўся іх нацыянальная справа, бы невылечны сухотнік, асуджана на вялы, задоўжаны скон. Цяпер на скон не будзе асуджана. Зерне кінута, па вясне ўгрэецца глеба, будуць усходы. Колькі б зіма ні доўжылася, настане вясна. Яны ж угнояць глебу, мусіць, такое іх гістарычнае прызначэнне, так трэба. Для вольнай радзімы і для гісторыі».

Шматзначна і тое, што гэтыя разважанні камандзіра завяршаюцца згадкай пра Кастуся Каліноўскага, самаахвярная смерць якога ў імя Беларусі стала магутным каталізатарам вызваленчага руху ў XIX і пачатку XX стагоддзя.

Камандзірава перадсмяротнае спадзяванне, што і трагічная самаахвярнасць слуцкіх паўстанцаў не будзе марнай для беларускай гісторыі, падмацоўваецца таксама па-свойму сімвалічнай канцоўкай апавядання, тым, што адзін з яго герояў — пятнаццацігадовы Валодзька Сулашчык — застаецца жыць. «Жыві за нас. За бацьку. Дай я цябе абдыму», — такія апошнія словы камандзіра, звернутыя да Валодзькі. Бацька ягоны тут згадваецца нездарма: ён самаадданa любіў Беларусь, за яе «дзевяць гадоў прагібеў на нарымскай катарзе, нажыў там сухоты» і загінуў ужо ў шэрагах слуцкіх паўстанцаў.

Вядома, верны жыццёвай і мастацкай праўдзе Васіль Быкаў ніяк не абяцае Валодзьку лёгкай долі. Вось чаму поўны роспачных думак хлопец ідзе з «жудасных Чорных лядаў» «сам не ведаючы куды». І суправаджае яго назойлівае і ў нечым пагрозлівае сакатанне настырнай зграі сарок. Але воля да жыцця ў Валодзькі абудзілася. А гэта ўжо відавочны пробліск святла.

Вялікая згушчанасць трагізму дасягаецца і ў апавяданні «Перад канцом». Шматзначная сімволіка і філасофская абагульненасць тут адчуваюцца яшчэ больш выразна, чым у папярэднім творы. Бясспрэчны, напрыклад, у апавяданні «Перад канцом» прытчавы пачатак. Ён настолькі моцны, што гэтае апавяданне без вялікіх нацяжак можна назваць прытчай пра тое, як за паўвядра пярловай кашы людзі адмаўляюцца ад спробы здабыць свабоду, ад самой мары пра яе.

Персанажы ў гэтым апавяданні таксама гранічна абагульненыя. Гэта Блатняк, Эсэр, Стары з інтэлігентаў, Маўчун-забойца з манархічнымі поглядамі і, нарэшце, паручнік Глушкевіч, чалавек вельмі сумленны, прынцыповы, не пазбаўлены патрыятызму і, бадай, адзіны з герояў твора, канкрэтызаваны даволі падрабязна, грунтоўна, па законах звычайнай рэалістычнай паэтыкі. Лёс сабраў гэтых вельмі розных людзей у смярдзючым сутарэнні «чразвычайкі», у «цеснай, падобнай на катух» камеры. Усе яны чакаюць расстрэлу. Агульная небяспека неяк аб'ядноўвае разнашэрсных вязняў. І яны ўжо збіраюцца разам пазмагацца за жыццё. Але вось замест чаканага выкліку на расстрэл ахова прыносіць паўвядра пярлоўкі. І яно ўсё крута перайначыла, дашчэнту зруйнавала ранейшую згоду. Падсілкаваўшыся той злашчаснай пярлоўкай, Блатняк ужо адкрыта даносіць ахоўнікам на Глушкевіча і Маўчуна — маўляў, яны класавыя ворагі і збіраліся ўцячы. Гэтую шкурніцкую пазіцыю актыўна падтрымлівае і Эсэр, у якога таксама паявілася надзея, што яго могуць і не расстраляць.

Такі ўвогуле нескладаны падзейны касцяк гэтай прытчы, якая, аднак жа, вельмі багата гаворыць пра небяспеку раз'яднанасці і карыслівага эгаізму. І гэта зноў гаворка і пра трагізм нашай гісторыі, у якой менавіта раз'яднанасць грамадскіх сіл і эгаістычны разлік самых розных прыстасаванцаў так часта шкодзілі і шкодзяць беларусам. Нездарма ж дасціпны Рыгор Барадулін некалі з'едліва жартаваў, што там, дзе сабралася пяцёра беларускіх дзеячаў, будзе як мінімум шэсць груповак.

Прытчавае па сваёй галоўнай прыкмеце і ўнутранай сутнасці апавяданне «Перад канцом» моцна заземлена, напоўнена важкай канкрэтыкай за кошт вельмі выразных падрабязнасцей, у якіх адлюстроўваюцца жорсткасць і бязладдзе рэвалюцыйнага часу, разгул люмпенскіх страсцей, буянства нізкіх інстынктаў чэрні, якое афіцыёзная савецкая літаратура калі і адважвалася паказваць, дык пераважна ў своеасаблівым паэтычным арэоле, з яўным апраўдальным ухілам. Вельмі змястоўныя, часта напоўненыя глыбокім філасофскім сэнсам у творы спрэчкі, у якіх зноў жа шмат самых супярэчлівых тагачасных рэалій, таксама асэнсаваных пісьменнікам з сённяшніх пазіцый.

Апавяданне «Бедныя людзі» вызначаецца найперш вельмі моцнай псіхалагізаванасцю. Па сутнасці, гэта па-майстэрску напісаная псіхалагічная навела пра тое, як неблагі ўвогуле чалавек ужо ў адносна ліберальныя часы брэжнеўскага застою рашаецца на данос. Прычым рашаецца не без пакутлівых ваганняў і не з прамой подласці, не з жадання нашкодзіць бліжняму, а са страху, баючыся, каб не данеслі на яго самога. Чалавек гэты — прафесар Скварыш, які меў неасцярожнасць пасля ладнай чаркі, якая і развязала язык, сказаць асуджальныя словы пра нашу злачынную вайну ў Афганістане. Чулі яго толькі двое сяброў. І нехта з іх (а можа, і абодва) «настукаў» на Скварыша, бо тады такія словы афіцыйна лічыліся вялікім дзяржаўным крыміналам. А ў выніку прафесара выключаюць з партыі, што азначала для яго не толькі канец выкладчыцкай і навуковай кар'еры, але і грамадзянскую смерць. Вось ён і кідаецца, як загнаны ў клетку мядзведзь, зноў і зноў варожыць: аспірант Краснянскі сапраўды прыходзіў са шчырым чалавечым спачуваннем, ці яго падаслалі тыя, «нашы ахоўнікі»?

Адчуваючы, што ён ужо даўно трапіў пад каўпак, прафесар баіцца тэлефона, любой шчырай размовы, падазрае суседзяў, блізкіх, у тым ліку жонку і дачку. І гэта не перабольшанне выдуманых страхаў, не беспадстаўнае аўтарскае фантазіраванне, а горкая і балючая рэальнасць нашай таталітарнай сістэмы, якая знарок і вельмі настойліва сеяла ўсеагульны недавер паміж людзьмі, такім чынам раз'ядноўвала іх. Перад гэтай рэальнасцю мог устаяць той, хто гатовы быў адчайна рызыкнуць усім — пасадай, кар'ерай, імем, калі яно ў яго было, свабодай і нават жыццём, ды можа, не толькі сваім. Скварыш жа на такую рызыку не здольны. Ён не герой, не змагар, а чалавек звычайны, цалкам залежны ад той сістэмы, якая яго ўзгадавала. Таму ён і піша ўрэшце свой данос, магчыма, і сапраўды на падасланага правакатара, а можа, і на наіўнага ў сваёй шчырасці і чалавечай спагадлівасці, сумленнага дзівака. Гэта ў апавяданні, як часта бывае і ў рэальным жыцці, застаецца невядомым. Зрэшты, пэўнасць тут пісьменніку не патрэбна, бо ён паказвае жахлівасць чалавечай несвабоды ў таталітарным грамадстве і таму выкрывае не так даносчыкаў тыпу Скварыша (яны і самі загнаныя ахвяры, папраўдзе «бедныя людзі»!), як тую сістэму, што вымушала на подласць мільёны запалоханых людзей.

Словам, «ашчадны быкаўскі радок, як непрытомлены хадок» (Р. Барадулін) працягвае сваю вельмі значную работу па ўзнаўленні самых трагічных старонак беларускай гісторыі, нашага шматпакутнага жыцця, пераканальна сведчачы, як многа можа падняць на сваіх па вызначэнні нешматлікіх старонках апавяданне, якое яно бывае ёмістае і разнастайнае, калі яго стварае сталы, глыбокі і мужны мастак.

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

**P. S.**

Пасля таго ўжо, як артыкул быў напісаны, прыйшоў чарговы нумар штотыднёвіка (за 25 лютага), у якім змешчаны агляд Алеся Марціновіча студзеньскіх часопісаў пад загалоўкам «З апавяданняў Быкава пачатак...» Натуральна, што ў гэтым аглядзе галоўнае месца адведзена быкаўскім апавя-

данням. Але як жа няўважліва яны прачытаны! Крытык зусім адвольна звязвае апавяданне «Перад канцом» са Слуцкім паўстаннем, да якога мае дачыненне толькі першы твор — «На Чорных лядах», элементарна блытае герояў, скажона падае вельмі важныя матывы іх дзеянняў і ўчынкаў, часам сцвярджае адваротнае таму, што адкрытым тэкстам сказана ў празаіка, а то і падкрэслена ім.

«У роспачы прафесар піша на любімага аспіранта данос», — зазначае А. Марціновіч, маючы на ўвазе Скварышоў данос на Краснянскага («Бедныя людзі»), пра якога ў Васіля Быкава гаворыцца: «Краснянскі не быў яго любімым аспірантам, не вылучаўся ні асаблівымі здольнасцямі, ні біяграфіяй. Нагул пра яго Скварыш ведаў няшмат». Далей яшчэ падкрэсліваецца, што адносіны з аспірантамі прафесар «стараўся захоўваць з усімі роўныя — і са здольнымі, і з тымі, што не надта, нікога асабліва не вылучаючы ні ў якім сэнсе».

Дробны недагляд крытыка? Як сказаць. Бо ім рэзка перайначаны падрабязнасці, вельмі істотныя для разумення псіхалагічнага стану персанажа.

Разглядаючы апавяданне «На Чорных лядах», А. Марціновіч называе камандзірам паўстанцаў Мяцельскага і прыпісвае яму словы і ўчынкі другога персанажа — камандзіра сапраўднага, які, як ужо зазначалася, у Быкава ўласнага імя не мае. Такім чынам, з двух быкаўскіх персанажаў крытык сканструяваў аднаго — «камандзіра Мяцельскага». Ды галоўнае не ў гэтай адвольнай кантамінацыі, а ў тым, што не менш адвольна вытлумачваюцца і прыпісаныя Мяцельскаму матывы дзеянняў камандзіра. Вось крытык заяўляе, што Валодзька Сулашчык «па сутнасці выпадкова» пакінуты жывым. «Значыць, гуманізм Мяцельскага па сутнасці як бы вымушаны», — сцвярджае ён далей, папракаючы гэтага Мяцельскага, а на самой справе камандзіра за нібыта ўласцівую яму небяспечную па сваіх магчымых выніках «празмерную апантанасць, гатовую перарасці ў фанатызм». «Галоўнае, што чалавек, жыццё канкрэтнага чалавека пад увагу не прымаецца», — падсумоўвае свае разважанні А. Марціновіч, хоць гэта ніяк не стасуецца ні да сапраўднага Мяцельскага, ні да камандзіра, пазіцыя якога тут асуджаецца. Бо ў творы якраз абыякавасці да «жыцця канкрэтнага чалавека» і няма. Ягоныя героі адважыліся на самагубства не толькі «ў імя вялікай ідэі» і тым больш не з упартасці — «абы не здацца бальшавікам», як піша крытык, а таму, што іншага выйсця ў іх не было. Іх самазабойства асабліва трагічнае, бо яно цалкам вымушанае. Як і ў Сушчэні з быкаўскай аповесці «У тумане», у іх не заставалася магчымасці для сумленнага жыцця. І яны свядома ідуць на смерць таму, што не хочуць «пацягнуць на пакуты іншых, тых, дзеля каго па сутнасці распачалі» паўстанне.

Такая вычарпальна ясная матывіроўка ў пісьменніка. А гэта ўжо ніякі не фанатызм, няхай сабе і дзеля вялікай ідэі, а трагедыя неспрыяльных абставін, трагедыя непазбежнасці.

Вяртаючыся да Валодзькі Сулашчыка, трэба зазначыць, што, насуперак усім закідам крытыка, менавіта камандзір, па-настаўніцку чулы да людзей, з самага пачатку найбольш турбаваўся пра юнака, «ніяк не мог пагадзіцца з яго пагібеллю, усё думаў, як схітраваць, каб неяк зберагчы ягонае жыццё». А потым ужо высветлілася, што і патрона не хапае, і магілу трэба некаму так зраўняць з зямлёй, каб яе не адшукалі бальшавікі.

Не вельмі дакладны А. Марціновіч і тады, калі адносна паручніка Глушкоўскага з апавядання «Перад канцом» піша, што той «не прыняў рэвалюцыю і тым самым асудзіў сябе на блуканні па пакутах». Фраза хлёсткая, але толькі фраза. Бо Глушкевіч супраць рэвалюцыі яшчэ нічога не зрабіў і, здаецца, рабіць не збіраўся. Уся яго віна толькі ў тым, што ў яго знайшлі браўнінг, узяты на фронце «без асаблівай мэты, каб не прападала дабро». Але і без таго злашчаснага браўнінга пакуты Глушкевічу ўсё роўна былі забяспечаны. Трагічны злом гісторыі асуджаў на гэта такіх людзей у любым выпадку. І пераканальнае сведчанне таму — страшны лёс Тухачэўскага, Убарэвіча, Крыленкі і многіх іншых былых вайскоўцаў, якія самааддана служылі рэвалюцыі.

Закругляючыся са сваёй ужо зацягнутай дапіскай, хачу падкрэсліць: крытычная праца — занятак увогуле няўдзячны. І тыя ці іншыя промахі ў гэтай працы, як і ва ўсякай іншай, заўсёды магчымыя. Па-чалавечы ўсё гэта можна зразумець. Але нельга зразумець іншага: як можна, добра не ўчытаўшыся ў творы, прад'яўляць мастаку сур'ёзныя прэтэнзіі? А. Марціновіч такія прэтэнзіі выказвае. Ён убачыў у апавяданнях Васіля Быкава і спрошчаны погляд на Слуцкае паўстанне, і няўменне аўтара справіцца з матэрыялам, і тое, што празаік нібыта прыходзіць да вынікаў, на якія «наўрад ці разлічваў». І гэта гаворыцца пра пісьменніка, у творах якога дакладна вывяраецца кожнае слова і кожная дэталь! Нам, крытыкам, хоць бы трохі наблізіцца да такой вывяранасці. Як некалі казаў Горкі, вось бы добра было!

**Д. Б.**

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***

***2. Ці ўзнікала жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***

***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў /так званае хобі/.***

Мікола КУСЯНКОЎ

# ВЫБАР — САМАІРОНІЯ

1. Ці пішацца сёння? Дзякаваць Богу, пішацца. У 1—2 нумарах часопіса «Полымя» за гэты год надрукаваны раман «Явар з калінаю», а ён, канечне ж, напісаны «сёння». А што акурат у гэты момант на пісьмовым стале, дык гэта кніга вершаў, работа над якой падыходзіць к канцу. Раней кнігу паэзіі складаў з тых падборак, што з'яўляліся ў перыёдыцы, цяпер жа прапаноўваць нешта ў друк не спяшаюся. Зайздрошчу тым, хто ўмее пісаць вечныя вершы, мне ж не лішне паглядзець, а ці не ўстарэе той ці іншы верш яшчэ ў рукапісе. Праўда, мы жывём у вельмі цікавы час: нейкія вершы майго зборніка «Дуброва» ў сувязі з нібыта кардынальнымі пераменамі ў грамадстве як быццам хутка ўстарэлі, але сёння яны зноў гучаць актуальна.

2. Мне здаецца, натуральна было б гаварыць пра выбар арыенціра, бо цяпер у нас паявілася такая магчымасць — выбіраць. У цывілізаваным грамадстве пісьменнік не ўключаны ў якую б там ні было «сістэму», ён сам стварае для сябе сістэму філасофскіх, эстэтычных і грамадска-палітычных уяўленняў, калі ж не стварае, дык свабодна выбірае. А выбарам можа быць і тое, што ў нас нехта не адмовіцца і ад старой «сістэмы». І на здароўе. Хай нехта верыць і ва ўчарашні або мадэрнізаваны сацыялізм, толькі нікому не навязвае яго сілай, хай не перашкаджае іншым выпрацоўваць або выбіраць нешта сваё, магчыма, і адракаючыся ад сябе ўчарашняга. У апошнім выпадку важна, каб выбар быў некан'юнктурны, шчыры, але што датычыць гэтага далікатнага моманту, дык жыццё ў нас такое пераменлівае, што шчырасць нашых пераарыентацый можа быць яшчэ не раз ім праэкзаменавана. Не прымаю толькі аднаго: некаторыя з нас вельмі актыўна ствараюць сабе пакутніцкі імідж учарашняга дысідэнта, ажно ўзнікае падазрэнне, а ці не таму і рухнула былая сістэма, што такія дысідэнты прыслужвалі ёй з кукішамі ў кішэнях. Іх успаміны пераплавіць бы ў якінебудзь дзіцячы жанр, можа, у дзіцячым садку ім і паверылі б.

Што датычыць майго ўласнага выбару, дык у грамадзянскім плане гэта — маё іранічнае стаўленне да сябе колішняга, таго зашоранага, праўда, пасіўнага артадокса «самай передавой тэорыі», якім да пары да часу я не мог не быць. Гэтая самаіронія — у маім рамане. Што ж да пераарыентацыі чыста літаратурнай, дык тут у мяне відавочны выйгрыш. Праблема — пра што пісаць і як — паўстала перада мною даўно, яшчэ на мяжы 60—70 гадоў, калі я вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Гэтая навучальная ўстанова, да якой высокаадукаваныя літаратары ставяцца вельмі скептычна, канешне ж, не давала сістэматычнай адукацыі (пасля я скончыў і факультэт журналістыкі БДУ), але для таго часу ВЛК былі надзвычай прагрэсіўнай навучальнай установай. Выхоўвалі там нас і мастадонты яшчэ жданаўскіх часоў, але на лекцыях вальнадумных выкладчыкаў гаварылася тое, што, бывала, я чуў зусім нядаўна. Дый не ва ўсякай навучальнай установе чытаўся курс сучасных заходніх філасофій. А ў выніку я, хутчэй за ўсё — падсвядома, прыйшоў да вываду, што пісаць мне няма пра што. Тэма вайны і пасляваеннага дзяцінства ў межах яе дазволенасці была ўжо вычарпана маімі равеснікамі, тое ж і з тэмамі «ўсе мы з хат», «чалавек і прырода», а пра што яшчэ можна было пісаць? Словам, за пятнаццаць гадоў я напісаў невялікую аповесць ды літаральна некалькі вершаў, але яны, надрукаваныя, толькі яшчэ больш пераконвалі мяне, што сказаць нешта больш-менш істотнае не ўдаецца. Магчыма, не ўдалося мне гэта і пазней, але ж гаворка тут, як таго патрабуе пытанне анкеты, пра змену арыенціраў, таму я толькі і хачу сказаць: другі раз я пачаў пісаць незадоўга да «перабудовы», і акурат у гэтым мой выйгрыш. Сёння я магу адмовіцца хіба што ад аднаго напісанага ў гэты перыяд верша.

3. Пра хобі. У дачыненні да мяне гэта не пытанне «на дэсерт». У мяне ажно два хобі. Адно, праўда, у мінулым, і спачатку пра яго.

Гадоў дзесяць-пятнаццаць маім захапленнем было самастойнае вывучэнне англьскай, як цяпер пішуць, мовы. Так, гэта было хобі, бо я не ставіў сабе ніякай практычнай мэты. Па-першае, выявіў, што цяжка ўспрымаю чужую мову на слых, па-другое, не было моўнага асяроддзя, а без яго авалодаць мовай нельга, і па-трэцяе, я не збіраўся ехаць за мяжу (пасля аказалася, што за мяжой я ўсё-такі пабываў — у Расіі, у Літве, на Украіне). Такім чынам, мову я вывучаў, як у такіх выпадках кажуць, на ўзроўні аналізу, але ж і гэта надзвычай цікавы занятак, да таго ж карысны для здароўя — супакойвае нервы. Калі быць шчырым да канца, дык усётакі была ў мяне практычная спроба: захацелася перакласці адно апавяданне. Героямі яго былі... гадзіннікі, ён і яна, для ангельскай мовы гэта натуральна, таму што ў ёй няма роду назоўнікаў, але я вывернуўся: яму даў імя Цік-Так, а ёй Цікі-Такі, таму калі хто будзе ўсур'ёз перакладаць тую невялічкую светлую казку Мюрыел Спарк, аддаю сваю знаходку задарма. Тое даўняе хобі я ўжо забыў, але і зусім нядаўна пераклаў адну страфу з Кіплінга, якую выкарыстаў у якасці цытаты ў адным са сваіх вершаў.

А другое маё хобі — мой літаратурны занятак. А што ж ён, калі не хобі? Напэўна, сярод пісьменнікаў ёсць і прафесіяналы, у мяне ж гэта заўсёды — занятак у вольны ад асноўнай работы час, сёння — ад работы ў выдавецтве. Ён тым больш хобі, гэты занятак, бо і дома з табою той «выдавецкі» псіхалагічны стан, калі адчуваеш сваю разгубленасць перад неабходнасцю ўспрымаць як належнае пісьменніцкую незадаволенасць выдавецтвам. Зразумела, кожны пісьменнік — адзіны ў сваім родзе, кожны — першы, хоць бы патэнцыяльна, таму і не дзіўна, што кожны патрабуе да сябе ўвагі, але як быць выдавецтву, калі кожны патрабуе ўвагі першачарговай!.. Дарэчы, калі ўжо вышэй ішла гаворка пра «пераарыентацыю», дык часам здзіўляе, з якой зайздроснай непасрэднасцю некаторыя мэтры не самага сталага веку даюць зразумець, што тыя рынычныя ўмовы, у якіх сёння працуе «Мастацкая літаратура», іх не датычаць...

Але, здаецца, мой адказ ужо выходзіць за межы пастаўленага пытання...

Сяргей ГРАХОЎСКІ

# ПІШУЦЦА БАЛЮЧЫЯ ВЕРШЫ

1. Калі не гоіцца скразная рана душы, я мушу некаму выказаць свой боль. Тады прыходзяць задумы, радкі і страфы — з'яўляюцца балючыя вершы. Апошнім часам апублікаваў нямала так званай «чарнухі». А кожны новы верш, як серная кіслата, раз'ядае душу і сэрца, адымае сон або наганяе кашмары: столькі льецца дарэмнай крыві ў нашых колішніх сяброў і суседзяў! Толькі нашага стогну і енку ў кабінетах з «вяртушкамі» ніхто не чуе і чуць не хоча. У іх поўна сваіх клопатаў: як трывалей утрымацца за даходнае крэсла і «перабіцца на мінімальнай зарплаце».

Дачакацца праменьчыка святла ў нашай прорве да канца **свайго** веку не спадзяюся. Малю Бога, каб на нашай зямлі не лілася кроў, а ўнукі і праўнукі дацягнулі да людскага жыцця.

Апошнім часам спадзявацца няма на што, таму часцей і часцей успамінаецца юнацтва і маладосць, калі мы ў нешта верылі, прыгадваю даверлівых равеснікаў і равесніц, некалі акрыленых спадзяваннямі і светлым каханнем, а потым скалечаных і растаптаных на самым узлёце. Мы ж не жылі, а толькі заўсёды за нешта і з некім «змагаліся».

Большасці маіх равеснікаў даўно няма на свеце, а я іх усіх памятаю маладымі, прыгожымі, светлымі і шчырымі. Успаміны натхняюць на лірычныя вершы, і часам спрабую пісаць. Спадзяюся ў хуткім часе нешта з іх апублікаваць.

2. Жаданне патрабавальна перагледзець свае невялікія набыткі — мая хранічная хвароба: бясконца правіць, крэсліць, скарачаць, перапісваць нанава не толькі ў рукапісах, але і апублікаваныя тэксты, бясконца шукаць адзінае слова, вобраз, радок, страфу, абзац. Сапраўдная літаратура павінна быць заўсёды сабою незадаволена. Таму з маладосці прыняў і нязменна кіруюся запаветамі Нікола Буало:

**Шлифуйте, чистите, пока терпенье есть:**
**Прибавьте две строки**
**и вычеркните шесть.**
**... Вам страшен приговор**
**общественного мненья,**
**Судите строже всех *свои* произведенья.**
**... Пристало лишь глупцу**
**себя хвалить всегда.**
**Просите у *друзей* сурового суда.**

На вялікі жаль, наш суровы і непрадказны час разбурыў творчае сяброўства. Наш груваcткі Саюз перастаў быць Домам пісьменніка, творчаю, зацікаўленаю здабыткамі і стратамі таварыша літаратурнаю сям'ёю. Мы рэдка чытаем адзін аднаго, а каб не крыўдзіць таварыша, пазбягаем гаварыць яму праўду. Сапраўдныя ж сябры не хлусяць!

Дарога да чытачоў апошнім часам і «кісларод» для існавання літаратуры перакрыты самымі неадольнымі барыкадамі барацьбітоў з культураю і мастацтвам. А пісаць хочацца. Усё часцей і настойлівей стукаецца проза. Неабходна перапісаць пакалечаныя цэнзураю і страхам сказаць не тое, што дазволена, мемуары і падзеі свайго доўгага і такога размаітага жыцця. Хочацца папоўніць нарыс «Мястэчка... мястэчка», да аўтабіяграфічных аповесцяў дадаць цыкл самых шчымлівых апавяданняў. Чаму ж не пісаў адразу? Спяшаўся, пакуль не захлынулася дэмакратыя і не ўваскрэсла цэнзура. А цяпер адымае час і атручвае душу пякельны быт. Шкада, што столькі цікавага і нікому невядомага назаўсёды знікне разам з аўтарам.

3. Сфера маіх інтарэсаў шырокая: люблю сустракацца з цікавымі людзьмі, блукаю па ацалелых вулачках старога Менска, — хаджу на сустрэчу са сваёй маладосцю. Даводзіцца часта дапамагаць хадайніцтвамі і клопатамі былым гулагаўскім вязням. Калі сціснe туга і адчай, слухаю класічную музыку, баюся «року» і нецярплю «мыльных» тэлесерыялаў. Калі фарбамі і пэндзлікам нешта пэцкаю, забываюся пра ўсё будзённае і горкае.

Кожную раніцу ў любое надвор'е паўгадзіны раблю зарадку. Увечары шпацырую па плошчы Якуба Коласа або на апошнім прыпынку метро. Часта на могілках адведваю даўніх сяброў. Іх там болей, як тут. Успамінаю кожнага і журуся да слёз.

## ЗНАКАМІТЫ РОД АГІНСКІХ...

Прадстаўнікі яго адыгралі вялікую ролю ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Прытым, як устаноўлена нядаўна (Л. Хмяльніцкая, «Князі Агінскія ў Віцебску», «Голас Радзімы», 14 красавіка 1994 года), жылі яны ў самых розных гарадах. І усё ж найбольшай вядомасцю па сённяшні дзень карыстаюцца два Агінскія, прытым абодва кампазітары — Міхал Клеафас і Міхал Казімір.

Гаворка пра іх і вялася на вечары «Род Агінскіх і Беларусь», што праходзіў у Доме літаратара і быў арганізаваны Згуртаваннем беларускай шляхты. Шмат цікавых фактаў даведаліся прысутныя з вуснаў вядучага вечара Л. Акаловіча, В. Дадзіёмавай, У. Мархеля, В. Скорабагатава.

Прагучалі творы Агінскіх, а знакаміты паланез «Развітанне з Радзімай», аўтарам якога, як вядома, з'яўляецца Міхал Клеафас Агінскі, аказваецца, падштурхнуў А. Лойку (лібрэта) і кампазітара М. Марозаву да стварэння оперы пад той жа назвай. Урыўкі з гэтага твора таксама прагучалі на вечарыне.

## «АД ГАМЕЮКА ДА ГОМЕЛЯ»

Так называецца кніга Аляксандра Рогалева, выпушчаная ў Гомелі Беларускім агенцтвам навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі. Прэзентацыя яе прайшла ў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. Герцэна. Разам з аўтарам у прэзентацыі прынялі ўдзел намеснік дырэктара БелАНТДІ М. Беразоўская, загадчык аддзела А. Кузьміч, краязнаўца Р. Музычэнка. У планах гэтага агенцтва — выпуск новых кніг А. Рогалева, А. Макушнікава, В. Каваля і іншых аўтараў, якія з павагай ставяцца да мінуўшчыны роднага краю.

С. ЗОТАВА

## У ГОСЦІ З ПРЫВІТАННЕМ ШЧЫРЫМ

завіталі да супрацоўнікаў выдавецтва «Юнацтва» настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, што займаліся на курсах павышэння кваліфікацыі пры Беларускім педагагічным універсітэце. І былі сустрэты, як і чакалася, належным чынам. Адбылася нязмушаная і сардэчная гаворка, падчас якой закраналіся надзённыя пытанні выдання дзіцячай літаратуры, нацыянальнага Адраджэння. З цікавасцю слухалі выкладчыкі дырэктара выдавецтва В. Лукшу, галоўнага мастака «Юнацтва» І. Бокія, вядучых рэдактараў У. Карызну, М. Зарэмбу, У. Марука. Прыйшліся педагогам даспадобы і творы, прачытаныя імі.

## ЁСЦЬ ПОМНІК НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ...

Ды не ўзведзены прыхільнікамі манументальнага мастацтва па сацыяльным заказе, а сфарміраваны, можна сказаць, самім часам, на працягу стагоддзяў. Гэта найстаражытнейшы цэнтр Браслава, умацаваны нашымі продкамі, які цяпер з'яўляецца помнікам археалогіі і гісторыі Беларусі. Калі б мог ён гаварыць, дык паведаў бы пра шмат якія падзеі — вялікія і важныя, што адбываліся ў тутэйшых мясцінах.

Аднак, як вядома, помнікі маўчаць. За іх гавораць людзі. Неабыякавыя да мінуўшчыны, да нацыянальнай гісторыі. А да іх акурат і належаць Г. Семянчук і К. Шыдлоўскі. Колькі гадоў назад яны і прапанавалі выдавецтву «Полымя» рукапіс пад назвай «Браслаўская замкавая гара».

Рукапіс у выдавецтве ўхвалілі, падрыхтавалі да друку. І вось, нарэшце, кніга прыйшла да чытача. Маляўніча афармленая, яна папоўніла серыю «Помнікі беларускага дойлідства», якая стала прапісалася ў выдавецтве «Полымя».

Паэзія

Віктар ШНІП



## СТРАЧАНА ВЕЧНАСЦЬ НА ГЭТАЙ ПЛАНЕЦЕ...

•

— Не хадзі ты ў поле,
бо там смерць гуляе,
А ідзі ў карчомку, там віно чакае...
Толькі ён нікуды не пайшоў з хаціны,
І смяяліся над ім усе жанчыны.
А адна маўчала і слязу губляла,
І ад слёзаў ейных крапіва завяла,
Што спавіла сцежку да хаціны ціхай,
Дзе хадзіла шчасце, дзе сягоння ліха,
Сеўшы на каменне, хітра паўтарае:
— Не хадзі ты ў поле,
бо там смерць гуляе,
А ідзі ў карчомку, там віно чакае...
І пайшоў па сцежцы весела хлапчына,
І куды ён прыйдзе — будзе там Айчына.

### ШЛЯХ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Цёмна, цёмна ў родным краі.
На крыжах вятрыска грае.
Дзе свята? Свята няма.
Доўга цягнецца зіма.
Нібы воўк, завея вые.
Люд маўчыць. Няўжо — нямыя?
Да агню ідзе Максім.
Воўчы цень ідзе за ім.
А наўкол адна бядота
І жыццё, нібы балота.
Што з таго, што ні граша!
Ёсць галоўнае — душа
У людзей, што ў родным свеце
Патаемна сяяць аб леце.
Цёмна, цёмна — хоць ты плач, —
З неба зоры ўкраў крумкач.
Да свята дайсці ўсё ж трэба.
Тут зямля, тут наша неба,
Тут шынок, а тут турма,
Нават нашая зіма.
На крыжах завея грае.
Кожны крыж свой выбірае.
А ў Гарэцкага дарога
Да вясны, свята і Бога...
Дойдзе, дойдзе наш Максім.
Нам ісці лягчэй за ім.

•

Вецер згінае высокія дрэвы,
Лісце зрывае, ламае галлё.
Нашыя сцежкі змывае залева,
Цені лятаюць праз наша жыллё.

Нам жа не страшна — я сёння з табою.
Свечкі агеньчык каля абразоў
Нам асвятляе шляхі да спакою —
Шлях праз каханне і шлях праз любоў.

Ціха ў пакоі, нібыта ў тым свеце
Скуль мы прыйшлі і куды нам пайсці.
Б'ецца аб шыбы раз'юшаны вецер —
Дзверы ў кватэру не можа знайсці.

...Вецер заціхне, дамы пасвятлеюць.
Дрэвы спакойна ізноў зашумяць.
Дрэвы таксама, як мы, зразумеюць
Тое, што страчана — не адшукаць.

Страчана вечнасць на гэтай планеце.
Мы прывыкаем без вечнасці жыць.
Дрэвы ламае высокія вецер,
Нашыя сцежкі змываюць дажджы.

•

Гэта сёння ў нашым садзе вецер
Лісце ў кучы шорсткай падпаліў.
І папоўз па дрэвах, па зямлі
Цёплым, сумным дымам
ціхі вечар.
Ападаюць яблыкі на грады,
Свецяцца, як золата ў траве.
Маці куранят дамоў заве,
Ну а ім не хочацца дахаты.
На гумнішчы шэры стог саломы
Светлы, быццам бы мінулы дзень.
І дрыжаць каменьчыкі ў вадзе —
Холадна ў рацэ, нібы старому,
Што аўтобус з горада чакае.
Лісце ў кучы дымна дагарае.
Дым паўзе па дрэвах да хмурын,
На вятры гудзе стары палын.

•

«Люблю мінчанак маладых,
Ад іхніх ног займае дых...» —
Гаворыць сябра і ўздыхае,
І поўны келіх выпівае.
І сёння бар яму, як рай.
Музыка, грай! Музыка, грай!
І не глядзі, што мы п'яныя,
Галоўнае, што мы жывыя
І разумеем прыгажосць.
А ў прыгажосці — д'ябал ёсць.
— О як бы іх я распранаў!
О як бы іх я цалаваў!
Гаворыць сябра, вар'яцее
І многа п'е, а піць — не ўмее,
Але ўсё ж помніць пра дзяўчат.
На іх кідаючы пагляд,
Зноў поўны келіх налівае.
Душа жыве, душа спявае:
— Люблю мінчанак маладых,
Ад іхніх ног займае дых...

•

Усё знікае ў небыцці,
Ды трэба ў небыццё ісці,
Як гэты дзень — за небакрай.
Жыццё — даўным-даўно не рай.
І дождж блакітны за вакном,
І пляшка чорная з віном —
Усё спакуса для душы.
А з неба сыплюцца глыжы,
А потым Храм разбурыць сам
І пылам знікне ў небыцці,
І будзе шэры дождж ісці.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



## «МОЙ КРАЮ, Я ТВОЙ ВЕРНЫ СЫН...»

•

Майго краю гаспадары,
Як вы тут уладарылі крута!..
Не сякеры, а тапары
Вы ўздымалі у злосці лютай.

І не бераг далёкі, а бжэг
Праз імглістую даль шукалі.
А стагоддзяў імклівы бег
Зноў узважваў мой край на шалях.

І хацелі адбіць мазгі,
Адурманіць гарэлкай таннай,
Каб заўсёды плаціць даўгі,
Нібы парабкі — не ратаі.

Я, мой краю, твой верны сын,
Хоць і продкі былі чужыя.
Я не раб твой, не гаспадзін,
І заўсёды ў гадзіны злыя

І ў шчаслівыя я з табой,
Тут мой голас і тут мой колас.
Тут і думак маіх сувой,
Тут рыпіць майго лёсу кола.

Толькі хочацца, каб ты зноў,
Не паддаўся ілжывым словам,
Каб ты хцівых гаспадароў
Не нажыў бы сабе нанова.

•

Раскрыю яблыка сакрэт
У глыбіні сусвету:
Адзін маленечкі ранет —
Як цэлая планета.

І нешта дзіўнае ў людзей
Пабачу у паглядзе,
Калі зноў яблык упадзе
У вечаровым садзе.

### НОЧ

Дрэмле стол і дрэмле сшытак,
Дрэмлюць столь і сцены, дом.
Масы дрэмлюць і эліта,
Дрэмлюць кветкі за акном.

Толькі ў бледных промнях поўні
На дарозе ўбачу цень:
То запылены вандроўнік
Свой няспынны шлях кладзе.

•

Ты — музыка. Ты — жывапіс.
Ты — сад.
Дарога ўперад і адкат назад.
Ты — поле. Ты — бяроза. Ты — мурог.
Ты — вечнае жыццё маіх трывог.
Ты — восень. Ты — спякота.
Ты — вясна.
Ты — перамога. Ты — мая віна.

•

У новы дзень, у новы год
Уціснемся ізноў патроху.
На полі — снег. На рэчцы — лёд,
Як і ў мінулую эпоху.

Ды нешта зрушылася ўсё ж
На нейкім, на чарговым крузе.
І боль, нібы ля горла нож,
Трымае сэрца у напрузе.

Віруе думак карагод
І хмар чароды не радзеюць.
На полі — снег. На рэчцы — лёд.
І побач — скруха і надзея.

Проза

Юры СТАНКЕВІЧ

# ПАЛЕНПАК

АПАВЯДАННЕ



Дзень пачаўся пагана, а потым, вядома, усё так і пайшло. На досвітку ў халодную, пракураную казарму грукатам ботаў уварваўся быкаваты апуцак-старшына і зароў:

— Трывога!

Мацюкаючыся, радавы Сяргей Каляда хутка сабраўся. Хутка таму, што пра трывогу і вучэнні ўсе даўно ведалі, і, адпаведна, спалі апранутыя. Ён таропка накруціў непрасохлыя анучы, напяў на ногі мокрыя ж кірзовікі і разам з усімі кінуўся да складоў — атрымліваць зброю, сухі паёк і амуніцыю. Уся рота неўзабаве ўжо была там: у паветры чуліся лаянка і крыкі каманд. Дзьмуў халодны паўночна-ўсходні вецер, пра які на радзіме Сяргея гаварылі адным словам — «маскаль».

— Каляда! Радавы Каляда!

Ротны — маёр Уразаў, крываногі нават у галіфэ, худы, невысокага росту, са зморшчаным, скуластым тварам качэўніка — усё-ткі адшукаў яго ў гэтым гармідары. «Каб ты спрах», — паспеў толькі падумаць радавы Сяргей Каляда і звыкла стаў на «зважай», казырнуў.

— Панесяце «паленпак», — суха загадаў яму маёр Уразаў. — Адказваеце за яго. Зразумелі?

— Слухаю, тавмаёр.

Радавы Каляда, тонкі, як пруток, светлавалосы, наўцямна глядзеў маёру ў твар шэрымі вачыма. Ротны быццам хацеў дадаць яшчэ і нешта злоснае, але мусіў адвярнуцца, бо яго тармасілі з усіх бакоў. Трэба было выводзіць асабовы састаў.

У роце лічылі за шчасце насіць важкі ротны кулямёт і два падсумкі з патронамі ў дадатак, толькі б не «паленпак». Насіў жа яго па загадзе маёра Уразава звычайна той, каго маёр асабліва не любіў, хто гнуўся, але ў душы не ламаўся, а ротны такіх вызначаў амаль што з жывёльнай дакладнасцю. Насіць «паленпак» было як пакаранне, як прытоены здзек, хаця маёр Уразаў клапаціўся за яго нават больш, чым палітрук. Усе ў роце ведалі, што ротны прагне стаць падпалкоўнікам і прыняць батальён, бо цяперашні камбат ужо спакваля рыхтаваўся на пенсію. Маёр Уразаў дамагаўся ажыццявіць сваю мару з упартасцю насякомага. «Паленпак» у яго быў самы вялікі ў батальёне, і насіць яго мог хіба толькі асілак, але ротны не зважаў на такія дробязі. Вядома, маёру Уразаву ўсё гэта было трэба не дзеля нейкай агульнай карысці ці ідэі, а каб проста прыкрывацца ад усюдыісных правяраючых. Тым больш у час аглядаў, марш-кідкоў ды вучэнняў. Тады заўсёды маглі праверыць і, дарэчы, іншым разам правяралі з імпэтам ды дробязнай прыдзірлівасцю палітработнікі з дывізіі і нават з арміі. Вынік такой праверкі мог паўплываць і на тое, атрымае ротны чарговае званне і зорачку ў пагоны ці выйдзе ў адстаўку маёрам.

У агульным тлуме і вэрхале радавы Сяргей Каляда ўсё-ткі адзначыў шэраг розных, хаця быццам і другарадных рэчаў: што ўзводныя яшчэ не зусім цвярозыя з учарашняга, што сухі паёк выдаюць на тры дні — значыць, столькі яны і будуць страляць халастымі патронамі ў неба, бегаць за танкамі, акопвацца ды пакутаваць на голай зямлі халоднымі начамі. Ён ведаў, што ўвішны высавень-ротны за гэты час свайго не ўпусціць — зробіць усё, што здолее, каб рота вылучылася на манеўрах. Адзначыў ён таксама, што паштар і ротны стукач сяржант Сідоркін зноў на вучэнні не едзе, будзе ашывацца ля штабных. Дарэчы, ён рабіў Сяргею нейкія знакі.

— Пісьмо?

Сяргей Каляда адчуў, як яго аж кінула ў жар ад такой неспадзяванай навіны, і схапіў паштара за рукаў:

— Давай!

Сідоркін кіўнуў і выцягнуў з сумкі канверт. Радавы Каляда выхапіў яго і таропка схаваў у кішэню: прачытае пасля. Ён, напэўна, ведаў, што пісьмо ад Паліны — тая не ліставала яму ўжо амаль месяц. І хаця радавы Каляда здагадваўся: лісты калі-нікалі затрымліваюцца і таму, што імі цікавяцца людзі пры штабе, на якіх працуе той жа Сідоркін, на душы ў яго ўсё роўна зрабілася цяплей.

З Палінай здарылася так.

Дзевятнаццацігадовы Сяргей толькі-толькі адвучыўся курс, як атрымаў позву. Ішоў якраз чарговы склік. З гэтай нагоды яго аднакурснік па тэатральна-мастацкім інстытуце і зямляк са Случчыны Яўген Гадун выказаўся ў тым сэнсе, што ваенкамат — гэта змяя, якая кусае балюча і заўсёды нечакана. Пэўна, ён меў рацыю.

Сяргей зрабіў развітальнае застолле. Запрасілі, вядома, і дзяўчат. Прыйшла сярод іх і Паліна — высокая, прыгожая брунетка з сінімі вачыма і нагамі, як у фотамадэлі. Яна вучылася на акцёрскім аддзяленні і жыла ў інтэрнаце паверхам вышэй. Адыходзіны былі ў самым разгары, калі раптам аднапакаёўца Гадун п'яна ўзняўся з крэсла і спытаў:

— А вы ведаеце, каго мы ў армію адпускаем?

— Каго? — зацікавіліся за сталом.

— Нявінніка, — ляпнуў Гадун і дадаў: — Вялікі непарадак. Ганьба на нас, случакоў. Чуеце, дзеўкі?

Дзяўчаты захіхікалі. Сяргей, будучы на добрым падпітку, пацвердзіў:

— Так. Не было часу, а што ?

— Ну дык вось, — несла Гадуна. — Гэта справа паправімая. Сядайце, дзяўчаты, у кола.

Гадун намацаў пустую бутэльку і са словамі: «На каго Бог пашле» крутануў яе на стале.

Бог паслаў на Паліну.

Праз якую гадзіну ўсе з жартамі разбрыліся па сваіх пакоях. Паліну прымусілі застацца.

... Пад раніцу, ужо зусім цвярозы, ён усё цалаваў яе, з жахам разумеючы, што гэта назаўсёды: яна ці ніхто.

— Ты толькі чакай! Будзеш? Усяго год які, я хутка вярнуся.

У слабым святле наступаючага дня Паліна выслізнула з-пад коўдры і пацягнулася за цыгарэтай.

— Не хачу нікуды ісці, — сказаў Сяргей.

— І я не хачу, — зноў схавалася пад коўдру Паліна.

Яны закурылі.

— Несмач на стале. Так і не прыбралі ўчора, — сказала Паліна другараднае.

На плошчы, за вакном інтэрната, грымнуў духавы аркестр — там пачыналі ўжо рыхтавацца да кастрычніцкіх свят.

— Ты мне слова дай, калі можаш. Будзеш чакаць?

— Не ведаю пакуль. Ну ты й дзівак.

— Інакш я вярнуся і заб'ю цябе.

— Ха!

— Дай жа слова, мне вельмі важна.

— Ну буду, буду, — паабяцала Паліна і раптам заплакала.

І больш за ўсё, здаецца, на свеце Сяргей хацеў тады, каб ноч доўжылася і доўжылася, каб не трэба было куды збірацца і ісці, і каб змоўк урэшце той духавы аркестр, які ўсё іграў і іграў адзін і той жа абрыдлы марш.

... Радавы Сяргей Каляда з аўтаматам у руках і з «паленпакам» на спіне ўскараскаўся ў запоўнены салдатамі бэтээр. З тугой ён падумаў пра тое, што наперадзе тры дні пакут, і нават кінутая казарма цяпер здалася яму цёплай і абжытай. Тая казарма, дзе, пэўна, ужо ва ўсю ішоў шмон. Ён ведаў пра звычкі асабоўцаў: толькі якая трывога — тыя, як мухі на падлу, адразу кідаліся да тумбачак ды ложкаў. Усё нешта шукалі ды вынюхвалі, надта і не хаваючыся, быццам так і трэба.

Радавы Каляда страсянуў галавой, праганяючы трывожныя думкі, і скінуў пад ногі «паленпак». Адразу нібы выпала вата — у вушы ўварваліся ўзбуджаны смех, мацяршчына, кпіны. Кпілі і з яго. З тых, хто насіў «паленпак», заўсёды пасміхаліся, нібы з убогіх. Але ўрэшце зараўлі рухавікі, і машыны рушылі.

На акруговы палігон у раён вучэнняў прыбылі толькі пад вечар, пасля таго, як пераправіліся па пантонах цераз раку. Ротны злаваўся, нерваваўся і заразіў гэтым усіх. Ён сыпаў праклёнамі і аддаваў загады, каб праз нейкі час адмяняць іх і аддаваць новыя. Да таго ж згубілася палявая кухня, і ўсе знемагалі ад смагі — не было вады. Урэшце маёр разам з узводнымі распрацаваў картачкі агню і ўмоўнага бою і загадаў капаць акопы. Праз нейкі час, калі яны былі ўжо напалавіну гатовыя, аказалася, што іх капалі не там, дзе трэба, бо з'явіўся батальённы і аблажыў усіх мацюкамі.

— Дзе «паленпак»? — раптам успомніў і зароў ротны. — Чаму не разгорнуты?

І, унутрана сціскаючыся ад цяжкай, каламутнай непрыязнасці да маёра, да бязглуздзіцы вучэнняў, да брызентавага меха за спіной, радавы Сяргей Каляда пацягнуўся распакоўваць «паленпак».

Многія любілі армію ці, інакш кажучы, мірыліся з ёй. Афіцэры, прапаршчыкі, нават некаторыя сяржанты тэрміновай службы. Знаходзіліся і такія. Толькі не ён. Гэтая гульня дарослых была яму незразумелая. Што ж, ён не ваяр. Ён будучы мастак, дызайнер, а не салдат. Кожнаму сваё. Хутчэй бы назад! Ён лічыў дні, што заставаліся да загада. Паліна. Гарачая хваля ўспамінаў накацілася на яго, і ён знерухомеў, прагна зацягваючыся цыгарэтай.

Па-ранейшаму не сціхаў халодны, куслівы вецер. Тут, на залесеным палігоне, ён працінаў шынель, халадзіў твар. На даляглядзе над лесам ужо збіралася цемра.

— Не курыць, маць вашу! — закрычаў паблізу ўзводны. — За кіламетр бачна!

Сяргей Каляда прыхінуў да ног аўтамат і выцягнуў з кішэні канверт. Не ад Паліны — размашысты почырк адразу кінуўся яму ў вочы. Пісьмо было ад Гадуна.

У слабым святле імкліва адыходзячага дня радавы Сяргей Каляда разгарнуў ліст і прачытаў наступнае:

«Стары! Пішу табе ад імя ўсіх хлопцаў з нашага пакоя. Служы, салага, бо мы сваё ўжо адслужылі і з гэтай нагоды вельмі спачуваем табе, але нічым дапамагчы не можам. У нас усё нармалёва. Рыхтуемся да сесіі, але на днях добра пабалдзелі — аж да гэтага часу рукі калоцяцца...»

Далей ішоў пералік выкладчыкаў, якіх Гадун лічыў небяспечнымі на час экзаменаў, якіх увогуле дурнаватымі, а якіх так сабе. Пасля гэтага пасажа ён зноў перайшоў да інтэрнацкіх спраў і на паўстаронкі распавядаў пра тое, як ім шанцуе апошнім часам з дзеўкамі, і жартаваў, што дзеўкі гарохам пасыпаліся замуж. «Дарэчы, — паведамляў ён, — твая акцёрка, ну Паліна, з якой ты, змей, апошнім разам, спадзяюся, не дарма займаў усю ноч цэлы пакой, — таксама туды ж. Выходзіць не за каго-небудзь, а за нашага выкладчыка Некрашэвіча, а ў яго, сам ведаеш, усяго хапае — ёсць і машына, і кватэра, і лецішча. Быццам ён ужо ёй і кінапробу дапамог зрабіць... Вяселле ў пятніцу, 18 кастрычніка...»

Радавы Сяргей Каляда дачытаў лісткі і прыпаліў цыгарэту ад цыгарэты.

Першыя зоркі слаба блішчэлі і пераліваліся ў небе. Поўня напалавіну выткнулася з-за лесу і павісла над далёкім цёмным даляглядам. Сяргей зірнуў на гадзіннік. Да прызначанай у пісьме даты было роўна два дні і яшчэ чатырнаццаць гадзін — усяго выходзіла шэсцьдзесят дзве.

Маёр Уразаў узнік за плячыма нячутна, як прывід.

— Чаму не выкананы загад? — зашыпеў ён. — Два нарады пасля вучэнняў! Паўтарыце!

— Ёсць два нарады.

— Каб праз пяць хвілін усё было гатова!

Радавы Сяргей Каляда моўчкі пачаў распакоўваць пухкі мех. Урэшце «паленпак», ці паходны ленінскі пакой, які ўвасабляў сабой усю ротную наглядную агітацыю, быў замацаваны. Ён нагадваў брызентавы прамакутнік пад такой жа павеццю два з паловай метры на паўтара, на якім месціліся партрэты членаў Палітбюро, а таксама вышэйшага каманднага саставу арміі, дзеячаў марксізму-ленінізму. Глядзелі са сваіх месцаў армейскі статут, матэрыялы апошняга пленума, падшыўка вайсковай акруговай газеты. Асобна размясцілася сям'я Ульянавых у рэпрадукцыях з чорна-белых фотаздымкаў. Ніжэй вісела скрыня для пісем і заўваг. Над усім месціўся невялікі бронзавы бюст Ільіча.

Сяргей Каляда завяршыў справу ўжо ў цемры. Ён сеў на зямлю спіной да сасны і доўга сядзеў так, а потым заціснуў аўтамат між каленяў і пачаў шукаць па кішэнях. Ён знайшоў і пералічыў некалькі баявых патронаў — рэштку таго, што засталося пасля стрэльбішчаў. Запаслівы, як кажуць, лепш за багатага. Сяргей выцягнуў ражок і высыпаў адтуль на зямлю халастыя — іх выдалі ім раней. Замест іх ён уставіў баявыя патроны і схаваў ражок у кішэню галіфэ. Кароткі дэсантны варыянт свайго «калашнікава» ён закруціў у плашчнакідку. Потым сцягнуў з сябе і кінуў пад ногі шынель, падсумкі, процівагаз, сапёрную рыдлёўку.

Забраўшы толькі скрутак са зброяй, ён рушыў прэч. Цемра ўжо ахінала ўсё навокал. У свежавыкапаных акопах тамсям курылі, хто ўжо спаў, скурчыўшыся, хто яшчэ толькі рыхтаваўся і назапашваў з гэтай нагоды пад бакі сасновы лапнік ды пажухлы быльнік, хто размаўляў напаўголаса.

Ён ужо дасягнуў лесу, але спыніўся, нейкі час пастаяў, прыслухоўваючыся, і раптам павярнуў назад.

Радавы Сяргей Каляда зноў мінуў распалажэнне роты, прайшоў каля напалову прыхаваных у зямлі бэтээраў і знайшоў знаёмую палянку, дзе, прымацаваны да соснаў, месціўся паходны ленінскі пакой. Ён выцягнуў з кішэні і чыркнуў запалку. Агеньчык лізнуў лісты з падшыўкай, перакінуўся на партрэты правадыроў і начальнікаў, набраў моцы. Агідлівыя твары на партрэтах курчыліся ў пачварных усмешках. Полымя ахапіла ўвесь брызентавы домік. «Паленпак» гарэў. Радавы Сяргей Каляда адступіў у цемру і заспяшаўся да прыкмечанай ім раней вузкай лясной дарогі. Лес адразу прыняў яго ў сябе, мякка і пяшчотна ахутаўшы цішынёй і спакоем...

Праз некалькі гадзін, пад раніцу, ён ужо ляжаў у пустым вагоне таварнага цягніка, які вёз яго на захад, да Менска. Паклаўшы скрутак са зброяй пад галаву, радавы Сяргей Каляда прыпальваў цыгарэту ад цыгарэты. Потым пачак скончыўся, і ён, нібы праваліўся ў небыццё, на кароткі час заснуў неспакойным цяжкім сном.

У гэтым напаўсне-напаўтрызненні Сяргей ішоў разам з Палінай па пустой дарозе пад гару. Ён быў чамусьці ў вайсковай форме і з «паленпакам» на спіне. Ісці яму было вельмі цяжка, ён задыхаўся, і ўсё больш адставаў ад дзяўчыны. Тая, не азіраючыся, лёгкай хадою ішла наперад. Урэшце ён увогуле застаўся на дарозе адзін. Нягледзячы на тое, што ён так спяшаўся і нават высільваўся, каб ісці хутчэй, яму было холадна, а ў твар дзьмуў усё той жа паўночна-ўсходні вецер.

## ДЖАЗ... З АДЦЕННЕМ СМУТКУ



**Чарговы міжнародны джаз-фестываль у літоўскім мястэчку Бірштанас па традыцыі прайшоў з удзелам музыкантаў з Беларусі. Дэбютаваў на ім квінтэт Ігара Сацэвіча, праграма якога, выкананая літаральна з колаў (калектыў прыехаў на месца за паўгадзіны да выступлення) была вельмі цёпла прынята слухачамі. Вынікам зрабілася запрашэнне квінтэта на фестываль у Каўнас. Выступіў у Бірштанасе беларускі піяніст Андрэй Пыталеў, сам факт запрашэння якога на другі запар фестываль сведчыць сам за сябе, тым больш што выступаць яму давялося ў кампаніі такіх аўтарытэтаў, як Тыну Найсаа і Даніл Крамер.**

**Незадоўга да пачатку фестывалю недарэчна пайшоў з жыцця ягоны галоўны натхняльнік і арганізатар Людас Шалцяніс. Вось чаму, магчыма, гэтым разам на фестывалі было не так шмат еўрапейскіх зорак (выключэнне — бельгійскі саксафаніст Себасцьян Бухгальц), у час вячэрніх канцэртаў публіка змяшчалася ў зале, а не займала, як раней, месцы на сцэне, а веснавое звычайна ў гэтыя дні надвор'е надзіва часта змянялася магутнымі снежнымі буранамі.**

**Яскравыя ўражанні зрабілі выступленні латвійскага квартэта Раймандa Раўбішкі, літоўцаў Вітаса Лабуціса, квартэта Скірмантаса Саснаўскаса і квінтэта Артураса Анусаўскаса.**

**Д. ПАДБЯРЭЗСКІ,**
**«Мэджык джэз эджэнсі»**

*На здымку: квінтэт Ігара Сацэвіча.*
*Фота А. ШВЯНЧОНІСА*

## ФІГАРА ПАДАЎСЯ Ў ІСПАНІЮ



**Ад сцэны — не адарвацца, быццам бачыш усе гэтыя рамантычныя ды смешныя падзеі ўпершыню. Слых — не спатоліць, быццам толькі-толькі адкрываеш для сябе гэтую ўзнёслую ды зямную музыку. «Севільскі цырульнік» Дж. Расіні ішоў на беларускай опернай сцэне ў які ўжо раз, а падаваўся — прэм'ерай.**

**Але ж то і была прэм'ера. Рыхтуючыся да турнэ па Іспаніі з некалькімі опернымі спектаклямі, трупа істотна паднавіла і пастаноўку «Севільскага». Мастак-дэбютант С. Гаўрыленка, захаваўшы сцэнаграфічны прынцып Л. Статланда, прыдумаў новы, «падарожны» варыянт афармлення. Новыя дэкарацыі абудзілі творчае натхненне рэжысёра М. Ізворска-Елізар'евай, якая прыдумала шэраг дасціпных дэталяў у мізансцэнах. Абнавіўся і акцёрскі склад. Маэстра А. Анісімаў, які дырыжыраваў операй Дж. Расіні ў святочны дзень — Міжнародны дзень тэатра, нездарма выйшаў перад спектаклем на авансцэну і прадставіў яго як прэм'еру, звярнуўшы ўвагу на праграмку, «спярэшчаную» прозвішчамі новых выканаўцаў. Так, у абноўленым спектаклі ўпершыню спявалі ды штукарылі Т. Варапай (Разіна, між іншым — дзяржэкзамен для выпускніцы Беларускай акадэміі музыкі перад строгай камісіяй!), С. Драбышэўскі (Альмавіва), А. Мельнікаў (Базіліё), У. Пятроў (Фігара); спрактыкаваныя майстры М. Майсеенка ды Н. Казлова дэбютавалі ў камічных ролях дона Бартала ды Берты.**

**А яшчэ «Севільскі цырульнік» у той вечар упершыню ішоў на мове арыгінала. І во дзіва: зала, у якой італьянцы былі ў відавочнай меншасці, усё разумела, жыва рэагавала на дасціпныя дыялогі герояў неўміручай камедыі Бамаршэ — Расіні.**

**Зведаўшы аншлаг у родным тэатры, мінскі Фігара на пачатку красавіка выправіўся да цёплага мора. Аж на паўтара месяца. У кампаніі «Мадам Батэрфляй» ды іншых оперных герояў...**

**С. ВЕТКА**

*На здымку: абноўлены «Севільскі цырульнік»*
*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

Музыка

# СЛУХАЧА ТРЭБА ЗАЦІКАВІЦЬ...

***Набліжаецца слаўнае 50-годдзе вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Рыхтуецца да гэтага юбілею і Ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Новая канцэртная праграма, якую нядаўна паказаў гледачу ансамбль, — дастойны падарунак вайскоўцам і цывільнай грамадскасці Мінска. Рэпертуар вызначаўся размаітасцю: ваенная тэматыка, беларуская народная песня, песні сучасных кампазітараў, творы класікі, розныя танцавальныя нумары і інш. Канцэрт прайшоў у добрым тэмпе, з уздымам, на высокім прафесійным узроўні.***

Пралог «Мы армія народа Беларусі» як бы ўвасабляе адзінства войска і народа, новы сэнс лозунга «Народ і армія — адзіныя». У пралогу глядач убачыў і новую форму нашых вайскоўцаў. Добра выступілі салісты, хор, аркестр і танцавальная група. Стварэнне пралога, несумненна, — творчая ўдача мастацкага кіраўніка ансамбля падпалкоўніка М. Сніткі, галоўнага балетмайстра М. Салко, рэжысёра Я. Паўловіча. Музыка — І. Лучанка.

У канцэртнай праграме прадстаўлены дыхтоўны склад спевакоў. Кожны з іх мае мноства вартасцяў і вызначаецца сваёй спявацкай манерай. Тэмпераментна, з натхненнем выканаў «Гранаду» А. Лара саліст А. Кузняцоў. Парадавалі выканаўцы беларускіх народных песень Г. Латышаў ды Л. Некрашэвіч. Г. Латышаў мае моцны лірычны тэнар, вызначаецца добрай вакальнай школай. Яго спеву ўласцівыя ўдумлівасць, пранікнёнасць. Добра адчувае стылістычныя асаблівасці беларускай народнай песні Л. Некрашэвіч. У кожным куплеце ён знаходзіць адпаведныя выяўленчыя адценні, напаўняючы выкананне новым драматычным зместам. Добрае ўражанне зрабіла выкананне Р. Каранеўскім балады «Дванаццаць разбойнікаў» (музыка народная, вершы М. Някрасава) і раманса «Вочы чорныя». Моцны тэмбравы голас, пачуццё стылю, оперная спявацкая «хватка», упэўненасць, — усе гэтыя якасці спрыяюць поспеху саліста. Каларытна прагучаў эстрадны твор «Дым» (музыка Д. Керна) у выкананні Л. Кошалева.

З вялікім натхненнем, тэмпераментна выканаў куплеты Тарэадора з оперы Ж. Бізэ «Кармэн» саліст Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі А. Ісаеў. Выкананне ім жа ў 2-м аддзяленні арыі містэра Ікс з аперэты І. Кальмана «Прынцэса цырка» зачаравала слухачоў лёгкасцю, прыгажосцю, артыстызмам, эмацыянальнасцю. Прафесійна выканаў сольную партыю ў хоры «Валенсія» (музыка Ж. Падзіла) саліст ансамбля А. Купчанка. Хораша прагучала сольная партыя ў духоўным хоры П. Часнакова «Ахвяра вячэрняя» ў выкананні У. Грашчанкі, які валодае моцным цэнтральным басам з добрым, гучным ніжнім рэгістрам.

Добрых слоў заслугоўвае хор (галоўны хормайстар Б. Кір'янаў, хормайстар Б. Гаплічнік). Нягледзячы на малы склад, хор, укамплектаваны моцнымі яркімі галасамі, добра справіўся са сваёй задачай, паказаўшы гнуткасць, сабранасць, дакладнасць рэагавання на заўвагі хормайстраў. Хору падуладныя як магутнае forte, так і найпяшчотнае piano. Відавочная здатнасць «пераўвасабляцца» ў залежнасці ад жанравых асаблівасцей твораў: параўнаць, напрыклад, велічнасць, глыбіню думкі ў хоры рабоў з оперы «Набука» Дж. Вердзі і «разгул страсцей» у рамансе «Вочы чорныя». Заслугоўвае ўхвалы выкананне хорам твораў заходнееўрапейскіх кампазітараў на італьянскай, нямецкай, французскай, іспанскай, англійскай і іншых мовах, што сведчыць пра рост прафесійнай культуры артыстаў. Хораша гучаць творы як з суправаджэннем, так і без суправаджэння аркестра. Між іншым, гэта адзіны на Беларусі прафесійны мужчынскі хор як творчая самастойная адзінка. На ім — вялікая адказнасць: знаёміць слухачоў з творамі для мужчынскага хору ўсіх жанраў, стыляў і эпох.

Адзначу таксама высокі прафесіяналізм аркестра (дырыжоры В. Сімагін, У. Цатураў). Тут грае таленавітая моладзь. Кожны музыкант дасканала валодае майстэрствам аркестравай ігры. Калектыў вызначаецца добрай тэхнікай, пачуццём фразіроўкі і ансамбля, узаемаразуменнем, уменнем іграць дакладна па руцэ дырыжора, адзінствам штрыхоў і нюансіроўкі і інш. Кіраўніцтва аркестра імкнецца ўлічваць дух часу, запатрабаванні слухача. І цяпер гэта не народны аркестр, як было прынята ва ўсіх падобных ансамблях, а хутчэй малы эстрадна-сімфанічны склад. Так, напрыклад, домры заменены струннымі смычковымі, уведзены электраінструменты, узмоцнена група медных, драўляных духавых і ўдарных інструментаў.






*Ігар ЛУЧАНОК і Ансамбль песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь.*

# ТАМ, ДЗЕ ЁСЦЬ КАБЕТЫ І МУЖЧЫНЫ...

Там і паздраслівасць (рэўнасць)! Прынамсі, гэтак услед за Жакам Рабэрам сцвярджае рэжысёр Аляксандр Карпаў-малодшы. Паводле аповесці пісьменніка ён прапанаваў мінскай публіцы 5 красавіка на малой сцэне Рускага тэатра Беларусі цалкам арыгінальны твор... Збольшага рэжысёрскія прыёмы (доўгая музычная экспазіцыя, падрабязнае пражыванне акцёрамі роляў, якое своеасабліва злучае тэатр перажывання і тэатр прадстаўлення, кажучы агульна і да т. п.) ды сцэнаграфія Яўгена Волкава падаюцца надта знаёмымі па спектаклі «На Залатым возеры» Э. Томпсана; цікава, аднак, як у адных і тых самых сценах-прыёмах узнікае непрадбачаная тэатральная рэальнасць. Яна, у сваю чаргу, ужо на пляцоўцы напрасткі залежыць ад чалавека, які ці то мадэлюе яе, ці то выпраўляе, а месцамі і ўтварае на нашых вачах — ад Пісьменніка, у ролі якога заняты Аляксандр Ткачонак. Ягоны персанаж і, адначасова, двайнік, уразіць праз акцёрскае ўвасабленне Віталя Быкава. Акцёры Ганна Маланкіна, Уладзімір Шэлестаў ды Андрэй Дудараў, перадусім адказваючы сваімі з'яўленнямі на звычайнае пытанне «Хто там?», якое зрабілася і назвай спектакля, будуць настойліва вяртаць залу да іншых пакутлівых пытанняў. Тых, што ўзнікаюць там, дзе ёсць кабеты і мужчыны. Тых, што не знікаюць, вымагаючы асаблівага асэнсавання, калі сярод іх знаходзіцца мастак. Хто там, у кожным з нас, прыдуманым або рэальным, — яшчэ і яшчэ раз перапытаюць персанажы спектакля «Хто там?», спадзеючыся або не спадзеючыся на адказ.

**Ж. Л.**



*На здымку: Аляксандр Ткачонак (Пісьменнік і Ён) і Віталь Быкаў (Пісьменнік, ягоны персанаж).*

*Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА*

# ЧЫТАННІ НАВАТ... ПАДЗЯЛІЛІ

***У Беларускай акадэміі музыкі адбыліся традыцыйныя ўжо, трэція навуковыя чытанні памяці Л. Мухарынскай.***

Ідэя іх штогадовага правядзення належыць вучням Лідзіі Савулаўны — вядомай беларускай музыказнаўцы. Як зазначыла ва ўступнай прамове заг. кафедры беларускай музыкі Т. Якіменка, кожны сакавік, калі наваколле абуджаецца да новага жыцця і руплівы гаспадар рыхтуецца да плённай працы на зямлі, Акадэмія, а менавіта кафедры, што з'яўляюцца яе навуковымі носьбітамі (кафедры тэорыі, гісторыі музыкі, кафедра беларускай музыкі і інш.), ладзіць гэтыя навуковыя чытанні, каб абудзіць творчую думку, паспрыяць далейшаму развіццю беларускай музычнай навукі ў розных яе галінах і напрамках.

Адметная рыса чытанняў — удзел у іх розных пакаленняў музыказнаўцаў, прадстаўнікоў розных школ і напрамкаў сучаснага музыказнаўства. Жадаючых выступіць з навуковымі паведамленнямі было так шмат, што арганізацыйнаму савету давялося зрабіць працу двухдзённай і падзяліць яе на дзве секцыі: этнамузыкалогіі і музыказнаўства. Даклад пра ўзаемадзеянне гэтых двух навуковых падыходаў зрабіла мастацтвазнаўца А. Гарахавік (БАМ), задаўшы тым самым «навуковы тон» чытанням. Сярод шматлікіх цікавых дакладаў, зробленых на абедзвюх секцыях, можна вылучыць даклад Т. Варфаламеевай (Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН)

Артыст такога аркестра — універсальны, бо абавязаны выконваць як класічныя творы, так і эстрадную музыку, ну, а ваенную тым больш. Варта вылучыць работу канцэртмайстра струннай групы В. Корзуна, габаіста, салдата тэрміновай службы А. Алексюка, трамбаніста С. Сцелькіна.

Добра паказалася ў канцэрце танцавальная група ансамбля (галоўны балетмайстар М. Салко). Тэхнічнае майстэрства, малады энтузіязм, высокі прафесіяналізм пастановак унеслі ў праграму разнастайнасць уражанняў, маляўнічасць. На высокім прафесійным узроўні былі выкананы «Траецкая кадрыля», «Казачы танец», «Паланез» (славуты, на музыку М. К. Агінскага), «Падэспань» і інш. Усе танцы разнастайныя па вобразным змесце, настрої. Тут і пранікнёны лірызм «Паланеза», і гумар «Траецкай кадрылі», і весялосць «Беларускай танцавальнай», і байцоўскі характар «Казачага танца», і ваенная выпраўка пралогу, і нязгасная вечная народная весялосць у «Лявонісе». Балет добра «ўпісваецца» і ў тыя нумары, дзе заняты хор і салісты, як бы дапаўняючы вобразную характарыстыку спявацкага выканання, напрыклад, у «Блакітным Дунаі», у рамансе «Вочы чорныя» і інш.

Немалаважна, што выканаўцы (салісты, хор) адчуваюць сябе на сцэне нязмушана-артыстычна, а іх мізансцэны арганічныя, апраўданыя зместам праграмы. У гэтым заслуга рэжысёра канцэрта Я. Паўловіча. Неабходна адзначыць і добрую работу мастакоў Ю. Піскуна, Н. Мельнікавай, А. Александровіча, Л. Булгакавай. Прынамсі, касцюмы танцавальнай групы зроблены з тонкім густам і майстэрствам.

Вялікае ўражанне зрабіў удзел у канцэрце вядомага нашага кампазітара І. Лучанка, які выступіў не толькі як аўтар цудоўных песень, але і як выканаўца партыі фартэпіяна. Выдатна прагучалі яго песні «Бярозка», «Паляна», «У бацькоўскім кутку» ў пранікнёным выкананні салістаў Л. Нікольскага, А. Корзун, Р. Апанасіка.

Аднак пальму першынства ў гэтым канцэрце неабходна аддаць мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору ансамбля М. Снітку. Нястомны працаўнік, ён аддаў шмат сіл і энергіі дзеля таго, каб арганізаваць і правесці праграму на высокім прафесійным узроўні. Дзеля справы яму даводзілася займацца не толькі музычнай, дырыжорскай, рэжысёрскай, але і вялікай арганізатарскай і гаспадарчай працай. Выдатная дырыжорская школа, адчуванне стылю, музычнасць, эрудыцыя... У М. Сніткі шмат станоўчых якасцяў. Але галоўнае — гэта імкненне быць сучасным музыкантам, імкненне ладзіць усю работу ансамбля з пазіцый і патрэб сённяшняга дня. Ён смела адыходзіць ад састарэлых формаў работы ў вырашэнні кадравых праблем, творчых задач, камплектавання груп аркестра, у падборы рэпертуару і г. д. Ён інтуітыўна адчувае, што сучаснаму гледачу мала толькі «слухаць музыку», трэба і «бачыць дзеянне». Таму такая пільная ўвага да руху, зрокавых вобразаў, сцэнічных кантрастаў.

Ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Беларусі рыхтуецца да адказнай канцэртнай паездкі за мяжу. Пажадаем жа гэтаму таленавітаму калектыву і яго мастацкаму кіраўніку М. Снітку паспяховых гастроляў і далейшых вялікіх творчых поспехаў!

**Аляксей КАГАДЗЕЕЎ,**
**народны артыст Беларусі**

---

«Каляндарная і сямейна-абрадавая песенная традыцыя беларусаў ва ўяўленнях яе носьбітаў (аксіялагічны аспект)», паведамленні студэнтак Акадэміі музыкі Т. Дарожкі «Зімовыя абходна-абрадавыя віншаванні крывіцкага арэалу» і Т. Бяркові «Яшчар» як песенна-гульнёвая дзея зімовага перыяду»; даклады мастацтвазнаўцы Н. Яканюк (Беларускі універсітэт культуры) «Асноўныя напрамкі і праблемы даследавання беларускай народна-інструментальнай культуры пісьмовай традыцыі», выкладчыка Гродзенскага музычнага вучылішча, аспіранта Акадэміі музыкі А. Саладухіна «Ф. Скарына як выразнік музычна-эстэтычных поглядаў свайго часу», мастацтвазнаўцы В. Дадзёмавай (Акадэмія музыкі) «Аб атрыбуцыі помнікаў музычнай культуры Беларусі» і інш. Працу секцыі этнамузыкалогіі завяршыў паказ новага фільма «Грай, скрыпка, грай», створанага вядомым даследчыкам беларускай музычнай культуры І. Назінай.

Новае і цікавае ў сёлетніх чытаннях — пашырэнне іх геаграфіі ў простым і пераносным сэнсе. З вялікай цікавасцю ўспрымалася паведамленне найбольш маладога ўдзельніка чытанняў дзесяцікласніка Музычнага ліцэя пры БАМ Д. Сляповіча «Песенна-абрадавы цыкл яўрэяў Беларусі, прымеркаваны да восеньскіх святаў», а таксама даклады аспіранта Маскоўскай кансерваторыі А. Сканаві «Музычная эстэтыка ў новым Кітаі: вяртанне класічных трактатаў», студэнтак Музычнай акадэміі фіна-ўгорскіх народаў (г. Петразаводск) адносна розных аспектаў музычнай культуры народа мары. Госці з Літоўскай акадэміі музыкі прысутнічалі пакуль толькі ў якасці «назіральнікаў». Будзем спадзявацца, што ідэя і высокі дух навуковых чытанняў памяці Л. Мухарынскай, традыцыю праўядзення якіх Беларуская акадэмія музыкі будзе падтрымліваць і далей, прыцягнуць новых і новых навукоўцаў і паслужаць тым самым на карысць нашай гуманітарнай навукі.

**Г. А.**

---

Віншуем!

# СВАБОДА ЯК ДУХОЎНЫ ІМПЕРАТЫЎ

## Уладзіміру КОНАНУ — 60



*«Філосаф павінен знаходзіцца ў апазіцыі да ўсякай улады»*
*(з інтэрв'ю У. Конана).*

У старажытнагрэчаскага філосафа Платона ёсць выслоўе, што ніхто болей, чым філосафы, не думае пра смерць. І ніхто не баіцца яе менш, чым яны. Напэўна, таму аблічча людзей філасофскага складу вельмі доўга «не хочуць» старэць: у гэтым пераконваешся, маючы стасункі з філосафамі не толькі па «натуры», але і па «прафесіі». Прычым ад вызначэння «філосаф» гэтыя людзі звычайна з іроніяй адмахваюцца...

Неяк, калі я толькі пачынаў працаваць у «ЛіМе», Уладзімір Міхайлавіч Конан прынёс у аддзел крытыкі сваю новую кніжку з аўтографам. Там значылася: «... Ваш супрацоўнік — Уладзімір Конан». Толькі цяпер разумею, што Уладзімір Міхайлавіч тады нікольі не жартаваў: дакладна гэтак жа ён мог бы вызначыцца і ў стасунках з часопісамі «Нёман», «Мастацтва», «Полымя», выдавецтвамі «Беларуская энцыклапедыя» і «Мастацкая літаратура»... Сёлета спаўняецца, апроч банальнага, і своеасаблівы творчы юбілей У. Конана: роўна 30 гадоў таму, акурат у сакавіцкім нумары часопіса «Весці Акадэміі навук БССР» за 1964 год, пабачыла свет адна з першых дысертацыйных публікацый маладога ды дужа сур'ёзнага беларускага эстэтыка («спецыяльнасць» жа якая — эстэтык!). У той час, калі сярод раўналеткаў У. Конана ў асаблівай пашане былі ваенныя вучылішчы і політэхнічныя інстытуты, вясковы хлапец з Наваградчыны скончыў перш гістарычны факультэт БДУ, а затым, папрацаваўшы колькі ў школе, паступіў у аспірантуру АН БССР, на спецыяльнасць «эстэтыка». (Пра перыпетыі таго паступлення Уладзімір Міхайлавіч падзяліўся ў газетным дыялогу ў «ЛіМе» 8.05.1992). Напэўна, сам лёс скіраваў яго на той «эстэтычны» шлях. Ды і дзіва што: шлях быў непрацярэблены, перад даследчыкам — tabula rasa беларускай эстэтыкі. Першыя крокі ў эстэтычным кірунку тады рабілі і М. Крукоўскі, і Э. Дарашэвіч, і С. Майхровіч, іншыя даследчыкі.

У. Конан узяўся даследаваць гісторыю эстэтычнай думкі ў Беларусі ў 20—30-я гады. Кандыдацкая дысертацыя па тэме «Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі ў 1917—1934 гг.» была абаронена ў 1964 годзе (таксама юбілей) у Інстытуце філасофіі АН БССР (навуковым кіраўніком дысертанта быў, дарэчы, сам акадэмік К. Атраховіч — Кандрат Крапіва). У 1968 годзе на аснове дысертацыі ў выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла першая манаграфія У. Конана з такою ж назвай. Як на мой погляд, і сёння тая першая кніжка У. Конана захоўвае сваю свежасць, дынамізм думкі; прынамсі, яна вылучаецца сярод пазнейшых яго прац, якія, здавалася, павінны быць «лепшымі» за першую работу. Ды справа тут у тым, што ўжо ў ёй выразна выявіўся той чарадзейны аўтарскі «магічны крышталь», які сарганізаваў тэкставую матэрыю ў адно цэлае, даў адчуць аўтарскае «Я», напружаны пульс думкі. Менавіта той «магічны крышталь» ужо ў тыя часы дазволіў аўтару ўбачыць развіццё беларускай эстэтычнай думкі панарамна, цэласна, без ідэалагічнай аднабаковасці. Напрыклад, разглядзецца, паміж іншага, эстэтычныя погляды К. Малевіча, Я. Барычэўскага, І. Замоціна, А. Вазнясенскага... — усіх тых, хто не вельмі шанаваўся афіцыйнай навукай і тады, і пазней, скрозь да 90-х гадоў. У. Конан сваю ацэнку даў.

Апроч таго, у першай кнізе дэталёва разгледжана літаратурна-крытычная і філасофская думка дзеячаў суполак «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», «Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў», газет «Савецкая Беларусь», «Звязда», «Дзянніца», часопісаў тагачасных. Ужо тады ў рэчышчы пошукаў У. Конана выявіліся важнейшыя для яго кірункі: «нашаніўская» пара, эстэтыка і творчасць Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, публіцыстыка і крытыка 20-х гадоў. Усе гэтыя кірункі праз гады будуць набываць новую якасць асэнсавання, а творчасць даследчыка — увенчвацца новымі творамі (кнігамі «Адам Бабарэка», Мн., 1976; укладаннем твораў Л. Гмырака, Мн., 1992; «Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка Максіма Багдановіча», Мн., 1991; нарысам «Антом Луцкевіч: філасофія і эстэтыка нацыянальнага Адраджэння», «Голас Радзімы», NN 10—14, 1994). Так, пяро У. Конана ніколі не галадала, і вызначэнне «творы» ў адносінах да яго тэкстаў зусім не метафара. Мне здаецца, ад першай кнігі У. Конан сцвердзіўся ў трох, дзіўным чынам спалучаных у адной асобе іпастасях: як філосаф у шырокім сэнсе слова, мысліцель; як архівіст, даследчык беларускіх перыядычных выданняў і кніжнай спадчыны XX стагоддзя; і як «журналіст» — у сэнсе «пішучы», актыўны аўтар друкаваных публікацый. Напэўна, ад спалучэння гэтых трох якасцей — і вартасць конанаўскага радка: строгая выверанасць паняццяў і тэрміналогіі, бездакорнасць фактало гіі, паслядоўнасць і аб'ёмнасць выкладу думкі. Артыкул — даследаванне, даследаванне — эсэ, эсэ — прыпавесць... Такія ўзаемапераходы жанраў уласцівы яго пяру.

Што да «філасофскасці», дык для беларускай гуманістыкі гэта якасць увогуле рэдкая, рэдкая і па сёння; што да архіўных пошукаў, дык У. Конана па сутнасці трэба называць гісторыкам беларускай журналістыкі і крытыкі: па яго дысертацыях і кнігах студэнты могуць вывучаць такія выданні, як «Минский листок» (1886—1902), «Северо-Западный край» (1902—1905), «Наша Доля» (1906), «Наша Ніва» (1906—1915, 1920), «Савецкая Беларусь» (1920—1933), «Звязда» (20-я гады), публіцыстыку і журналістыку Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча. І дзіўна, што ў курсе гісторыі беларускай журналістыкі ў БДУ (факультэт журналістыкі) працы У. Конана не сказаць каб каціраваліся — гэта пры браку адлаведных даследаванняў і неканцэптуальнасці сённяшніх лекцый...

У 70-я гады У. Конан пайшоў углыб гісторыі беларускай эстэтыкі: у эпоху Адраджэння, сярэднявечча, старабеларускага часу. Плёнам даследаванняў — «Нарысы гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі» (у сааўтарстве з Э. Дарашэвічам, на рускай мове, 1972), этапная для філосафа кніга «Ад Рэнесанса да класіцызму (Станаўленне эстэтычнай думкі Беларусі ў XVI—XVIII стст.)» (на рускай мове, 1978). Першае ў беларускай гуманістыцы даследаванне эстэтычных поглядаў Ф. Скарыны, С. Буднага, М. Гусоўскага, Л. Зізанія, М. Смартрыцкага, М. Сарбеўскага, С. Полацкага легла ў аснову абароненай у 1981 годзе ў Маскве, у Інстытуце філасофіі АН СССР доктарскай дысертацыі «Станаўленне эстэтычнай думкі Беларусі X ст. — 1917 г.)». Аўтарам дысертацыі ўпершыню зроблена навуковая перыядызацыя беларускай эстэтычнай думкі ад X стагоддзя да нашых дзён.

Але ўсё-такі, як мне здаецца, лёс наканаваў Уладзіміру Міхайлавічу іншае галоўнае выпрабаванне: навуковае станаўленне ў 60—80-х гадах было для яго, па сутнасці, падрыхтоўкай, прыступкай да іншага змагання — змагання сярэдзіны і другой паловы 1980-х гадоў, да высілку нашых дзён. І гэта, як мне бачыцца, ёсць галоўным выпрабаваннем увогуле для ўсяго пасляваеннага, «філалагічнага» пакалення беларускіх літаратараў і навукоўцаў, хто распачынаў наша чацвёртае Адраджэнне ў 60-я гады. Іменна намаганнямі гэтага пакалення беларускай інтэлігенцыі, чыю філасофскую галаву, кажучы вобразна, прадстаўляе У. Конан, у другой палове 80-х ажыццёўлена навуковая і факталагічная сістэматызацыя і фіксацыя здабыткаў беларускай культуры, навукі і мастацтва: выдадзены «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» (5 тамоў), «Гісторыя беларускага мастацтва» (6 тамоў), скончана выданне «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», падрыхтаваны энцыклапедычныя даведнікі «Янка Купала», «Францішак Скарына і яго час», выдадзена факсіміле «Бібліі» Скарыны, распачата падрыхтоўка «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»... А таксама — закладзены Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Беларускі народны фронт «Адраджэнне»...

У рэчышчы гэтай фундаментальнай работы высілкі У. Конана займаюць асаблівае месца. Па-першае, чыста аб'ёмна ён прысутнічае вельмі заўважна (яго тэксты, значыць) ва ўсіх пералічаных выданнях; у «ЭЛіМБЕЛе» дык увогуле яго пяру належыць ці не трэцяя частка матэрыялаў. Па-другое, гэткая — з неабходнасці — навукова-асветная журналістыка нікольі не «папулярная», наадварот, энцыклапедычныя артыкулы У. Конана выяўляюць паняцце, думку, з'яву ў найбольш сціслай, ёмістай, а праз тое — даходлівай форме. Праз «журналістыку энцыклапедый» У. Конан вырабіўся ў сапраўднага, класічнага публіцыста, палеміста і нават памфлетыста. З аднаго боку — кніга «Ля вытокаў самапазнання: Станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору» (1989), з другога — 15-20 ёмістых публіцыстычных публікацый у год (хто з маладых, борздкіх на пяро крытыкаў здольны да такой «ураджайнасці»?). А яшчэ — штогадовыя (да пяці) навуковыя канферэнцыі і сімпозіумы, «круглыя сталы» і анкеты ў «Нёмане», «Мастацтве», «ЛіМе». Прагледзеўшы гадавікі нашых часопісаў і «ЛіМа» за апошнія сем гадоў, можна пераканацца, што У. Конан — вядучы (і памерам, і якасцю) аўтар і «Мастацтва» (эстэтыка), і «Нёмана» («Гісторыя. Культура. Нацыя»), і «ЛіМа» (крытыка, падсумаванне дыскусій і анкет). І на старонках расійскай «Литературной газеты» У. Конан прадстаўляе беларускую думку годна, на сучасным еўрапейскім узроўні мыслення... Вось ён, сённяшні кон беларускага філосафа,— журналістыка.

І палітыка. Бо хіба гэта не наканаванне нашым лепшым розумам — рабіць журналістыку, публіцыстыку, асветніцтва, замест таго, каб займацца выключна сваёй справай, «горнімі сферамі»? Кажам пра брак нацыянальнай філасофіі і нацыянальных філосафаў, а самі хіба дазваляем філосафам заставацца самімі сабой: у палітыцы ж (так ці інакш) і У. Конан, і М. Крукоўскі, і А. Бембель, і І. Бабкоў, і М. Матрунчык, і С. Санька... Што да У. Конана, то гэта менавіта ён улетку 1989 года ў «ЛіМе» выступіў з «Дзевяццю тэзісамі» — «філасофскім абгрунтаваннем руху «Адраджэнне»; гэта ён, філосаф-эстэтык, быў у сціжме стваральнікаў самога Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». Гэта ён у жніўні 1990 года, палемізуючы ў «ЛіМе» са «студэнтам з Магілёва К. Каржэвічам», выступіў з праграмнай для адраджэнскага руху публікацыяй «Саўл, Саўл, чаму ты гоніш мяне?..» І сёння наш філосаф — актыўны ўдзельнік палемікі з тутэйшымі дбаўцамі процібеларускіх культуртрэгерскіх міфаў, аматарамі беззаконнай дэмакратыі, прыхільнікамі неабмежаванага рынку...

Але «філасофія» і эстэтыка ў яго тым часам ніколі не перапыняліся. Выдадзены кнігі пра творчасць Максіма Багдановіча, лёс і дзейнасць Францішка Скарыны («Боская і людская мудрасць», 1990), ролю і значэнне роднай мовы ў развіцці культуры («Святло для людзей», 1989; абедзве — у «Бібліятэцы «Голасу Радзімы»), пазначанае даследаванне маральна-эстэтычнай каштоўнасці народнай творчасці і фальклору «Ля вытокаў самапазнання...». У Скарынаўскім цэнтры, дзе Уладзімір Міхайлавіч ад пачатку ўзначальвае аддзел гісторыі і тэорыі культуры, пад яго кіраўніцтвам распачата тыпалагічнае даследаванне беларускай культуры, яе важнейшых складнікаў. І справы тут — метадалагічнай, тэхнічнай, практычнай — непачаты край. Чым і заняты сёння філосаф.

Так сталася ў яго жыцці, што Уладзімір Міхайлавіч рэалізаваўся як творчая асоба пераважна ў тэкстах — артыкулах, даследаваннях, манаграфіях. Можа, гэта якраз і блага, што не стаўся ён «бліскучым» лектарам-прамоўцам, універсітэцкім педагогам. Але тут, мабыць, віна найперш саміх універсітэтаў, што заўжды трымаліся сваёй крэатуры, па-другое, для нашых універсітэтаў сёння патрэбны дзесяткі і сотні Конанаў, каб змяніць іх «ауру» на лепшае... Але ў будучыню перадаецца галоўнае — тэксты, яны ж ствараюць і традыцыю. Трэба думаць, у рэчышчы гэтай традыцыі ляжыць і гіпатэтычнае стварэнне Беларускай акадэміі навук (ці Беларускай гуманітарнай акадэміі, як неяк выказаўся У. Конан). І гэта, падаецца, таксама — справа нашага «старэйшага» пакалення гуманітарыяў — нашых праўдзівых акадэмікаў У. Конана, А. Мальдзіса, М. Чарняўскага і іншых. Рабіць Беларускую Акадэмію, як і Беларускую Дзяржаву, належыць ім. Кампрамісы тут, як паказвае практыка, бясплённыя.

Ды каб тое сталася, каб акадэмікі ў нас зваліся акадэмікамі, правадыры — правадырамі (прэзідэнтамі), геніі і таленты — геніямі і талентамі, — усім нам, і «старэйшым», і «маладым», і «філосафам», і журналістам, і практыкам-палітыкам, — трэба шмат і ахвярна працаваць. Працаваць гэтак жа, як апошнія 30 год працуе Уладзімір Міхайлавіч Конан — наш шаноўны юбіляр і сябар, мысліцель з думкаю філосафа і сэрцам рамантыка. Сціплы, гжэчны і паэтычнай душы чалавек. Наш настаўнік.

Дык павучымся ж!

**Юрась ЗАЛОСКА**

**P. S.** Падаецца, даўно наспела пара выдаць збор твораў нашага філосафа. Нельга, каб гэтым займаліся нашчадкі праз гадоў 100 (як зараз сам У. Конан збірае і ўкладае творы «нашаніўцаў»). Калі з-за сціпласці гэтага не асмельваецца рабіць юбіляр, то паклапаціцца пра гэта павінны прадстаўнікі нашай выдавецкай сферы. Ужо сёння ці не ўсе кнігі У. Конана — бібліяграфічная рэдкасць (мізэрныя наклады). Іх, гэтыя кнігі, а таксама абедзве дысертацыі, шматлікія артыкулы, даследаванні і эсэ трэба сабраць і выдаць пад адною вокладкай. Такі збор сёння патрэбен Беларусі. Бо «працаваць» ён будзе і на сёння, і на заўтра, і назаўжды.

**Ю. З.**

## САКРЭТЫ ШЧАСЦЯ



Брэсцкі тэатр драмы прапанаваў гледачам прэм'еру: рэжысёр С. Палешчанкаў паставіў камедыю М. Мейо і М. Энекен «Манюка».

Шчасце не божы дар, а ўласнае дасягненне — у гэтым упэўнена Кэці, галоўная гераіня спектакля. Таму яна ўсімі сродкамі ахоўвае сямейны спакой, не грэбуе нават хлуснёю, якая раптам выкрываецца мужам. Сям'я распадаецца. А Кэці, каб вярнуць мужа, ізноў маніць...

У спектаклі заняты акцёры В. Міхайлаў, Т. Кірына, Т. Яварчук, Л. Міхайлава, А. Беражны, А. Ягорава, Т. Несцярчук, Д. Дойбан, Т. Багрэева, А. Грозеў, Г. Токараў і К. Перапяліца. Лаканічнае, але цікавае аздабленне сцэны прапанаваў В. Лесін.

З. Д.

*На здымку: К. Перапяліца (Гарысан), Т. Кірына (Кэці), Г. Токараў (Джымі), Т. Яварчук (Мэйдэх).*

*Фота Л. ВАЙТКОЎСКАГА*

## РЫБКА Ў ЦЫРКУ... ЛЯЛЕК І ДЗЯЦЕЙ

Падобна, Берасцэйскі абласны тэатр лялек цяпер як ніколі пільна цікавяць самыя неверагодныя лялечныя магчымасці: праз гэтую цікавасць і з'явіўся спектакль «Баніфацый і залатая рыбка». Вызначаючы адметнасць жанру свайго п'есы як «імправізацыю», яе аўтар і пастаноўшчык Сяргей Палешчанкаў разам з акцёрамі ды дзецьмі спрабуюць імправізаваць цыркавое прадстаўленне. Гэтаму спрыяюць і вялізныя лялькі-маскі (накшталт дыснеймендаўскіх) Дырэктара цырка, Кандуктара, Бабулі, Умбу-Юмбу, Пірата. Шэраг адметных вобразаў ствараюць Іван Герасевіч ды Юры Цесля. А цыркавога адмыслоўца-фокусніка Баніфацыя іграюць нераменкі Тамара Тэвасян з Русланай Сакаловай. Вядома, дзе цыркавая дзея, там і музыка. Яе да спектакля разам з песнямі на вершы Ігара Сідарука напісаў Анатоль Багданаў.

І. Х.

## ВОБРАЗ СТАРОГА МІНСКА

Гэта выстава не адбылася б, калі б у Нацыянальны мастацкі музей не завітала мастачка Марына Пашкоўская (Л. І. Міронава) з даўно выпеставанай ідэяй — аднавіць воблік Мінска, яшчэ не кранутага разбуральным каўшом экскаватара. Яна ж дапамагла падабраць экспазіцыю, дзе сама Пашкоўская, Герус, Дучыц, Малкін, Ран, Астаповіч, Тычына, многія іншыя падзабытыя за апошнім часам майстры.

У малым пакойчыку музея — малюнкі, акварэлі, замалёўкі. Нязвыклая дробнасць работ без адзінага цэнтра экспазіцыі.

Але насцярога хутка пераходзіць у захапленне, калі пазнаеш улюбёна выпісаныя завулкі, пабудовы, помнікі, ад якіх вее тым прыцягальным каларытам местачковай утульнасці, што захаваўся сёння як найярчэй у старой Вільні. Вобраз, такі знаёмы старэйшым! Нездарма ж даваенныя эмігранты прызнаюць сёння за свой у Мінску хіба што Верхні горад альбо Траецкае прадмесце. Для маладзейшых такі горад прыходзіць праз «талокі» ў Траецкім, мітынгі падчас будаўніцтва другой чаргі метро ды вось такія і падобныя занатоўкі мастакоў.

Прыемна, што ўся гэта экспазіцыя можа ў бліжэйшы час стаць пастаяннай.

Н. Ш.

Віншуем!

# ВІДНАЯ ГАРА

## Яўгену ЛЕЦКУ — 50

***20 красавіка спаўняецца 50 гадоў вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу, празаіку, а таксама актыўнаму сейбіту на ніве нацыянальнага Адраджэння Яўгену Лецку. Віншуем яго з поўднем веку! Доўгіх год жыцця, вам, дарагі Яўген Рыгоравіч, новых поспехаў у творчасці і ў грамадскай дзейнасці!***



Прадстаўляючы чытачу першую кнігу прозы Яўгена Лецкі — аповесць «Па цаліку», звычайна скупы на пахвалу Алесь Адамовіч пісаў:

«Голас яго адметны добраю моваю, адчуваннем нацыянальных псіхалагічных рыс, жаданнем і гатоўнасцю гаварыць пра сапраўды важнае — чым жыве час, народ жыве».

Перачытваючы нядаўна гэтую аповесць, я дзівіўся ўменню масціта крытыка ў адным сказе, дакладна і ёміста, сфармуляваць сутнасць мастацкага твора, падкрэсліць яго моцныя бакі, і адначасна радаваўся за аўтара, бо на кожнай старонцы чуў жывое дыханне жывых людзей з усімі іхнімі клопатамі, ціхімі радасцямі і балючымі ўспамінамі. Бадай, кожны, пра каго расказвае пісьменнік, ідзе па сваім жыццёвым цаліку, са сваёю выпакутаванаю праўдаю, з уласным разуменнем дабра і зла. Што ж, усе мы, каму выпала нарадзіцца пад сонцам, маем права на выбар паводле сваіх перакананняў. Але толькі не забывайма, што ўсё роўна, як бы нам часам ні хацелася б, белае застаецца белым, а чорнае чорным. Аповесці Яўгена Лецкі «Па цаліку», а таксама «Дарога ў два канцы», што з'явілася ў друку трошкі пазней, найперш вылучаюцца тым, што ў іх паказана непераможнае імкненне душы чалавечай да праўды і хараства, да таго, што называецца людскасцю. Падобныя прыклады як ніколі патрэбны нам цяпер, калі ў грамадстве паднялася шалёная хваля ўсёдазволенасці і беспакаранасці, жорсткага цынізму да ўсяго самага святога.

Што мы маем рабіць, каб захаваць нашу культуру, нашы спрадвечныя звычаі і традыцыі, а найперш родную мову, каб выстаяць перад пачварнымі вывертамі чужых і сваіх гандляроў, гатовых дзеля нажывы запаскудзіць усё на свеце? Канечне, не пакладаючы рук працаваць. Кожны на сваім месцы, адчуваючы локаць сябра, але не штурхаючыся локцямі, наадварот, спрыяючы адзін аднаму.

Яўген Лецка якраз адзін з тых, хто ніколі не падладжваўся пад модныя павевы ці папулярныя імёны; як сапраўдны руплівы сейбіт, дбаючы пра сённяшні дзень, ён не забываўся пра спадчыну і глядзеў у будучыню. У 70-ыя і 80-ыя гады актыўна працаваў у літаратуразнаўстве і крытыцы, напісаў глыбокія, дасведчаныя нарысы пра творчасць Вячаслава Адамчыка, Васіля Быкава, сапраўдным адкрыццём з'явіліся вернутыя ім з «кэдэбэшскага» небыцця і падрыхтаваныя да друку многія невядомыя творы такіх цудоўных майстроў, як Лукаш Калюга і Андрэй Мрый.

І разам з тым Лецка заўсёды застаецца ўважлівым і прыхільным чытачом самых маладых літаратараў, што толькі-толькі заявілі пра сябе ў друку. Нагадаю, што з яго прадмовамі пабачылі свет першыя кнігі прозы Уладзіміра Арлова, Івана Клімянкова, некалькі анталогій апавяданняў, выдадзеных у рэспубліканскіх выдавецтвах і за межамі Беларусі. Дый сам я вельмі ўдзячны лёсу, што звёў нас на жыццёвых дарогах, бо і першае маё апавяданне, і першая кніга таксама пабачылі свет з прыязным Яўгенавым словам. Як шмат яно значыць на пачатку творчага шляху!

Чалавек няўрымслівы і неспакойны, з абвостраным пачуццём на ўсё новае ў жыцці, Лецка апошнія некалькі гадоў увесь быў у грамадскай рабоце. Менавіта ён стаўся адным з натхняльнікаў і стваральнікаў Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Цяжка ўявіць, колькі пайшло сіл і энергіі, каб задуманае спраўдзілася, каб правесці першы з'езд гэтай вельмі патрэбнай усім нам арганізацыі, што прымусіла многіх нашых суайчыннікаў задумацца — хто яны, якога роду-племені, дзе карані іх, гонар і слава?..

Дарагі дружа Яўген! Мне пашчасціла неаднойчы быць у тваім Пабрэззі, што на любай тваім і маім сэрцу Навагарадчыне, гасцяваць у тваёй бацькоўскай старой хаце. А хіба можна забыць рэчку Валоўку, на берагах якой прайшло тваё дзяцінства і юнацтва?! Магу засведчыць — ты праўду сказаў: «Можа, і былі для каго лепшыя рэчкі, а сваю — ні на што ў свеце не прамяняў бы. Да Нёмана таксама прывык — і шырокі, і глыбокі ён, і вялікая рыба ў ім водзіцца, але ж усё роўна не тое!.. Вада ў ім нейкая як падагрэтая ў печы. Іншая рэч Пакручанка (чытай - Валоўка). Вада ў ёй заўсёды сцюдзёная, аж зубы шчымяць, калі ў рот набярэш. Дзіва няма: не з нейкіх балот выцякае яна, а б'е з крыніц. Па ўсім дне, як свярдзёлкам точаць, пульсуюць калянымі фантанчыкамі. Вада ж, як сляза, празрыстая...»

Дзякуючы Валоўцы і табе, дарагі дружа, я ўпершыню ўбачыў на сваёй далоні стронгу, падобную на казачную залатую рыбку, і паверыў, што захаваліся яшчэ на нашай сто разоў абрабаванай зямлі цуды і дзівосы. А потым мы пайшлі з табой на самую вялікую ў ваколіцы гару. Называецца ж яна — Відная гара.

Заплюшчу вочы і бачу, як воблака прымасцілася там адпачыць. І міжволі мне падумалася ў гэтыя дні, калі пішу пра цябе слова: паўвека ў чалавечым жыцці — таксама Відная гара. З яе, мабыць, добра азірнуцца на тое, што ўжо было і зроблена, а яшчэ зазірнуць у будучыню, каб зрабіць свой наробак больш важкім, без усялякай драбязы і лішняга. То ўжо твой клопат. Мне ж застаецца хіба дадаць (каб ты, мой сябра, пачуваў сябе ўпэўнена на Віднай гары), што ёсць у цябе і чытачы, і сябры, і ўсе мы зычым здароўя і плёну табе яшчэ на пяцьдзесят гадоў наперад!

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**

Паэзія

Таіса МЕЛЬЧАНКА



### СЯБРЫНА

Прызнаваць нашу мову-матулю
    няверцы не хочуць.
І яна, як жабрачка,
    з працягнутай ходзіць рукой.
Кожны злыдзень у твар ёй і кпіць,
    і нахабна рагоча:
Прэч з дарогі, мужычка,
    і з торбай ля хаты не стой.

Твая сумная песня ужо
    не разжаліць нікога! —
І ляцяць ёй у твар тыя словы,
    нібы камяні.
— Што з нявер'ем глядзіш?
    Убірайся, калека-нябога!
І сцяжыну надзеі на могілкі
    лепш павярні!

Не слязіну адчаю убачылі іхнія вочы.
А пагардлівых зрэнак
    нязгасна-пякучы агонь.
— Саступіце са сцежкі!
    Сваёю зямелькай пакрочу! —
Ціха мова сказала,
    і крыж затуліла далонь.

Сабяру я ў сябрыну ўсіх тых,
    хто не выракся веры.
Найраднейшая песня
    у сто галасоў загучыць.
Шчэ пачуеце вы, што жыву я!
    Што я не памерла!
Каб адступнікаў нават
    матчыным словам лячыць!

### МАТЧЫНА СКАРБОНКА

Слоў народных залацінкі
Мне дарыла маці.
Ў час вяселляў і радзін
Кут займалі ў хаце.

То журыліся пра долю —
Сэрца прыцiскалі.
А наплакаўшыся ўволю,
З богам адпускалі.

Увабраўшыся у сілу,
Вылятаюць з хаты.
Косяць з Янкам канюшыну
І дурманяць мятай.

Пад вярбой з магутнай кронай
Успыхваюць заранкай.
Бачу: ціхая Алёна
Шчэ цалуе Янку.

Песні з матчынай скарбонкі
Берагу для свята.
Будзе, будзе голас звонкі,
Бо ж душа напята.

### СВЯТАЯ НЯДЗЕЛЬКА

Кожненькі гук нашай крэўнае мовы
Я улюбёна збірала
З бабчыных казак тых вечаровых,
З песень, што вёска пяяла.

Як немаўлятак, пад сэрцам насіла,
Ціха прарочыла долю.
Новая песня агаласіла
Край беларускі прывольны.

Вось і настала нядзелька святая
І для цябе, мой народзе.
Слухай! Францішкава дудка спявае,
Кінуўшы выклік стагоддзям.

### ГОСЦЯ

Зайшла ў твой дом
    няхай не гаспадыняй,
Затое госцяй самай дарагой.
Баюся: раптам возьмеш і абдымеш,
Апаліш і любоўю, і тугой.

Зусім не чую, што гаворыш, мілы.
Сяджу, як свечка, — слова не скажы.
О Госпадзі! Пазыч, пазыч мне сілы!
Каханне распінаюць на крыжы.

Шчыруе як ніколі гаспадыня:
— Частуйцеся! Частуйцеся яшчэ! —
Туманіцца пагляд твой сіні-сіні
І мне душу самотаю пячэ.

●

Сустрэч нашых горкіх абрады
Ты ў сэрцы яшчэ беражэш.
Тваім жа званкам я не рада —
Пытаешся ўсё: «Як жывеш?»

А мой гумарок у ліміце,
Баюся — адчуеш тугу.
Жыццём пачынаю хваліцца,
Хоць жыць без цябе не магу.

І сэрца прызнацца не хоча,
Каб зноў не наклікаць бяду.
Ды ў думках к табе я штоночы
Крадком на сустрэчу іду.

Экалогія

# АТРУТА НА ДАРОГАХ

***Тое, што вуліцы нашых гарадоў забруджаны атрутнымі выкідамі аўтатранспарту, прамысловых прадпрыемстваў, ведае, мабыць, кожны. Але мала хто ведае, што вельмі забруджана паветра і ўздоўж нашых дарог, хоць, здаецца, як тут той атруце ўтрымацца — вакол шыр і прастора. Вельмі памылковая думка. Гэты артыкул — спроба скіраваць увагу на надзённую экалагічную праблему.***

Песімісты сцвярджаюць, што праз дзесяць-пятнаццаць гадоў у навакольным прыродным асяроддзі пачнуцца незваротныя негатыўныя змены. Аптымісты адсоўваюць гэты рубеж на сто і болей гадоў. Але і тыя, і другія такія змены лічаць непазбежнымі.

На чым жа грунтуюцца іх прадбачанні? На тым, што дэградацыя прыроды, часам у страшэнных маштабах, адбываецца паўсюдна, і гэты працэс, які ўжо доўжыцца як не з пачатку стагоддзя, набірае сілу. Тэхналагічны выбух у спалучэнні са здзіўляючай экалагічнай непісьменнасцю людзей ужо прынёс столькі шкоды прыродзе, што цяпер, нават калі ўявіць, што чалавек спыніцца ў гэтай сваёй дзейнасці, многае ўжо вярнуць будзе проста немагчыма.

Так, без тэхнічнага прагрэсу, вядома, у чалавецтва няма будучыні. Гэта зразумела кожнаму. Але я — за прынцып разумнай дастатковасці, за тое, каб не прыносіць у ахвяру тэхнічнаму малоху прыроду.

Экалагічнае невуцтва, трэба сказаць, уласціва ўсяму нашаму грамадству. Бадай, на кожным прадпрыемстве перш-наперш думаюць пра вытворчыя паказчыкі. Што ж тычыцца таго, якая пры гэтым будзе нанесена шкода навакольнаму асяроддзю, многіх нашых дырэктараў хвалюе менш за ўсё. Экалагічнае становішча, якое сёння склалася ў прамысловым комплексе, у сельскагаспадарчай вытворчасці, у буйных ды і сярэдніх гарадах рэспублікі, на нашых дарогах — набліжаецца да катастрафічнага.

Вось ужо некалькі апошніх год кожны раз, выязджаючы ў камандзіроўку, з болем зазначаю, як змяніўся ландшафт паабапал нашых дарог. Некалі ўздоўж іх суцэльнай сцяной стаялі елкі, клёны, ліпы, рознае кустоўе, цяпер усё гэта нібы хто выкасіў гіганцкай касой. На многія кіламетры прыдарожныя палосы на ўсю шырыню ўзараны і засеяны. Летам перад вачыма тых, хто праязджае па шашы, па абодва бакі яе распасціраюцца пасевы бульбы, гародніны, збожжа. І, відаць, уладальнікам усяго гэтага няўцям, што пасевы атручаны выкіднымі газамі транспарту.

Але пад уздзеяннем атрутных выкідаў тут, аказваецца, не толькі пасевы, размешчаныя на прыдарожных палосах, а і на бліжэйшых палетках, якія раней былі пад аховай расліннасці, што расла паабапал дарог, і якая надзейна затрымлівала смурод.

Наступ на ахоўныя палосы ўздоўж дарог пачаўся ў свой час з размахам, шырокім фронтам. Пачалося гэта на Гомельшчыне, потым перакінулася на Віцебшчыну, Міншчыну і іншыя вобласці рэспублікі. Было відавочна, што гэтая акцыя распачата не па волі ДЭУ (дарожна-эксплуатацыйных упраўленняў), бо і сіл у іх для гэтай справы малавата, ды і не ўзялі б на сябе такую адказнасць. Асноўная ж задача ДЭУ — трымаць дарогі ў спраўным стане.

Мне ўяўляецца такі сцэнарый падзей. Нейкаму высокаму начальству, якое праязджала па шашы, раптам прыйшла ў галаву «геніяльная» думка ўвесці ў сельскагаспадарчы зварот і прыдарожныя палосы, шырыня якіх звычайна складае да 30 метраў, і збіраць з іх ураджаі. Гэта ж, круцілася ў начальніцкай галаве, калі сабраць усё разам, не адна тысяча гектараў урадлівай зямлі збярэцца! І пайшло, і паехала. У ход была пушчана магутная тэхніка, якая хутка спляжыла ўсю расліннасць паабапал дарог.

Ствараецца такое ўражанне, што ў каторым калгасе, дзе спрадвек не бераглі зямлю, па-варварску ставіліся да яе, захапіўшы прыдарожныя палосы, палічылі, што гэтак хутка паправяць свае справы.

Спляжылі зялёныя прыдарожныя палосы, засеялі іх, а потым пачало пакрысе выяўляцца, што ўжываць атрыманую тут прадукцыю трэба з асцярогай. Гэта гадоў 40—50 назад, калі машын было малавата, дарожныя майстры садзілі-сеялі каля дарог лапікі бульбы, жыта, касілі сена. А сёння, калі над шашой стаіць пастаянны чад, спажываць гэты ўраджай — толькі шкодзіць здароўю. Праўда, апошнім часам на гэта пачалі звяртаць увагу, у прэсе з'явіліся папярэджанні медыкаў, эколагаў. Але дзе-кольвечы яшчэ і цяпер калгасы і саўгасы працягваюць лічыць дзяржаўную прыдарожную паласу сваёй зямлёй, аруць і сеюць тут па-ранейшаму. Пракуратура ў некаторых раёнах, праўда, пачала расследаванне па гэтых фактах, але хутка ўперлася ў глухую сцяну: ні канкрэтных законаў, ні правілаў няма. Ды і як тут некага прыцягнеш да адказнасці, калі парушальнікі адразу пачынаюць спасылацца на зацверджаныя Саўмінам яшчэ ў 1986 годзе «Правілы карыстання аўтадарогамі і дарожнымі збудаваннямі ў Беларускай ССР», дзе ў пункце 12 напісана, што «зямельныя ўчасткі ў паласе адводу аўтадарог могуць прадстаўляцца ў часовае карыстанне калгасам і саўгасам, іншым грамадскім і дзяржаўным прадпрыемствам, установам і арганізацыям для сельскагаспадарчых мэт; асобным катэгорыям рабочых дарожных органаў — пад службовыя зямельныя надзелы...» І далей: «іншым грамадзянам пад калектыўныя агароды і г.д.» Аб дакуменце гэтым можна сказаць толькі тое, што ён сведчыць аб дрымучай экалагічнай непісьменнасці яго складальнікаў.

Наогул, распараджаюцца ў нас дарожнымі ўчасткамі, каму не лянота. Вось некалькі прыкладаў. Уздоўж аўтадарог Арол—Віцебск, Мінск—Віцебск, Ленінград—Адэса за пяць апошніх гадоў знішчана 18745 пагонных метраў прыдарожных палос. З іх значную частку знеслі бульдозерамі меліяратары па рашэнні аблвыканкама. Калгас «За Радзіму» Воранаўскага раёна каля шашы Вільнюс—Гродна спаліў 150 метраў зялёных насаджэнняў. Злачынства адбылося быццам ненаўмысна — калгаснікі палілі салому на ўчастку, які блізка ляжыць ля дарогі, у выніку чаго загарэліся елачкі. Каля дарогі Стоўбцы—Івацэвічы—Кобрын у сакавіку 1990 года згарэла 3110 пагонных метраў зялёных насаджэнняў прыдарожнай паласы. Прычына тая ж: калгаснікі калгаса «Дружба» палілі каля пасадак леташнюю салому, і агонь перакінуўся на елачкі. У многіх падобных выпадках вінаватыя наогул не адшуканы, хоць складаюцца адпаведныя акты, пасылаюцца ў міліцыю. Уздоўж аўтадарогі Масква—Івацэвічы каля Рагачова нехта спаліў 150 метраў зялёных пасадак, але зламыснікі, як засведчыла міліцыя, не ўстаноўлены. Каля аўтадарогі Мінск—Слуцк—Мікашэвічы згарэла 570 пагонных метраў елак, але і тут вінаватыя не знойдзены. Каля аўтамагістралі Масква—Мінск—Брэст ля Стоўбцаў таксама згарэлі зялёныя пасадкі (каля 860 метраў) і г.д., і да т.п.

Адным словам, усюды, дзе праходзяць дарогі, паабапал іх знішчаюцца зялёныя насаджэнні. Тое, што ў многіх краінах даўно зразумелі, у нас зразумець ніяк не жадаюць. Мне аднойчы давялося гутарыць з адным нашым турыстам, які пабываў у Англіі. Дзелячыся ўражаннямі, ён распавёў і пра такі факт. Паабапал тамтэйшых дарог на ўзбочынах паўсюдна расце трава, якую не косяць і не даглядаюць. Мясцовыя жыхары растлумачылі — пустазелле затрымлівае значную колькасць шкодных выкідаў аўтатранспарту.

Каб чытач меў уяўленне аб характары гэтых выкідаў, адзначым, што калі ў літасферы ўтрымліваецца ў сярэднім свінцу 10 мг/кг, дык у паласе ўздоўж шашы ў 5—15 разоў больш. Што датычыць сельгаскультур, якія вырошчваюцца паблізу дарог, дык свінцу тут накопліваецца: у зерні пшаніцы і ячменю — у 5—8 разоў, у клубнях бульбы — у 26, у капусце і моркве — у 4—7 разоў больш за дапушчальны ўзровень. Усё гэта не павінна здзіўляць — з выхлапной трубы аўтамашыны ў паветра выдаляюцца чадны газ, злучэнні свінцу, бензапірэн, аксіды азоту, злучэнні серы, альдэгіды, сажа — усяго каля 200 розных хімічных злучэнняў, з якіх не атрутных толькі 5. Увесь гэты «кактэйль» выклікае ў чалавека самыя цяжкія захворванні, у тым ліку і анкалагічныя.

І яшчэ такі факт для роздуму: пераважная большасць развітых краін не выкарыстоўвае этыліраваны бензін, які ўтрымлівае свінец. У нас жа пра гэта можна толькі марыць.

Дзе ж выйсце? Вядома, у ахове прыроды цяжка абысціся без адміністрацыйных мер. Штрафы, судовыя разгляды — дзейсныя сродкі, але, на маю думку, аднымі гэтымі метадамі не вырашыць да канца праблемы. Не вырашыць без экалагічнага выхавання насельніцтва, узняцця яго агульнай культуры. Са школьнай парты трэба даводзіць дзецям, што лес, поле, рэчка, паветра — наша агульнае багацце, якое служыць усім і кожнаму паасобку. І таму ўсё гэта трэба любіць і ахоўваць, як сваё ўласнае.

**Алесь ДЗЯТЛАЎ**

Ліст з Масквы

# У КРАІНЕ СВЕТЛАЙ...

*У краіне светлай, дзе я ўміраю...*
*М. Багдановіч*

Жалобная вестка ў Маскву прыйшла з апазненнем. Прачытваю некралогі ў газетах і сцінаецца сэрца ад болю. У вызвольным рушэнні беларускім ратнікам мужным паменела. Ніва родная асірацела на незаменнага сейбіта-рупліўца. Адышоў змагар-працаўнік, падкошаны хваробаю раптоўнай. Што звычайна насцігае ледзь не кожнага з ахвярнікаў, чыё жыццё — самаспаленне дзеля Ідэі. Хто сутнасць свайго разумення лёсаў Бацькаўшчыны, ахвярнасць народу, дабру паспалітаму шчодра дзеліць з другімі — каб большала свядомых беларусаў, уваскрасала, квітнела Беларушчына на зямлі Скарыны, Каліноўскага, Багушэвіча, Купалы, Коласа... Дзяржава Беларусь каб дужэла-харашэла Свабодаю, Незалежнасцю. Высакародная ідэя, вымагальная — патрабуе кожнага дарэшты і, зазвычай, дачасна выпраўляе да Вечнасці. Як дачасна адышлі Уладзімір Караткевіч, Сцяпан Александровіч, Міхась Ткачоў — калі ўспомніць бліжэйшых Тваіх аднамысьнікаў.

Трымціць журботліва свяцельца памінальнае свечачкі ў Храме Блажэннага Узнясення ля Нікіцкіх варот... Пэўна, і ў гэтых ваколіцах, як і ў іншых мясцінах сталіцы расейскай не раз чуліся крокі Твае — маскоўскага студэнта з Беларусі; засяроджваліся ўдумліва вочы беларускага даследчыка над кніжнымі фаліянтамі, пажоўклымі старонкамі маскоўскіх бібліятэк і архіваў, трапятала сэрца над Слуцкімі паясамі ў музейных запасніках. Сюды за парадай да настаўніка-летапісца нашага Мікалая Улашчыка неаднойчы сягала Твая неспакойная дапытлівая душа, нястомная ў шуканні беларускай адвечнай Праўды.

Да Твайго неспакою святога лёсіла й мне далучыцца. Слова прыязнае, шчырасць няробленую, падмогу братэрскую на супольным шляху спазнаць шчасціла. Твае кнігі-дарункі, лісты з Маладзечна, Мінска, нашы спатканні, імя дзіўнае — КАХАНОЎСКІ — цяпельцам гаючым са мной назаўсёды. Запаветам нязгасным да скону.

Над труною Тваёй мне не выпала выказаць жалю. Я прыйду да Цябе, на магілку. Завітаю на вуліцу Генадзя Каханоўскага ў Тваім горадзе светлай надзеі. На пагорку, каля Ракуцёўшчыны, запынюся, здарожаны, у садку Багдановіча. Каб пад клёнам Табою пасаджаным прашаптаць малітоўна:

Жыве Беларусь і з каленяў устаюць Беларусы...

**Аляксей КАЎКА**

*г. Масква.*

Пошта

# АЛЕЯ СЛАВЫ І ПАКУТ

Спякотным летнім ранкам ехаў я чарговым маршрутным аўтобусам з Івацэвіч у Косаў. Пасажыраў няшмат — звычайны будзённы дзень, гаманлівай перадсвяточнай публікі амаль не было, вакол людзі пажылога ўзросту. Па ўсталяванай падарожнай звычцы большасць з іх пільна ўглядалася ў знаёмыя краявіды, што раскінуты паабапал пакручастай лясной рачулкі Грыўды. Сваёй зменлівасцю і марэнным каларытам яны прывабліваюць кожнага, хто па волі лёсу апынуўся ў гэтых прыгожых, хоць і не дужа бойкіх мясцінах самай паўночнай часткі беларускага Палесся.

Для мяне ж кожны пейзажны «кадр», кожны кіламетр гэтых даўніх юнацкіх шляхоў набываў асаблівы сэнс, абуджаў шчымлівыя ўспаміны. Вось направа ад асфальтаванай дарогі відзён невялікі драўляны масток праз Грыўду, якраз той, дзе восенню 1943 года амаль усё камандаванне атрада «Савецкая Беларусь» нечакана нарвалася на засаду нямецкіх летуноў з Івацэвіцкага гарнізона (тут у былым маёнтку Юндзіла тэрмінова перавучвалі іх на танкістаў). Нейкім цудам праскочылі партызаны праз агнявы заслон спараных нямецкіх кулямётаў — параненым застаўся толькі адзін гняды прыгажун камандзіра атрада Віктара Ягоршына (Уласава).

Пасля невялікага пад'ёму імкліва спускаемся ў разложыстую пойму Грыўды, да якой прытулілася невялікая вёсачка Аляксейкі. На гарызонце замаячылі сенькавіцкія хутары, дзе звычайна адбываліся мае сустрэчы са старшым палітруком Паўлам Мельнікавым (Дзегцяровым). Менавіта тут я паварочваў з Косаўскай дарогі бліжэй да Грыўды — там мяне чакала загадзя прыгатаваная лодка з вяслом, а на гары ў хутарской хаце дыміўся комін — умоўны знак, што мяне чакаюць хлопцы...

Раптам амаль інстынктыўна адчуваю, што ў гэтым зафіксаваным на ўсё жыццё пейзажы чагосьці не хапае. Адразу нават не зразумеў чаго — дарога тут значна падвышана і выпраўлена. Аднак паступова дайшло, а калі дайшло — востра секанула па сэрцы: няма тых вынёслых стогадовых соснаў, што стаялі паўсцяж амаль усяго Косаўскага тракту. Яшчэ ў даваенныя гады, мы, вучні мясцовай сярэдняй школы, называлі гэты тракт іранічна «дарогай хвалы і пакут», не ведаючы яшчэ, наколькі блізкімі былі да ісціны. І толькі пазней (большасць з нас былі іншагароднімі — са Слоніма, Бярозы, Баранавіч, Лодзі, Варшавы), ад мясцовых людзей даведаліся, што тыя шматлікія маёлікавыя абразкі Маці Божай, уманціраваныя ў векавую кару прыдарожных старадрэвін, звязаны з падзеямі 1863 г. на Беларусі, а дакладней — з гісторыяй гераічнага змагання аднаго з апошніх атрадаў К. Каліноўскага, атрада Францішка Юндзіла — паўстанцкага кіраўніка Слонімскага павета. З баямі прабіваўся ён праз Жыровіцы ў Ружанскую пушчу, але тут пад самым Косавам быў акружаны карнікамі Мураўёва, амаль ушчэнт разбіты, а параненыя паўстанцы перавешаны на прыдарожных соснах... Ніхто не здаўся ў палон — загінулі ўсе!!!

Ну, чым не беларускія Тэрмапілы — з той толькі розніцай, што там пад Афінамі цаной жыцця трохсот спартанцаў была здабыта свабода для ўсёй Элады, тут жа пад Косавам засталася толькі сціплая чалавечая памяць аб мужнасці лясных змагароў...

Час паказаў, наколькі патрэбныя нашчадкам такія сціплыя і сардэчныя помнікі, наколькі яны ўзвышаюць душу чалавека, наколькі ўзмацняюць яго веру ў перамогу дабра і справядлівасці.

На жаль, гэтая унікальная, адзіная ў свеце Алея чалавечай удзячнасці, што ўзнікла на Косаўскім тракце больш ста гадоў таму назад, не захавалася. У пасляваенныя гады па ініцыятыве мясцовых, а па сутнасці прышлых «ідэолагаў» векавыя сосны разам з уманціраванымі маёлікавымі абразкамі (іх колькасць адпавядала колькасці павешаных) былі поўнасцю знішчаны.

Ганебную місію выконвала спецыяльная брыгада мясцовых пільшчыкаў пад камандай нейкага Свіргуна з гарсавета, хоць старшыня райвыканкама Шугаеў катэгарычна выступаў супроць такога дзікунства. Перамагла воля аднадумцаў Мураўёва-вешальніка, якія лічылі лепшым сродкам умацавання дружбы народаў — поўнае знішчэнне іх гістарычнай памяці, іх гераічных традыцый.

Прайшло многа гадоў, а велічны вобраз жывой, вечназялёнай Алеі так і стаіць перад вачыма, з нямым дакорам як быццам пытае: а чаму не зберaглі, чаму не баранілі?..

**Мікола ГРЫНЧЫК**

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ПСІХААНАЛІЗ З НАГОДЫ ЧАРНОБЫЛЯ

26 красавіка а 20-й гадзіне ў Палацы піянераў, што на вул. Кірава, — прэм'ера. Імпрэзу, прысвечаную ахвярам чарнобыльскай трагедыі, цяжка назваць тэатральным спектаклем. Аўтары — а гэта акцёр Валеры Шушкевіч, кампазітар Алег Залётнеў, рэжысёр Лявон Андрэйчыкаў ды мастак Валеры Рачкоўскі — вызначаюць сваю працу як «вопыт музычна-пластычнага псіхааналізу».

Крах добрапрыстойнага мастака, спроба самагубства, пошук выйсця з безвыходнага стану, — такі, можна сказаць, сюжэт, «напаўненне» якога даюць радкі Свяшчэннага пісання ды фрэйдаўскае «Я і Яно». Стваральнікі назвалі свой «вопыт экалагічнага ўздзеяння на душу» вядомымі біблейскімі радкамі: «Вузкі шлях, або Адзін з малых гэтых». Музыка і акцёр. Выразная пластыка. Мінімум слоў. І яшчэ раз — музыка...

Фундатар прэм'еры фірма «Аншлаг» ды творчая група спадзяюцца на ўвагу і разуменне гледачоў.

Н. К.

## «ІВАН ДЫ МАР'Я» НА ВАКАЦЫЯХ



Мінуў тыдзень школьных вакацый, да якога Рускі тэатр Беларусі прымеркаваў з дапамогаю спонсараў — навукова-вытворчага аб'яднання «Осмій», фірмы «Беларама», прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага будавання Беларусі — тыдзень дзіцячай творчасці «Чароўная палітра»: другі паверх тэатра занялі творы, што сышлі з гэтых самых чароўных дзіцячых палітраў. 24 сакавіка на тэатральнай сцэне сваю праграму з песень, скокаў ды тэатралізаваных гульняў паказалі Дзіцячы цэнтр эстэтычнага выхавання ды Інтэрцэнтр «Бэлла». Сцэнарый і рэжысура калятэатральнага свята належалі Аксане Зубцовай, студэнтцы-дыпломніцы Беларускага універсітэта культуры, якой дапамагала фірма Атракцыёнаў, выставак і канцэртных праграм.

Спектаклі на працягу вакацыйнага тыдня частка гледачоў (напрыклад, навучэнцы і выхаванцы школ-інтэрнатаў NN 7, 8, 11) наведала бясплатна. А сам спектакль «Іван ды Мар'я» У. Гольдфельда займеў новых выканаўцаў: у ролі Мар'і выступіла Таццяна Баўкалава, а Дар'і — Марына Лабанава. Падноўленая дэкарацыя, дзякаваць Богу, не псавала ўражання сваім выглядам, а рэжысёр спектакля Міхаіл Кавальчык, які выпадкова апынуўся ў горадзе і ў тэатры якраз у першы дзень вакацый, уздыхнуў: «Дзіўна глядзець на свой спектакль васьмігадовай даўніны...» Дзеці, аднак, зрабіліся чыннымі саўдзельнікамі прыгод Івана (Андрэй Душачкін) ды Багдана (Віктар Гудзіновіч), абураліся ўголас паводзінамі Ваяводы (Вячаслаў Галуза) ды намагаліся папярэдзіць традыцыйна станоўчых герояў пра небяспеку з боку Ідалішча Паганага (Вячаслаў Саладзілаў), адкрыта незалюбілі Мар'іных сясцёр (Алена Пастрэвіч і Таццяна Гаркуша) і паспачувалі Княжычу (Валеры Шушкевіч)... Усё ішло як мае быць, хіба толькі не бацькі вялі дзетак са спектакляў, а педагогі-выхавацелі...

Аддамо належнае далікатнасці тэатра ды добрым сэрцам школьнікаў Маскоўскага і Фрунзенскага раёнаў Мінска. Яны дапамаглі арганізаваць выстаўку, а дзіцяча-юнацкі цэнтр Маскоўскага раёна шчыра дарыў гледачам мяккія цацкі: дзеці зрабілі падарункі раўналеткам ды... акцёрам, занятым у спектаклі «Іван ды Мар'я». Зайчыкаў, коцікаў ды шчанюкоў яны дружна панеслі са сцэны ў апошні дзень вакацый...



*На здымку: сцэна са спектакля «Іван ды Мар'я»; Таццяна Байкалава (Мар'я).*
*Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА*

# РЭАЛІІ І СПАДЗЯВАННІ

***Апошнія тры гады да спраў на рэстаўрацыйнай ніве краіны праяўляецца асаблівая ўвага не толькі з боку ўласна спецыялістаў-рэстаўратараў, але і прадстаўнікоў сумежных навукова-даследчых галін ды асобных кіраўнічых структур. І рэч не толькі ў тым, што 17 студзеня 1991 года была прынята пастанова N 17 Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб Галоўным упраўленні па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь», якая ўнесла змены ў арганізацыю дзейнасці, скіраванай на захаванне нацыянальнай спадчыны. За гэты перыяд у дзяржаве адбылося нямала перамен. Усе яны непазбежна адбіваюцца на ходзе рэстаўрацыйнай справы, уvяргаючы гэту спецыфічную сферу жыцця дэкларатыўна незалежнай краіны ў колькіразовыя ператрэсіны.***

***Знаходзяцца людзі, якія не без адмысловай зацікаўленасці сочаць: выжыве ў такіх няпростых умовах рэстаўрацыйная галіна ці іх пастулаты адносна недзеяздольнасці створанай тры гады таму назад структуры ў сферы рэстаўрацыі маюць непазбежна быць спраўджанымі? Але ж няпростае і ў многіх выпадках неадназначнае становішча сацыяльна-эканамічнай, а зараз і палітычнай сітуацый у Беларусі, як можа падацца ні парадаксальным, дазваляе спадзявацца на пэўныя якасныя зрухі ў справе захавання нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны.***

***Менавіта пра спадзяванні і дазволім сабе павесці гаворку, не забываючыся на рэаліі сённяшняга дня, як і на клопаты апошніх трох гадоў функцыянавання рэстаўрацыйнай галіны Беларусі.***

Зазначым адразу: Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь ці, скарочана, Галоўрэстаўрацыя з'яўляецца не адзіным ведамствам у Беларусі, якое выконвае функцыі дзяржаўнага заказчыка на правядзенне рамонтна-рэстаўрацыйных работ гісторыка-культурных каштоўнасцей. Некалькі такіх аб'ектаў фінансуецца Міністэрствам культуры Беларусі праз падведамасныя яму ўстановы. Выключнае значэнне маюць работы, якія праводзяцца ў Мірскім замку, на сядзібе Ваньковічаў у Менску, у гальшанскім кляштары францішканцаў. Тут непасрэдным заказчыкам на іх выкананне з'яўляецца Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Гэта адна з першых, бадай, у шэрагу падобных устаноў краіны, якая смела ўзяла на сябе дастаткова спецыфічны і няпросты клопат не толькі пра немалую колькасць рухомых гісторыка-культурных каштоўнасцей — абразоў, карцін, мастацкіх вырабаў з дрэва, металу, керамікі ды іншых да іх падобных, назапашаных ва ўласных фондах, але — і пра надзвычай унікальныя старасвецкія збудаванні, дзе маюць быць разгорнуты музейныя экспазіцыі.

Аднак жа асноўны аб'ём сродкаў дзяржаўнага бюджэту на патрэбы захавання гісторыка-культурнай спадчыны выдаткоўваецца спецыялізаваным органам дзяржаўнага кіравання ў галіне рэстаўрацыі, якім з'яўляецца Галоўрэстаўрацыя. У 1994 годзе Галоўнае ўпраўленне выступае заказчыкам па аб'ектах рэстаўрацыі на суму 12,3 млрд. рублёў. Міністэрствам культуры на гэтыя патрэбы плануецца выдаткаваць каля 1,4 млрд. рублёў.

Стварэнне тры гады таму назад асобнага ведамства ў структуры дзяржаўнай улады, як адзначалася ў пісьме Міністэрства культуры Беларусі N 01-08/3-228 ад 21 снежня 1990 года на адрас Савета Міністраў Рэспублікі, было абумоўлена неабходнасцю арганізацыі ў краіне дзеяздольнай сістэмы кіравання ў галіне рэстаўрацыі і аховы гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама — патрэбай канцэнтрацыі бюджэтных асігнаванняў і матэрыяльных рэсурсаў пры правядзенні рамонтна-рэстаўрацыйных работ на помніках. Надзвычай важным было прыцягненне ўвагі да праблем захавання каштоўнасцей мясцовых Саветаў, прадпрыемстваў і арганізацый, якія б маглі ўкладаць сродкі і матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы ў кансервацыю і рэстаўрацыю старасвецкіх аб'ектаў.

Намеры былі добрыя, ды толькі за апошнія тры гады на рэстаўрацыйнай ніве не адбылося кардынальных змен да лепшага. Пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага становішча краіны не абмінула і гэту сферу жыцця. Аднак некаторыя станоўчыя зрухі адзначыць можна. Найперш варта сказаць, што за перыяд дзейнасці Галоўрэстаўрацыі ўсе выдаткаваныя з дзяржбюджэту сродкі былі накіраваны менавіта на рэстаўрацыю рознахарактарных гісторыка-культурных каштоўнасцей. У сярэднім каля 40% іх выдаткоўваецца на работы па аб'ектах старасветчыны, дзе маюць размясціцца ўстановы культуры. Немалую частку складаюць выдаткі на рэстаўрацыю збудаванняў культавага характару, адметных будынкаў і комплексаў у гістарычнай забудове гарадоў. У 1993 годзе каля 11% сродкаў было выкарыстана для правядзення праектна-пошукавых работ, 25% — скарыстана на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы рэстаўрацыйных прадпрыемстваў. За кошт дзяржбюджэту будавалася жыллё для работнікаў рэстаўрацыйных арганізацый у Гродне, Брэсце, Пінску, Пружанах, Віцебску, Мінску. У цэлым летась на аб'ектах рэстаўрацыі асвоена каля 3 млн. рублёў дзяржбюджэтных асігнаванняў. Станоўча паўплывала на функцыянаванне рэстаўрацыйнай галіны краіны вылучэнне сродкаў на яе патрэбы ў структуры дзяржаўнага бюджэту ў асобны раздзел, што дазваляе дакладна акрэсліць запланаваныя сродкі і наладзіць дзейсны кантроль за іх выкарыстаннем.

Варта, дарэчы, зазначыць, што Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», прынятым у лістападзе 1992 года, дастаткова падрабязна рэгламентаваны захады суб'ектаў гаспадарання розных форм уласнасці, грамадскіх структур, прыватных асоб, скіраваных на зберажэнне назапашаных за стагоддзі існавання Беларусі нацыянальных каштоўнасцей. У прыватнасці, у артыкуле 93 адзначана, што «мерапрыемствы па зберажэнні каштоўнасцей, якія прадугледжаны ў ахоўных абавязацельствах, ажыццяўляюцца за кошт сродкаў іх уласнікаў ці карыстальнікаў». Іншая справа, што работа па заключэнні ахоўных абавязацельстваў пакуль праводзіцца недастаткова інтэнсіўна. Гэта не дазваляе дзяржаўным органам аховы і рэстаўрацыі запатрабаваць ад уласнікаў або карыстальнікаў каштоўнасцей выканання абавязкаў у поўным аб'ёме.

Адгалоскі

# МЫ ЦЕРПІМ АД НЯСТАЧЫ, А НЕ АД ПРАЗМЕРНАСЦІ ТАЛЕРАНТНАСЦІ

***Пачатая на старонках «ЛіМа» і некаторых іншых выданняў спрэчка пра ТАЛЕРАНТНАСЦЬ прыцягвае ўвагу. Выказваюцца розныя меркаванні, памнажаюцца пункты гледжання, праблема набывае грамадскую цікавасць. Натуральна, што ўзнікае жаданне ўключыцца ў гаворку.***

Як вядома, у навуцы існуе правіла: перш чым спрачацца, неабходна вызначыць паняцце спрэчкі. Што належыць разумець пад **талерантнасцю**? На думку Анатоля Астапенкі, талерантнасць гэта, галоўным чынам, «рыса тэмпераменту». Гаварыць пра яе выпадае, перш за ўсё, толькі з псіхалагічнага боку ці этычнага. Хутчэй за ўсё яна характарыстыка пэўнага чалавека, а ў больш агульным сэнсе характарыстыка ступені развіцця грамадства. Чым больш высокі ўзровень цывілізаванасці грамадства — тым больш уласцівая яму цярпімасць да іншадумцаў («Яшчэ пра талерантнасць». «ЛіМ», 25.III.1994).

У гэтым азначэнні, на мой погляд, перастаўлены месцамі акцэнты. Талерантнасць перш за ўсё ментальнасць грамадства, вытворчае ад яго культуры — эканамічнай, сацыяльнай, палітычнай, рэлігійнай, прававой, філасофскай, мастацкай, побытавай, а потым ужо псіхалагічная, этычная і наогул духоўная рыса асобнага чалавека. Абагульняючы і некалькі агрубляючы, можна сказаць: якое грамадства, такі і чалавек, хоць не выключаецца і «адваротная сувязь».

Талерантнасць — гэта цярпімыя адносіны да «іншага» — іншай думкі, іншага мастацкага густу, іншых рэлігійных, палітычных, ідэалагічных, навуковых перакананняў, іншага спосабу жыцця, іншых звычаяў і г.д. Талерантнасць ёсць разуменне і канстатацыя множнасці, шматаблічнасці жыцця, якое не можа і не павінна быць аднастайным і адназначным. Талерантнасць — паказчык ступені духоўнай свабоды грамадства, узроўню яго цывілізаванасці, як правільна падкрэслівае А.Астапенка, жыццяздольнасці, у рэшце рэшт, паколькі неталерантнае, нецярпімае грамадства, якое раздзіраецца ўнутранымі канфліктамі, змяшчае ў сабе перадумову распаду і самазнішчэння. Без талерантнасці, цярпімасці немагчыма нармальнае, дэмакратычнае грамадзянскае жыццё, суіснаванне розных сацыяльных, нацыянальных і рэлігійных супольнасцей, людзей з неаднолькавымі палітычнымі поглядамі, ідэалагічнымі і партыйнымі прыхільнасцямі. Хачу асабліва падкрэсліць, што грамадзянская згода як адна з падстаў нашага жыцця (што, дарэчы, зафіксавана ў новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), якая грунтуецца на прынцыпе талерантнасці, не мае нічога агульнага са згодніцтвам, палітычным апартунізмам. Талерантнасць — адно з буйнейшых культурных дасягненняў і яго вартасць у гісторыі культуры, цывілізацыі не менш значная, чым вартасць такіх духоўных сацыяльна-этычных прынцыпаў сапраўднага чалавечага быцця, як свабода, справядлівасць, роўнасць і інш.

Выклікае пярэчанне тая акалічнасць, што некаторыя аўтары талерантнасць — гэту характэрную і традыцыйную рысу ментальнасці беларуса — атаясамліваюць з пакорлівасцю лёсу, канфармізмам, беспрынцыповасцю, згодніцтвам, якія быццам бы ўласцівы большасці народа Беларусі. Робіцца нават выснова, што «беларуская нацыя ў асобах большасці сваіх прадстаўнікоў стала, па сутнасці, непаўнавартаснай». Тлумачыцца гэта «больш як 70-гадовым панаваннем камуністычнай ідэалогіі, у выніку чаго з беларусаў выхаваліся рабы, манкурты, і якім быццам у насмешку прывесілі ярлык «талерантнага народа». І ў іншым месцы: «Пад прыкрыццём выдуманай талерантнасці хаваецца нікчэмнасць і душэўная пустэча, жабрацкая псіхалогія і палітычны сервілізм» («ЛіМ», 25.III.1994).

Я разумею аўтара. Каб паставіць праблему менталітэту сучаснага беларуса, прыцягнуць да яе ўвагу, трэба завастрыць пытанне. Але ж не да такой ступені, каб абвінавачваць ва ўсіх гэтых грахах большасць народа. Так, у пэўнай ступені гэтыя папрокі ў адрас сучаснага стану грамадскай свядомасці справядлівыя, але пры чым тут талерантнасць, якая не мае нічога агульнага са згодніцкай псіхалогіяй, нацыянальным манкуртызмам, гістарычнай недасведчанасцю, палітычным невуцтвам і да т.п.? Наадварот, усе гэтыя адмоўныя рысы сучаснага менталітэту пэўнай часткі беларускага грамадства, у тым ліку і згодніцкая псіхалогія, фарміраваліся, «выхоўваліся» ў атмасферы неталерантнасці, нецярпімасці — рэвалюцыйнага тэрору, масавых рэпрэсій, знішчэння беларускай інтэлігенцыі, страшэннай вайны, ідэалагічнага прэсінгу застойных гадоў, аб-

Неабходна звярнуць увагу на актывізацыю выканання і іншых палажэнняў Закона аб ахове спадчыны. Даўно час упарадкаваць выдачу сертыфікатаў на права работы з гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі, зацвярджэнне навуковых кіраўнікоў праектаў, фарміраванне Дзяржаўнага спіска каштоўнасцей і наданне ім катэгорый аховы, дамагчыся планамернасці і мэтанакіраванасці ў рабоце Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны.

Недапрацоўкі ў справе выканання асобных артыкулаў закона часам прыводзіць да абсурдных выпадкаў. У прыватнасці, для правядзення работ па Барысаглебскай (Каложскай) царкве XII ст. у Гродне прызначаны **часовы** навуковы кіраўнік. Быццам за такую важную справу, як рэстаўрацыя, тым больш звязаную з унікальнай Каложай, можна адказваць часова.

Або іншы прыклад. У гістарычнай зоне Брэста, што знаходзіцца пад аховай дзяржавы, архітэктарам (які, дарэчы, не мае сертыфікату на права работ з такімі аб'ектамі) запраектаваны знос старасвецкай забудовы і ўзвядзенне на яе месцы сучасных будынкаў рознахарактарнага прызначэння. На распрацоўку праектнай прапановы затрачаны немалыя сродкі. І гэта можа стаць важкім аргументам, што не раз і бывала раней, на карысць неабходнасці працягваць работы.

Яшчэ ў 1990 годзе ў адметнейшым прыродным кутку Беларусі — у вёсцы Альшэва на Мядзельшчыне — знішчаны цікавы сядзібны будынак ХІХ стагоддзя. Рэшткі яго мураваных прыбудоў інтэнсіўна разбіраюцца мясцовымі жыхарамі. Але гэта нікольві не турбуе ні органы мясцовай улады, ні дзяржаўныя органы аховы спадчыны.

Не дапускаць парушэнняў заканадаўства павінна Дзяржінспекцыя па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, што і падкрэслівалася на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях захавання нацыянальных каштоўнасцей, праведзенай Беларускім таварыствам аховы помнікаў і Навукова-метадычным цэнтрам рэстаўрацыі 24—25 студзеня 1994 года. Многія яе ўдзельнікі гаварылі аб наданні інспектарам па ахове спадчыны на месцах статуса паўнамоцных прадстаўнікоў ДзІнАС, што дало б ім юрыдычныя правы ўздзейнічаць на парушальнікаў у адпаведнасці з патрабаваннямі закона.

Але і ў дадзенай сітуацыі Галоўрэстаўрацыя імкнецца, зыходзячы і са сваіх паўнамоцтваў, актывізаваць работу па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны. Істотныя змены ў дзейнасць рэстаўрацыйнай галіны краіны, мяркуецца, будуць унесены з прыняццем Дзяржаўнай праграмы рэстаўрацыі, распрацоўку якой па заказу Галоўнага ўпраўлення завяршае Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр рэстаўрацыі. У папярэднія гады падрыхтоўка планаў праектных і рамонтна-рэстаўрацыйных работ праводзілася на падставе заявак адпаведных структур мясцовых органаў улады або ўстаноў. Аднак такі механізм іх фарміравання далёка не заўсёды быў эфектыўным. У аснову праекта Дзяржаўнай праграмы пакладзена канцэпцыя, якая дазваляе выкарыстоўваць дакумент як механізм кіравання галіной рэстаўрацыі і прымаць рашэнні па аператыўнай карэкціроўцы яе ў адпаведнасці са зменамі эканамічнай абстаноўкі. У рамках праграмы распрацоўваюцца методыкі, якія дазволяць забяспечыць эфектыўнае ўкладанне бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў у развіццё тэрыторый гарадоў і іншых мясцовасцей з гістарычнай забудовай.

Значная частка гістарычных аб'ектаў мае надзвычай высокую ступень каштоўнасці і з'яўляецца набыткам усяго народа. Асноўны клопат па іх захаванні павінен легчы на плечы дзяржавы, што і мае прадугледзець праграма рэстаўрацыі. Адначасова, плануючы работу на любым з іх, неабходна мець звесткі пра яе карыстальнікаў, катэгорыю каштоўнасці, стан захаванасці, даступнасць для транспартных сродкаў, наяўнасць дакументацыі і матэрыяльнай базы па яе ўзнаўленні, аб'ёмы затратаў для выканання работ.

Прыгадаем, што ў адпаведнасці з Законам аб ахове спадчыны асноўныя фінансавыя выдаткі па зберажэнні нацыянальных каштоўнасцей усё ж павінны несці іх уласнікі або карыстальнікі. Разам з дзейнасцю структур, якія займаюцца пытаннямі зберажэння помнікаў даўніны, як цэнтральнага, так, можа, і ў большай ступені, рэгіянальных вялікае значэнне ў вырашэнні іх лёсу мае мясцовая ўлада. У апошнія гады Віцебскі, Брэсцкі, Гродзенскі, Магілёўскі аблвыканкамы матэрыяльнай і маральнай падтрымкай істотна спрыяюць станаўленню рэстаўрацыйнай галіны. Менавіта дзякуючы непасрэднаму ўдзелу ўлад і грамадскіх структур Менска, Полацка, Гродна, Пінска, Маладзечна актывізаваліся рэстаўрацыйныя справы ў гэтых гарадах.

Дзейнасць Галоўрэстаўрацыі не абмяжоўваецца толькі выкананнем зацверджанай гадавой праграмы. У шэрагу выпадкаў даводзіцца ўносіць карэктывы ў рэалізацыю праграмы, што найчасцей звязана з уздзеяннем на помнікі гаспадарчай дзейнасці чалавека, зменамі гідрагеалагічнага рэжыму на прылеглай тэрыторыі.

Падобныя фактары, у прыватнасці, сталі прычынай пагаршэння стану полацкага Сафійскага сабора. Сітуацыя была разгледжана ў канцы лета 1993 года на пасяджэнні Камісіі ВС Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Фінансаванне работ па вызначэнні прычын аварыйнага стану помніка было вырашана правесці за кошт сродкаў Галоўрэстаўрацыі, Міністэрства культуры і Віцебскага аблвыканкама. У выніку ж Галоўнаму ўпраўленню давялося, аператыўна пераразмеркаваўшы бюджэтныя асігнаванні, пакрыць каля 92% неабходных выдаткаў, што склала 7,1% ад аб'ёму фінансавання гадавой праграмы. Менавіта дзякуючы дзейнасці Галоўрэстаўрацыі была знойдзена магчымасць аператыўна адшукаць сродкі на рэстаўрацыю унікальных абразоў з фондаў Веткаўскага музея, на выкананне навукова-даследчых і рэстаўрацыйных работ жывапісу менскага касцёла Сымона і Алены.

Нельга, разам з тым, спадзявацца, што дзейнасць па зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны будзе і надалей забяспечвацца сродкамі дзяржаўнага бюджэту, якіх і зараз не хапае. Увагі рэстаўратараў вымагаюць некалькі тысяч абразоў, карцін, старасвецкіх будынкаў і архітэктурных комплексаў, незлічоная колькасць вырабаў з дрэва, косці, скуры, металаў, якія захоўваюцца ў музеях. Без прыцягнення пазабюджэтных асігнаванняў не абысціся. З гэтай мэтай Галоўрэстаўрацыяй у 1991 годзе было прапанавана правесці акцыяніраванне раёнаў гістарычнай забудовы. У выніку ўзніклі акцыянерныя таварыствы ў Менску і Брэсце. Падобную дзейнасць прапануецца разгарнуць у Віцебску і Пінску.

Нявыкарыстанымі пакуль застаюцца магчымасці па актывізацыі рэстаўрацыйных работ, якімі валодае сфера турызму. Карысным можа аказацца вопыт стварэння Нацыянальнага запаведніка ў Нясвіжы. Асобныя гістарычныя збудаванні, напрыклад, палац Пуслоўскіх і фальварак Марачоўшчына каля Косава або Крэўскі замак, якія ўяўляюць гістарычную і культурную вартасць для розных народаў, магчыма ўзнавіць з прыцягненнем айчынных і замежных рэстаўратараў.

Зноў і зноў даводзіцца гаварыць, што захаванне нацыянальнай спадчыны павінна быць сумесным клопатам дзяржаўных і грамадскіх структур. Нацыянальнае заканадаўства павінна стварыць ільготы для фізічных і юрыдычных асоб, якія накіроўваюць свае сродкі на захаванне гісторыка-культурнай спадчыны. Гэта дазволіла б прыцягнуць дадатковую ўвагу да помнікаў мінуўшчыны.

Усё гэта, будзем спадзявацца, наперадзе, як і бясконца доўгі жыццёвы шлях народа, найтрывалейшым грунтам для якога з'яўляецца нацыянальная спадчына.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ,**
**першы намеснік начальніка Галоўрэстаўрацыі**

---

межаваных магчымасцей карыстання роднай мовай, здабыткамі нацыянальнай культуры, скажоных уяўленняў пра айчынную гісторыю, непрымірымых адносін да буржуазнай ідэалогіі, філасофіі, эканамічнай тэорыі і да т.п. Усё гэта ўплывала на духоўнае аблічча чалавека, прымушала яго ісці на кампрамісы са сваімі сапраўднымі перакананнямі, сваім сумленнем, прыстасоўвацца. Не талерантнасць беларусаў вінаватая ва ўсім гэтым, а тыя эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя і ідэалагічныя ўмовы, у якія быў пастаўлены народ. Больш таго, менавіта талерантнасць дала магчымасць народу не «азвярэць», не ператварыцца ў маргінальна-крымінальную супольнасць. Нягледзячы на перашкоды, беларускі народ захаваў сваю душу, сваю высокую чалавечнасць, сваю дабрыню, сваю талерантнасць, свой духоўны патэнцыял.Народ захаваў прагу да свабоды, да дзяржаўнай незалежнасці, веру ў беларускую ідэю, нацыянальнае Адраджэнне. І калі передавая інтэлігенцыя звярнулася да яго з гэтымі заклікамі — падтрымаў яе.

Канешне, «не ўсё добра ў дацкім каралеўстве», яшчэ значная частка беларускіх грамадзян знаходзіцца пад уплывам сацыяльных ілюзій, ілжывых ідэй, імперскіх уяўленняў, якія «ўбіваліся» ў яго свядомасць на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Большая частка народа амаль што не ведае сваёй гісторыі, а калі ведае, то ў скажоным выглядзе, у яе тэндэнцыйнай, вялікадзяржаўнай інтэрпрэтацыі. Значная частка народа не валодае актыўна роднай мовай, далёкая ад нацыянальнай культуры.

Нягледзячы на ўсе гэтыя сумныя вынікі, мяркую, можна аптымістычна глядзець нават у самую бліжэйшую перспектыву. Расце самасвядомасць народа, у тым ліку палітычная і нацыянальная, павялічваецца рэйтынг беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, мастацтва і наогул культуры. Нацыянальна-дзяржаўнае Адраджэнне атрымала сваіх лідэраў. Але ж не трэба і захапляцца аптымізмам, як той глушэц. Гісторыя не гасцінец, ёй уласцівы і адкаты, яна не раз накіроўвала свой рух назад. І гэта мы павінны мець на ўвазе, каб наш аптымізм не быў пафарбаваны выключна ў ружовы колер.

І нарэшце, здаецца, што агонь канцэнтруецца не на тых цэлях: мы церпім ад нястачы, а не ад празмернасці талерантнасці. Чаго вартыя, у прыватнасці, заклікі да абмежавання свабоды слова, якія мы ўсё часцей чуем у апошні час? Як мы вырашаем спрэчныя пытанні сацыяльна-палітычнага жыцця, навукі і да т.п.? Існуюць «правілы гульні», якіх прытрымліваецца ўвесь цывілізаваны свет. Па-першае, палеміка павінна быць карэктнай (што не выключае яе вастрыні), па-другое, аргументаванай. Аўтар павінен адказваць за кожнае слова, кожны факт. Пакрыўджаны, несправядліва скампраметаваны мае права звярнуцца ў суд у абарону гонару і годнасці. Аднак ніводзін суд свету не прыме да вытворчасці справу, якая змяшчае ў сабе навуковую спрэчку. Дарэчы, гэтая норма зафіксавана і ў ГК Рэспублікі Беларусь (арт. 7). На падставе гэтых, цывілізаваных «правілаў гульні» і павінна весціся палеміка. Але ж у нашым посттаталітарным, перакручаным жыцці палітычны або навуковы апанент нярэдка ўспрымаецца як вораг і тут ужо не да талерантнасці. Прычым грашаць усе — і палітыкі, і журналісты, і навукоўцы. Вядома, можна таго ці іншага вучонага назваць «дармаедам», але ж гэта не высветліць ісціны. Пакрыўджаны навуковец у адказ назаве журналіста «невукам» — і вынік будзе той жа самы. Можна звярнуцца і ў пракуратуру, каб з яе дапамогай вырашаць тое ці іншае гістарычнае пытанне, але ж гэта ўжо было, было, было... і скончылася вельмі сумна і для тых, каго прыцягвалі да адказнасці, і для тых, хто прыцягваў.

Вось на гэтай, песімістычнай ноце я б хацеў завяршыць свае нататкі пра талерантнасць.

**С.ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук**

# «НЕ ЛЮБЛЮ ПАДСТРОЙВАЦЦА...»

Ззяе сакавіцкае сонца на пейзажах Аляксандра Антоненкі — выстава сямідзесяці карцін размешчана ў фае кінатэатра «Кастрычнік». Ён — прафесійны мастак, у 1978 годзе закончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Жыве ў Барысаве. Яго манера — пастозная — нанясенне вялікай колькасці фарбы на палатно. Хочацца дакрануцца да яго рукою. Здаецца, што ад палатна зыходзіць цеплыня. Але яе выпраменьвае сама прырода — сакавіцкі лес, поле, сенакосны луг, рэчка на пейзажах «Сакавік», «Бабіна лета», «Пачатак восені», «Вечар», «Раніца на возеры», «На Плісе»...

Прырода — любімая тэма многіх жывапісцаў. Але любоў і шчырасць у ёй — лёс нямногіх. Чатыры гады жыве мастак у Барысаве. Да гэтага яго натхняла суровая прырода поўначы — жыў у Магаданскай вобласці. Сам жа родам з Брэстчыны. Матывы каплічкі, гасцінца на карцінах — усё гэта адтуль, з дзяцінства.

Можна параўнаць манеру, у якой працуе Аляксандр, з ткацтвам: як на габелене майстру трэба прапрацаваць кожны сантыметр, так і тут. Тытанічная праца, асабліва калі параўнаць са звычнай цяпер моднай гладкай тэхнікай, звыклай для большасці. Такія карціны купляюць. У Антоненкі ж — усё не так.

— Не люблю падстройвацца, — гаворыць ён.

У жывапісца ёсць спадзяванне, што людзі, якія жывуць з ім у адным горадзе, навучацца цаніць талент, а дзеці перастануць называць пейзаж афішай.

**Н. РЖЭУЦКАЯ**

**Калектыў выдавецтва «Беларусь» выказвае спачуванне дырэктару выдавецтва Кавалеўскаму Мікалаю Аляксеевічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**
**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*
*Х.Дунец (1932–35)*
*І.Гурскі (1935–41)*
*А.Куляшоў (1945–46)*
*М.Горцаў (1947–49)*
*П.Кавалёў (1949–50)*
*В.Вітка (1951–57)*
*М.Ткачоў (1957–59)*
*Я.Шарахоўскі (1959–61)*
*Н.Пашкевіч (1961–69)*
*Л.Прокша (1969–72)*
*Х.Жычка (1972–76)*
*А.Асіпенка (1976–80)*
*А.Жук (1980–86)*
*А.Вярцінскі (1986–90)*





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332–461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332–525, 331–985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332–525
пісьмаў і грамадскай думкі *331–985*
літаратурнага жыцця *332–462*
крытыкі і бібліяграфіі *332–204*
паэзіі і прозы *332–204*
музыкі *332–153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332–153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332–462*
навін *332–462*
мастацкага афармлення *332–204*
фотакарэспандэнт *332–462*
бухгалтэрыя *268–640*





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку"
Індэкс 63856. Наклад 17.000.
Нумар падпісаны 21.04.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

